# ЗЬМЕСТ

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



№ 3 (54) Сакавік 1930

ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930

# Вынікі III Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.

III-я Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя адбылася 25—29 студзеня 1930 г. Яна мела мэтай вырашыць некаторыя організацыйныя пытаньні і даць мэтодычную дапамогу мясцовым краязнаўчым організацыям.

На конфэрэнцыю былі выкліканы прадстаўнікі акруговых таварыстваў краязнаўства, прадстаўнікі навуковых устаноў, праца якіх зьвязана з краязнаўствам і прадстаўнікі ад 34-х раённых краязнаўчых організацый. Апрача гэтага ад раённых організацый прыехала 9 чалавек за кошт мясцовых організацый. Усяго ўдзельнічала на організацыйнай частцы 83 чал., а на мэтодычнай частцы 45 чал. На організацыйнай частцы конфэрэнцыі былі разгледжаны наступныя пытаньні: „Навукова-дасьледчая справа і краязнаўства ў пяцігодцы“ (акадэмік Пятровіч); „Справаздача ЦБ Краязнаўства і чарговыя задачы (т. Казак) і „Інформацыя аб І Усебеларускай Выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці“ (т. Таўкач).

Па першых двох дакладах асноўная ўвага як дакладчыкаў, гэтак і выступаўшых у спрэчках, была завострана на пытаньні перабудовы краязнаўчай працы, на ўзмацненьні тэмпаў працы і прыстасаваньні яе да тэмпаў і вымаганьняў соцыялістычнага будаўніцтва. Выступаўшымі адзначалася, што, калі краязнаўства мае некаторыя дасягненьні ў галіне гуманітарных навук (зьбіраньне слоўніка жывое мовы, зьбіраньне вуснай народнай творчасьці, вывучэньне гістарычных помнікаў, організацыя мясцовых музэяў), то гэтага нельга сказаць пра вывучэньне пытаньняў прыродна-географічных і грамадзка-экономічных галін. У гэтай галіне, у галіне вывучэньня вытворчых сіл краю, краязнаўствам, за выключэньнем некалькіх выпадкаў, амаль нічога ня зроблена. Гэтае пытаньне на конфэрэнцыі было пастаўлена ва ўсю шырыню. Асабліва ўвага конфэрэнцыі была сконцэнтравана на вывучэньні асноўных пытаньняў нашага сучаснага будаўніцтва—колгаснага руху і паасобных колгасных адзінак, а таксама на вывучэньні прамысловасьці. Як на організацыйнай частцы конфэрэнцыі, гэтак і на мэтодычнай гэтыя пытаньні былі найбольш балючымі і навокал іх разгортваліся спрэчкі. Конфэрэнцыя падкрэсьліла, што ў галіне вывучэньня гэтых пытаньняў і наогул грамадзка-экономічных галін справа пасоўваецца наперад вельмі марудна: да гэтага часу няма належна распрацаваных мэтодычных указаньняў. Конфэрэнцыя даручыла ЦБК зьвярнуцца да Прэзыдыуму БАН, Дырэкцыі Навукова-Дасьледчага Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна і Інстытуту Прамысловасьці з просьбай даць указаньні адпаведным інстытуцыям,

увязаць сваю працу з краязнаўчымі організацыямі і прысьці на дапамогу ў распрацоўцы адпаведных пытаньняў. Асабліва гэта тычыцца катэдры коопэрацыі і колектывізацыі, катэдры штандорту БАН, катэдры экономікі і організацыі, аддзелу мэліорацыі і культуры балот НДІ і іншых.

Другім вялізным недахопам у краязнаўчай працы на мясцох конфэрэнцыя адзначыла адсутнасьць увязкі ў працы мясцовых краязнаўчых організацый з плянуючымі органамі і іншымі мясцовымі організацыямі. З краязнаўчымі організацыямі на мясцох часта ня лічацца, і яны існуюць, будучы прадастаўлены самім сабе. А між тым погляд няверны: ёсьць прыклады, калі краязнаўчыя організацыі сваёй працай значна дапамагаюць у практычным соцыялістычным будаўніцтве. Т. Крукоўскі, старшыня Мазырскага Акруговага Таварыства Краязнаўства, прывёў прыклад з практыкі Мазырскага Таварыства, як яно на конкрэтнай працы прымусіла лічыцца мясцовыя організацыі з краязнаўчым Таварыствам. Дарожны аддзел Мазырскага АВК намеціў па пляну брукавы матар'ял для пабудовы дарогі вазіць з Украіны. Таварыства Краязнаўства выступіла супраць гэтага, яно давяло, што гэты матар'ял вельмі лёгка здабыць паблізу і паказала мясцовасьць, дзе можна здабыць патрэбны матар'ял. У процэсе працы Дарожны аддзел пераканаўся ў правільнасьці пададзеных вестак і праца абышлася значна таней.

Пасьля гэтага Таварыства Краязнаўства набыло пэўны аўторытэт у вачох гаспадарчых органаў г. Мазыра, і апошнія па розных пытаньнях мясцовай гаспадаркі і будаўніцтва сталі зварочвацца ў Таварыства Краязнаўства. Вось характэрны прыклад карыснасьці і важнасьці краязнаўства ў справе мясцовага будаўніцтва.

Зразумела, што ня ўсе нашы краязнаўчыя організацыі настолькі аўторытэтны, ня ўсе настолькі ўпэўнены ў сваіх сілах, каб выступіць так сьмела і рашуча з прапановамі. У большасьці нашы краязнаўчыя організацыі слабыя, няўпэўненыя ў сваіх сілах. Мясцовыя організацыі не падтрымаюць іх, а то нават абарвуць, і яны замыкаюцца ў сябе, або зусім апускаюць рукі, і парывы іх гінуць у самым пачатку. Надаючы вялікае значэньне справе краязнаўчага вывучэньня асабліва ў сучасны момант, момант вялікай перабудовы краіны, мясцовым організацыям патрэбна ўсямерна стымуляваць і падтрымліваць ініцыятыву мясцовых краязнаўцаў у справе вывучэньня тых ці іншых пытаньняў краязнаўства.

У справе падрыхтоўкі краязнаўчага актыву конфэрэнцыя даручыла ЦБК прыняць больш рашучыя меры. Конфэрэнцыя констатавала, што да гэтага часу няма належнай яснасьці ў пытаньні кіраўніцтва школьна-краязнаўчым рухам у асьветных установах, што Наркамасьветы ня цікавіўся пытаньнямі школьнага краязнаўства, што да гэтага часу ня ўтворана сталага цэнтру для кіраўніцтва асьветным краязнаўствам. І нават тыя мерапрыемствы, якія дагэтуль зроблены і прасунуты ў асьветныя ўстановы, як выкладаньне курсу краязнаўства ў тэхнікумах, стаяць, у сувязі з скарачэньнем курсу, пад пагрозай. Зразумела, што гэта будзе вялікім ударам па пашырэньню краязнаўчага руху ў далейшым. Таксама дрэнна абстаіць справа з прасякненьнем школьных падручнікаў краязнаўчым зьместам. Калі ў програмах сямігодак і былі элемэнты краязнаўства, то гэтага нельга сказаць пра нашы падручнікі: яны далёкі ад гэтага. Тое самае трэба сказаць і пра нашы політасьветныя ўстановы. У той час, калі ў РСФСР

нардамы і хаты-чытальні вядуць спэцыяльныя дзеньнікі краязнаўчага зьместу, у нашых палітасьветных установах у галіне краязнаўчай, ня гледзячы на ўжытыя ў гэтым напрамку захады, нічога ня зроблена. Наогул у справу кіраўніцтва асьветнага краязнаўства ЦБК і НКА трэба ўнесьці больш яснасьці, трэба знайсьці агульную мову, ад чаго як справа школы, гэтак і справа разьвіцьця краязнаўчага вывучэньня нашай краіны ўздымецца на большую вышыню.

У галіне краязнаўчай працы сярод нацыянальных меншасьцяў конфэрэнцыя паставіла пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня пры краязнаўчых організацыях як раённых, гэтак і акруговых таварыстваў, паасобных сэкцый. Конфэрэнцыя выказала думку, каб краязнаўчая праца па вывучэньню тых ці іншых пытаньняў у нацыянальным разрэзе вялася ў агульнай краязнаўчай сыстэме, а не ў паасобных сэкцыях. Конфэрэнцыя даручыла ЦБК разам з нацсэктарамі БАН заняцца вывучэньнем гэтага пытаньня з тым, каб паставіць яго на абгаварэньне на наступнай конфэрэнцыі.

Буйны рост колгаснага руху, організацыя раёнаў суцэльнай колектывізацыі паставілі перад краязнаўчым рухам пытаньне аб формах і зьмесьце краязнаўчай працы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі. Конфэрэнцыя даручыла ЦБК вывучыць грунтоўна гэтае пытаньне на аснове працы краязнаўчых адзінак у Рагачэўска-Жлобінскім агрокомбінаце і перанесьці вопыт працы гэтых організацый на іншыя раёны. Адначасова даручана ЦБК заняцца вывучэньнем і распрацоўкай пытаньня пабудовы краязнаўчых музэяў з пункту погляду адпаведнасьці іх сучасным вымаганьням. Конфэрэнцыя занялася таксама пытаньнямі паляпшэньня соцыяльнага складу краязнаўчых організацый, даручыўшы ЦБК правесьці да мая месяца перарэгістрацыю членаў і ачышчэньне шэрагаў ад чужых элемэнтаў. Адначасова конфэрэнцыя выказалася за неабходнасьць павялічэньня і паляпшэньня складу членаў за кошт робочых і сялян-колгасьнікаў.

Узяты курс на тое, каб да 1 студзеня 1931 г. давесьці процант членаў рабочых—да 5 і сялян - колгасьнікаў да 15. Краязнаўчыя організацыі на мясцох у далейшай дзейнасьці павінны кіравацца гэтымі ўказаньнямі конфэрэнцыі.

Конфэрэнцыя падкрэсьліла таксама, што агульныя мэтоды соцыялістычнага будаўніцтва, як самакрытыка, гэтак і соцыялістычнае спаборніцтва, апрача некалькіх выпадкаў, не разгарнуліся ў краязнаўчай справе. Конфэрэнцыя заклікала ўсе краязнаўчыя організацыі ўжыць у далейшай сваёй працы гэтыя, найбольш дзейныя мэтоды, пролетарскага будаўніцтва.

Па дакладу прадстаўніка Галоўвыстаўкому конфэрэнцыя пастанавіла зьвярнуцца да ўсіх краязнаўчых організацый з заклікам прыняць актыўны ўдзел у організацыі І-ай Усебеларускай Выстаўкі Сельскай Гаспадаркі і Прамысловасьці, як праз удзел прадстаўнікоў краязнаўчых організацый у мясцовых камісіях па Выстаўцы, гэтак па адбору і дасылцы экспонатаў на Выстаўку, як у агульныя аддзелы, гэтак і ў куток краязнаўства.

Вось асноўныя пытаньні, на якіх была сконцэнтравана ўвага III Краязнаўчай Конфэрэнцыі, вось галоўнейшыя пастановы конфэрэнцыі, якімі ў сваёй далейшай працы краязнаўчыя організацыі павінны кіравацца. Ад таго, як будуць ажыцьцёўлены гэтыя рашэньні III Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі, ад таго наколькі свае-

частва будуць організацыямі ўлічаны новыя абставіны і ад таго, як хутка яны змогуць перабудаваць сваю працу па-новаму, будзе залежаць далейшы лёс і пашырэньне краязнаўчага руху ў БССР. Усе краязнаўчыя організацыі павінны ўважліва прапрацаваць пастановы конфэрэнцыі і пакласьці іх у аснову сваёй далейшай дзейнасьці.

*А. Казак.*

---

**К. Кіпрыянец.**

# Прамысловы сэктар на першай Усебеларускай Выстаўцы сельскае гаспадаркі і прамысловасьці.

Сэктар прамысловасьці на 1-й Усебеларускай Выстаўцы сельскае гаспадаркі і прамысловасьці павінен выканаць тыя задачы, якія пастаўлены перад Усебеларускай Выстаўкай:

1) Яскрава адзначыць кіруючую ролю Комуністычнае партыі ў індустрыялізацыі краіны і соцыялістычным будаўніцтве пад лёзунгам: „Партыя і Ленін у соцыялістычным будаўніцтве".

2) Паказаць усё лепшае ў нашым соцыялістычным будаўніцтве за 10 год з адначасовым параўнаньнем адмоўных бакоў, якія перашкаджаюць разьвіцьцю соцыялістычнага сэктару, асабліва ў галіне колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

3) Узварушыць усю савецкую грамадзкасьць для выкананьня пяцігодкі соцыялістычнае перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі, скарыстоўваючы шырока вопыт соцспаборніцтва, як адну з форм уцягненьня ўсёй рабочай клясы, батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас у соцыялістычную рэконструкцыю.

4) Вызначыць ролю буйных гаспадарак у соцыялістычнай рэконструкцыі і перавагу іх перад дробнай гаспадаркай, згуртаваўшы сапраўдную ўвагу ўсіх удзельнікаў на Усебеларускай Выстаўцы каля гэтага пытаньня і дабіцца, каб усе экспонаты паказвалі значэньне буйное гаспадаркі ў рэконструкцыйны пэрыод.

5) Выявіць вынікі ліквідацыі кулака, як клясы, і замену яго вытворчасьці—вытворчасьцю колгасаў і саўгасаў і паказаць ролю рабочае клясы ў колгасным будаўніцтве.

Для ажыцьцяўленьня пералічаных задач, сэктар прамысловасьці павінен адлюстраваць наступнае:

а) кіруючую ролю Комуністычнае партыі ў соцыялістычнай перабудове краіны;

б) дасягненьні прамысловасьці за 10 год існаваньня БССР і перашкоды, якія меліся ў галіне яе разгортваньня;

в) задачы індустрыялізацыі БССР;

г) значэньне кіруючай ролі прамысловасьці ва ўсім будаўніцтве гаспадаркі БССР;

д) ролю прамысловасьці ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі с/г. і асабліва па садзейнічаньню да хутчэйшае яе колектывізацыі.

Каб выканаць вышэйпералічанае, сэктар прамысловасьці павінен максымум увагі зьвярнуць на прадстаўленьне на выстаўку ўсёй вытворчасьці БССР. Прамысловасьць прадстаўляе натуральныя экспо-

наты, якія характарызуюць нашы вырабы, а ў графічных матар'ялах будзе прадстаўлена экономіка прамысловасьці за гады Рэволюцыі. Вялікае месца сярод натуральных экспонатаў прамысловасьці павінны заняць вырабы с/г. машын, якія ў сучасны момант значна пашырыліся ў сваёй вытворчасьці. Тут будуць прадстаўлены глебаапрацоўчыя, уборачныя і інш. с/г. машыны. Адначасова з вырабам с/г. машын, наша вытворчасьць пакажа выраб машын па перапрацоўцы сырцу беларускіх выкапняў—машыны па падрыхтоўцы ўгнаеньня. Дэмонстрацыя машын з вытворчасьці фабрык і заводаў БССР, з усёй яскравасьцю пакажа мэтавую ўстаноўку па стандартызацыі машын, якія адпавядаюць запатрабаваньням абагуленага сэктару с/г.

Процэсы індустрыялізацыі с/г. будуць паказаны праз організацыю на выстаўцы некаторых відаў перапрацоўкі с/г. сыравіны. Перапрацоўка на тэрыторыі выстаўкі бульбы, выкапняў, штучных угнаеньняў, дрэва і інш. пазнаёміць экскурсантаў з усімі відамі машыннай перапрацоўкі с/г. сырцу ў БССР.

Тое, што будзе прадстаўлена ў выглядзе экспонатаў у павільёнах, дасьць поўны малюнак, як разьвіваецца прамысловасьць у БССР і як яна садзейнічае колектывізацыі с/г.

Социялістычнае спаборніцтва допоўніць сабой барацьбу рабочае клясы, пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі, за социялістычную рэконструкцыю прамысловасьці і с/г.

Сэктар прамысловасьці вызначыць малюнак разьвіцьця прамысловасьці паводле пяцігадовага пляну.

Прамысловасьць БССР па відах разьбіваецца на рэспубліканскую, мясцовую і саматужную. Гэтыя аддзелы маюць таксама шэраг п/аддзелаў, у якіх і будзе адлюстравана ўся прамысловасьць БССР і будзе разьмешчана ўся прамысловасьць у 5-ці павільёнах.

Рэспубліканская прамысловасьць мае 12 п/аддзелаў, якія будуць прадстаўлены на выстаўцы:

1) Торф і мінэральныя выкапні, 2) энэргетыка, 3) мэталяапрацоўчы, 4) дрэваапрацоўчы, 5) будаўнічы матар'ял і будаўніцтва, 6) хэмічны, 7) скураны і шчацінны, 8) тэкстыль і швэйны, 9) штучных угнаеньняў, 10) харчсмаковы, 11) папяровы, 12) агульны.

Торф і мінэральныя выкапні павінны на выстаўцы заняць асноўнае месца сярод усяе прамысловасьці, бо торф у ўмовах БССР зьяўляецца крыніцай энэргетыкі—ці рухавіком усёй прамысловасьці. Торф у нашых умовах заменіць паліва і зьявіўся ўжо на сёньня вялікім штурхачом па перабудове ўсёй народнай гаспадаркі. На выстаўцы мажліва бачыць, як торф ужываецца для мэт прамысловасьці і с/г. Гэты п/аддзел прадставіць Белторф і Горная Група ВСНГ (вышукі). Тут будзе прадстаўлена роля торфу ў натуральных экспонатах і модэлях, колькасьць здабываемай масы, пэрспэктыва па скарыстаньні торфу пры социялістычнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі БССР. Белторф дасьць: 1) модэль стандартнай элеватарнай устаноўкі, якая пакажа ўсе процэсы па здабычы і бліжэйшаму транспорту торфу і ўсе стадыі сушкі яго. Для руху модэлі ўстанаўліваецца электрамотор у 1 НР, 2) модэль Багера—удасканаленая мэханізаваная ўстаноўка для бяспністых балот, гэтая модэль будзе ў руху моторам 2 НР. Экспонаты па перапрацоўцы торфу: брыкет, кокс, сьпірытус, фарбы і інш. шырака прадэмонструюць ролю торфу ва ўсёй народнай гаспадарцы. Графічны матар'ял адлюструе тарфянае багацьце БССР і яго ролю ў прамысловасьці і с/г.

Горная група мяркуе паказаць мінэральныя багацьці БССР, выявіць усе навейшыя дасягненьні ў галіне горна-вынаходніцкай тэхнікі і паказаць магчымасьць дасьледваньня багацьцяў нетраў зямлі. Карысныя выкапні ў раённым разрэзе, дэмонстраваньне продукцыі выкапняў, усе ўзоры сыравіны, установка перапрацоўкі і лябораторнае абсталяваньне з электрычнай печкай, будаўнічыя матар'ялы з гліны, пяску, крэйды і інш. выстаўляюцца на выстаўцы як абразкі, а таксама будуць паказаны новыя абразкі матар'ялаў з беларускай мінэральнай сыравіны і скарыстаньне іх у будаўніцтве. Адначасова з экспонатамі, будуць паказаны як узоры сыравіны, таксама і гатовая продукцыя, вяжучыя матар'ялы, якія апрацоўваюцца з вапны і інш., апрацоўка каменьня (шліфоўка) беларускі калі, сульфат - амоні, карбідкальцы, хэмічныя продукты з торфу, беларуская парцаляна, фарбы, асбест і інш. Фотаздымкі, дыяграмы і мапы дапоўняць гэты аддзел.

Асноўнае месца ў п/аддзеле энэргетыкі зойме Асінбуд, які шырака прадэмонструе як самае будаўніцтва, так і моцнасьць Асінбуду, як рухавіка прамысловасьці Віцебшчыны, Магілеўшчыны і Аршаншчыны. У макетах, дыяграмах, фотаздымках можна будзе бачыць усё будаўніцтва Асінбуду.

На лініі ВСНГ прадстаўляецца ўся прамысловасьць электрыфікацыі БССР. У асобнай мапе можна бачыць як электрыфікавана прамысловасьць і як скарыстоўваюцца ўнутра-прамысловыя энэргетычныя рэсурсы—адкіды паліва і цяпла.

Тут прадстаўлена будзе пяцігодка электрыфікацыі БССР, з адзнакай раёнаў электрыфікацыі, ахоп усёй БССР магістральнымі лініямі электраперадач.

Гомельская электрастанцыя, якая будуецца на Кабялянскім торфмасыве, пакажа ў асобным макеце забясьпеку мясцовае прамысловасьці электраэнэргіяй.

Дыяграмы дадуць поўную характарыстыку энэргетычных паказальнікаў БССР і выявяць энэргаўзброенасьць рабочага БССР.

Металёапрацоўчая прамысловасьць прадставіць свае дасягненьні за 10 год існаваньня БССР і выявіць пэрспэктыву яе разьвіцьця паводле пяцігодкі. Задача п/аддзелу мэталяапрацоўкі выявіць забясьпечанасьць сваёй вытворчасьцю БССР. Асабліва будзе зьвернута ўвага на ролю мэталяапрацоўкі ў галіне індустрыялізацыі БССР.

С/г. машыны і глебаапрацовачныя прылады, уборачныя, машыны для падрыхтоўкі кармоў, прыборы і прылады малочнага інвэнтару, абсталяваньне крухмальных заводаў, машыны мэханізацыі будаўнічых работ, абсталяваньне абутковых фабрык і розныя машыны і прылады будуць прадстаўлены на выстаўцы.

Вытворчасьць усіх заводаў БССР шырака пакажа свае вырабы машын і розных прылад. Усе машыны і прылады будуць разьмешчаны ў павільёнах прамысловасьці.

Лесаапрацовачны п/аддзел у натуральных экспонатах пакажа ролю гэтага п/аддзелу ў будаўніцтве БССР і экспортнае значэньне лесаматар'ялаў. Гэтыя экспонаты прадстаўляюцца Лесбелам, які апрача натуральных экспонатаў, у дыяграмах і картаграмах пакажа базу сырцу лесападрыхтоўчай і дрэваапрацоўчай прамысловасьці. З усёй вытворчасьці больш шырока будзе паказана фанерная, на якую ёсьць попыт ня толькі з розных месц СССР, а і з замежнага рынку.

Будаўнічы п/аддзел. Белдзяржбуд свае экспонаты прадстаўляе ў выглядзе будынку, пабудаванага з матар'ялаў, якія ўжываюцца пры будаўніцтве ў сучасны момант. Экспонаты будуць прадстаўлены самім павільёнам,—Белдзяржбуд будуе павільён з саміх экспонатаў.

У гэтым павільёне будзе паказана ўся праца трэсту з вызначэньнем тэрміну выкананьня розных пабудоў. Прадугледжана на далей скарыстаць павільён для Менскага Політэхнікуму, які зможа весьці досьлед па спробе будаўнічага матар'ялу. Павільён застанецца на тэрыторыі выстаўкі.

Матар'ял у дыяграмах і картаграмах выявіць ролю будаўнічага трэсту.

Белбудтрэст прадставіць розныя ўзоры будаўнічага матар'ялу ў выглядзе вапны, цэглы, ізразцоў, плітак і інш. Тут-жа побач з узорамі будаўнічага матар'ялу будзе паказана і сыравіна, з якой вырабляецца сам матар'ял.

Экспонаты гэтага п/аддзелу будуць разьмешчаны ў выглядзе падлог, сьцен, печак і інш.

Графічны матар'ял выявіць поўны малюнак разьвіцьця Белбудтрэсту і пакажа пэрспэктыву разьвіцьця трэсту паводле пяцігадовага пляну. Хэмічная прамысловасьць у экспонатах дасьць свае вырабы і пакажа разьвіцьцё яе па асобных галінах. Запалкавая прамысловасьць пакажа на выстаўцы розныя сярнічкі і ў асобных шчытох—усе процэсы вырабу сярнічак. Графічны матар'ял выявіць рост гэтае прамысловасьці, пакажа значэньне яе ў народнай гаспадарцы БССР і дасьць малюнак далейшага разьвіцьця гэтае прамысловасьці паводле пяцігадовага пляну.

Шкляная прамысловасьць прадставіць свае вырабы і паўфабрыкаты, пакажа ўсю вытворчасьць. Ёсьць меркаваньні аб арганізацыі на тэрыторыі Выстаўкі некаторых вырабаў шкляной промысловасьці. Вырабы крэйды і магнэзіі прадугледжана прадставіць на выстаўцы ў экспонатах сыравіны і паўфабрыкатах, можна будзе бачыць усе процэсы гэтае вытворчасьці.

Скураная і шчацінная прамысловасьць прадстаўляецца Скуртрэстам і Белшчацінай.

Скуртрэст, пачынаючы ад сыравіны, кары, паўфабрыкатаў, гатовага тавару, продукцыі адкідаў і канчаючы абуткам, пакажа ўсю вытворчасьць. Гэтая вытворчасьць абяцае паказаць розьніцу між старым і новым вырабам.

Побач з вырабамі вытворчасьці ў графічных матар'ялах, экономічныя паказчыкі дадуць поўны малюнак скураной справы ў БССР і яе пэрспэктывы паводле пяцігодкі.

Каб у сапраўднасьці глядач мог бачыць розьніцу паміж старой і новай скураной вытворчасьцю, у макетах маюць быць паказаны стары Магілеўскі завод і завод Бальшавік у Менску.

Шчаціна на выстаўцы будзе прадстаўлена ў выглядзе стандартаў—кітайскага, парыскага і польскага і волас усіх гатункаў. Вырабы з шчаціны—розныя шчоткі, пэндзалі і г. д. будуць шырака паказаны на выстаўцы.

Тэкстыльная і швэйная прамысловасьць. Гэтую прамысловасьць прадставіць Тэкстыльтрэст ад Панчошна-трыкатажнай фабрыкі, Дняпроўскай мануфактуры, Белшвэйтрэст і Галянтарэйнай фабрыкі.

Ільняная промысловасьць будзе экспанаваць усе вырабы і паўфабрыкаты з сваіх фабрык. Тут-жа можна будзе бачыць шпулькі нітак розных нумароў і інш.

Бавоўняна-папяровая прамысловасьць прадэмонструе і частку вытворчасьці ў натуры—будзе паказаны вузка-папяровы варштат і матальная машына ў працы. Ваўняная прамысловасьць зьявіцца з сваімі вырабамі, пачынаючы ад воўны і канчаючы сукном.

Па ўсіх відах пералічанай прамысловасьці будуць прадстаўлены дыяграмы і картаграмы, якія дадуць поўны малюнак вытворчасьці і вызначаць далейшыя шляхі яе разьвіцьця паводле пяцігодкі.

Панчошна-трыкатажная прамысловасьць пакажа ў натуры вырабы сваёй вытворчасьці. Побач з вырабам на Выстаўцы гатовых матар'ялаў будзе прадэманстравана ўся вытворчасьць.

Дняпроўская мануфактура (Дубровенская, Аршанскай акругі) установіць варштат, дзе будзе навочна паказаны выраб тканіны. Апрача непасрэднай працы ткацкага варштату, будзе прадстаўлена ўся вытворчасьць фабрыкі. Дыяграмны матар'ял дасьць малюнак разьвіцьця гэтай фабрыкі—ад уласьніка да сучаснага моманту.

Швэйная прамысловасьць у ўмовах БССР мае два гістарычныя этапы: 1) саматужны характар працы і 2) фабрычны—сучасны від працы. Гэтыя два этапы швэйнай прамысловасьці будуць належным чынам адлюстраваны: кравец-саматужнік за працай з адзначэньнем колькі ён траціць часу на выраб гатовай вопраткі і швэйная прамысловасьць з сучасным фабрычным абсталяваньнем.

Будуць паказаны некаторыя малюнкі фабрычнай працы: устанаўляецца закройная машына і будуць дэманстравацца асобныя працэсы некаторых вырабаў (пальто). Графічны матар'ял пакажа рост гэтай прамысловасьці і яе пэрспэктыву паводле пяцігодкі.

Галянтарэйная фабрыка дае свае экспанаты ў выглядзе вырабаў і паўфабрыкатаў: рогі, косьці, бляха і інш., гузікі, грэбні і г. д.

Харчсмаковая прамысловасьць у выглядзе дражджэй, крухмалу, патакі, масла, піва і цукерачнае вытворчасьці покажа ўсё тое, што вырабляецца ў БССР. На тэрыторыі Выстаўкі будзе працаваць невялікі крухмальны завод, тут-жа будуць узорныя капцы для хаваньня бульбы. Прадугледжана, што завод перапрацуе 200 тон бульбы.

Па харчасмаковай прамысловасьці экспонаты будуць характарызаваць сыравіну, вырабы і ў дыяграмах можна будзе бачыць ролю гэтае прамысловасьці ў с/г і яе пэрспэктыву. У макетах будуць прадстаўлены нашы заводы з усімі відамі перапрацоўкі продукцыі.

Будзе паказана сьпіртавая прамысловасьць і тут-жа будзе прадэманстраваны выраб лаку-палітуры.

Махорачная фабрыка пакажа свае вырабы і ў дыяграмах разьвіцьцё гэтай прамысловасьці. Папяровая прамысловасьць прадставіць модэлі галоўных машын, а таксама будуць паказаны ўзоры драўнінай масы, саломенай, цэлюлёзнай і рызьзёвай паўмасы. Тут-жа можна будзе бачыць розныя ўзоры паперы ад кардону да канвэрту. Макет фабрыкі дапоўніць малюнак гэтай вытворчасьці, а дыяграмы і картаграмы выявяць экономічны бок гэтае прамысловасьці яе пэрспэктыву паводле пяцігодкі.

Палата мер і вагі будзе таксама прадстаўлена на Выстаўцы.

Пакажа свае вырабы акулярная фабрыка. Мясцовая прамысловасьць дасьць поўны малюнак скарыстаньня мясцовай сыравіны, а па-

кожнай акрузе пакажуць свае вырабы розныя трэсты і комбінаты. У гэты разьдзел уваходзяць і працколектывы.

Мясцовая прамысловасьць дасьць свае экспонаты ў вырабах і графічных матар'ялах, дзе будуць дубляваць і экспонаты рэспубліканскай прамысловасьці.

Саматужная прамысловасьць уключае Белсампрамсаюз, інвалідную коопэрацыю і спраўдамы. У гэтым аддзеле можна будзе навочна пазнаёміцца з вытворчасьцю прамысловай коопэрацыі БССР, асабліва будзе паказана сувязь гэтага промыслу з с/г. Дрэваапрацоўчая, мэталяапрацоўчая і інш. прамысловасьць будзе прадстаўлена на Выстаўцы, а таксама шавецкі, кравецкі і ткацкі промысел. Прадугледжана ўстаноўка варштату „Самалет" і ў дыяграмах паказаць перавагу яго працы перад сялянскай індывідуальнай працай.

Аддзел пазнаёміць з промысламі, якія маюць экспортнае значэньне—смалакурэньне і сьпірта-парашковая вытворчасьць. Усе процэсы гэтых вырабаў будуць паказаны ў натуры.

Плян саматужнае прамысловасьці прадугледжвае сабраць вырабы сваёй вытворчасьці па апрацоўцы скур, швэйнай прамысловасьці, ткацкай і трыкатажнай, шапавальнай, мэталяапрацоўчай, дрэваапрацоўчай, будаўнічай харчсмаковай, ганчарнай, хэмічнай, канатна-вяровачнай, вырабы з рагоў і інш.

Як відаць з пераліку саматужнага промыслу, на выстаўцы будзе прадстаўлена ўсё, што мае месца вырабу, як у саматужнай так і інваліднай коопэрацыі.

Спраўдом пакажа свае вырабы.

Вышэйпералічанае сьведчыць, што сэктар прамысловасьці пакажа сваю ролю ў галіне індустрыялізацыі БССР.

У павільёне „быт і праца" будзе паказаны сучасны быт рабочага і мінулы быт.

---

**А. Маслава.**

# Краязнаўства ў РСФСР [1]).

Краязнаўства за апошні час стала адным з самых актуальных пытаньняў навукі і грамадзкасьці.

У краязнаўчай працы да рэволюцыі пераважаў элемэнт гістарычна-археолёгічны і этнографічны. Краязнаўчая праца пачалася задоўга да таго, як зьявіўся тэрмін „краязнаўства". І раней уся праца па вывучэньню краю азначалася: „радзімазнаўства", „краязнаўства".

Аб краязнаўстве мажліва гаварыць толькі тады, калі зьяўляецца самая ідэя вывучэньня мясцовага краю, а таксама і спробы організаваць мясцовыя сілы для вывучэньня свайго краю, карыстаючыся для гэтага хаця-б сіламі асобных вучоных, якія працуюць у розных галінах навукі. Калі выходзіць з гэтага пункту погляду, дык аб краязнаўстве, як аб сыстэматычным навуковым вывучэньні радзімы, мажліва гаварыць толькі з заснаваньня Акадэміі Навук 1725 г., якая ставіць сабе мэтай разьвіцьцё і распаўсюджваньне ведаў.

---

[1]) Для гэтага артыкулу мною была выкарыстана расійская краязнаўчая літаратура, галоўным чынам працы Муратава, Абрамава і Дзенс-Літоўскага і інш. ды часткова вынікі асабістай практыкі.

Побач з Акадэміяй Навук дзейнасьць старэйшага Вольна-Эканомічнага, Рускага-Географічнага і іншых навуковых таварыстваў у гісторыі разьвіцьця радзімазнаўства—краязнаўства вялізарная.

Адзначаючы дзейнасьць навуковых таварыстваў, мажліва сказаць, што яны многа рабілі для вывучэньня краіны, апроч профэсіянальных навуковых працаўнікоў стараліся згуртаваць і мясцовыя сілы. Але ўсё-ж яны ня здолелі папулярызаваць ідэю краязнаўства, абярнуць яе ў рух, які захопліваў-бы шырокія грамадзкія колы мясцовае грамады. Бязумоўна вінаваты ў гэтым ня столькі кіраўнікі Таварыства, колькі тыя ўмовы, у якіх даводзілася жыць і працаваць. Тая колькасьць сталых перашкод, якія акалялі краязнаўцу, найгорш уплывалі на разьвіцьцё ўсяе краязнаўчае справы.

Таварыствы вывучэньня мясцовага краю, якія організаваліся ў гэты час, зьяўляюцца цікавым і своеасаблівым зьявішчам грамадзкасьці. Мясцовыя таварыствы імкнуцца аб'яднаць усіх асоб, якія цікавяцца краем, ня гледзячы на іх спэцыяльнасьць. Гэтыя таварыствы не маглі весьці так працу, як цэнтральныя навуковыя таварыствы, але затое яны мелі мажлівасьць выкарыстаць самыя рознастайныя веды аб мясцовым жыцьці, праз сваіх сяброў, дзякуючы іх розным профэсыянальным ведам. Мясцовыя таварыствы, у процівагу цэнтральным навуковым таварыствам, ставяць сабе мэту вывучыць свой край з усімі яго асаблівасьцямі і патрэбамі. Пры гэтым побач з навуковымі мэтамі ставяць і практычныя пытаньні, зьвязаныя з жыцьцём мясцовага краю і паляпшэньнем эканомічных умоў данай мясцовасьці.

Такім чынам, мясцовыя краязнаўчыя таварыствы могуць прыцягнуць да сваёй працы большы лік людзей, чымся цэнтральныя навуковыя таварыствы, а таксама могуць сабраць больш рознастайны матар'ял і ставіць пытаньні ў сувязі з мясцовымі патрэбамі краю. Але на жаль яны часта ня могуць выкарыстаць сабраны вельмі каштоўны матар'ял для навуковай працы, бо не заўсёды маюць патрэбныя сілы, якія здолелі-б весьці сыстэматычную навуковую працу, а значыць на мясцох ёсьць патрэба ў кіраўніцтве з цэнтру, а навуковыя працаўнікі цэнтру наадварот—маюць патрэбу ў сабраным матар'яле мясцовых працаўнікоў.

Толькі пасьля 1905-6 г. краязнаўства пераходзіць на новыя рэйкі. Яшчэ больш організоўваецца мясцовых таварыстваў, якія ставяць сабе мэтаю вывучэньне своеасаблівых мясцовых умоў і прыродных сіл мясцовага краю і ставяць пытаньне зьвязаныя з патрэбамі данай мясцовасьці. Неабходнасьць дасьледваньня, адчувалася выразьней у гэты час, дзякуючы нявыкарыстаным прыродным багацьцям краіны. Гэткія таварыствы пачынаюць сваю працу, напрыклад, у 1908 годзе „Общество изучения Сибири и улучшения ее быта", „Архангельское Общество изучения Русского Севера", „Костромское научное Общество по изучению местного края", „Вологодское Общество изучения Северного Края" і шэраг іншых.

Гэтыя таварыствы высоўваюць на першы плян пытаньні, зьвязаныя з практычным жыцьцём мясцовага краю і паляпшэньнем эканомічных умоў яго.

Мясцовая адміністрацыя падазрона адносіцца да дзейнасьці таварыстваў і робіць спробы ўзяць іх пад свой контроль. Адзін з організатараў Валагодзкага Таварыства вывучэньня паўночнага краю ў сваіх успамінах расказвае, што калі закладчыкі склалі статут і падалі яго на зацьверджаньне, дык губарнатар Хвастоў заявіў, што сам гатоў

прысутнічаць на першым сходзе, затым прапанаваў у склад праўленьня чатырох чыноўнікаў. На шчасьце гэтыя чыноўнікі аказаліся занятымі сваёй службай і не перашкаджалі працаваць тым, каму гэтая справа была блізкай. Іншы раз здаралася, што некаторыя з прадстаўнікоў адміністрацыі, шчыра зацікаўленыя краязнаўчай працай, хацелі дапамагчы справе, арганізоўвалі таварыствы, але праца ў большасьці была мала пасьпяховай, бо вялася яна самімі-ж чыноўнікамі-бюрократамі, якія не жадалі падтрымліваць сувязь з насельніцтвам. З такіх таварystваў адзначым таварыства вывучэньня Аланецкай губ., арганізаванае ў 1913 г., па ініцыятыве мясцовага віцэ-губэрнатара, які вельмі цікавіўся вывучэньнем поўначы, усё-ж таварыства ня здолела пусьціць глыбокіх карэньняў. Праца вялася разрозьнена, не захопліваючы грамадзкай увагі. Мясцовыя таварыствы не пасьпелі шырака разгарнуць сваю дзейнасьць, часткова з тэй прычыны, што яны ўзьнікалі ўсяго за некалькі год да вайны, якая цяжка адбілася на ўсёй культурнай і навуковай працы нашай краіны.

Роўналежна з цэнтральнымі навуковымі і мясцовымі таварыствамі вялі працу ў галіне дасьледваньня краіны некаторыя дзяржаўныя ўстановы, якія мелі патрэбу ў тых або іншых вестках для правільнай пастаноўкі сваёй працы. Гэтак Вайсковае Міністэрства, Міністэрства Шляхаў Зносін, Марское Міністэрства, Земства і іншыя ўрадавыя ўстановы, прымушаныя вывучаць свой край у сваіх мэтах, вялі працу ў розных кірунках і зрабілі многа для краязнаўства.

Адна з характэрных рыс дарэволюцыйнага краязнаўства—імкненьне да вырашэньня большай часткаю адцягненых навуковых проблем, іншы раз вельмі важных, аднак яны не зьяўляліся актуальнымі пытаньнямі мясцовага жыцьця, і не магло быць інакай, бо грамадзка-палітычныя ўмовы не дазвалялі гэтага. Гэта было краязнаўства пануючае клясы дваран і абшарнікаў з мэтай уціскаваньня мас.

Надышоўшая вайна і рэволюцыя дапамагалі таму, што краязнаўства ўзышло на новы шлях, шлях адшуканьня прыродна-вытворчых сіл краіны, у якіх была крайняя патрэба, бо Расія была адрэзана ў значнай ступені ад усяго сьвету і аддадзена самой сабе. Вось тут краязнаўцы значна дапамаглі краіне. Вайна на краязнаўстве адбілася дваяка: з аднаго боку яна падарвала сілы краязнаўчых арганізацый (многія краязнаўцы былі мобілізаваны і некаторыя загінулі ў бойках), выклікала крызіс у грашовых сродках, а таксама ў друкарскай справе, які адбіўся на выданьнях краязнаўчых матар'ялаў і наогул на ўсёй краязнаўчай працы. З другога боку вайна падкрэсьліла ўсю важнасьць вывучэньня краю. Краіна апынулася ў бяспомачным становішчы часткова з тэй прычыны, што ня ведала, якімі рэсурсамі яна ўладае. Са справаздач некаторых мясцовых таварystваў відаць, што асабліва замарудзілася краязнаўчая праца ў першы год вайны, а ўжо потым, ня гледзячы на ўсё большыя і большыя страты, краязнаўчая праца ў некаторых мясцох пашырылася. Гэтак Валагодзкае Т-ва вывучэньня поўначы ў 1914 годзе выдае I вып. „Известий". Праз паўгода пасьля выданьня першага нумару выходзіць II вып. „Известий" у колькасьці 500 экз., у два разы большы па аб'ёму і багаты рознастайным краязнаўчым зьместам. Апроч „Известий" і адбіткаў твораў розных аўтараў Т-ва выдае „Путеводитель по Вологодской губернии".

Уплыў вайны асабліва выразна выявіўся на павялічэньні дзейнасьці Акадэміі Навук; калі тавараабмен Заходняй Эўропы занепадаў,

дык стала зусім зразумела, што неабходна ў найкарацейшы час узяць на вучот, выкарыстаць усе прыродныя багацьці, якія мае краіна. У 1915 годзе пры Акадэміі Навук ствараецца Сталая Камісія па Вывучэньні Прыродных Вытворчых Сіл Расіі („КЕПС"), якая адыграла вялікую ролю ў справе вывучэньня краіны.

Гэтая ўстанова згуртавала вакол сваёй працы ня толькі спэцыялістаў вучоных, але і прадстаўнікоў установ і вучоных таварыстваў.

Камісія прызнала бліжэйшай сваёй задачай: вучот ведаў аб багацьці краю і распачала складаньне шматтомнага выданьня „Естественные производительные силы России". Асабліва добра пайшла праца па ўкладаньні чацьвертага тому гэтага выданьня „Полезные ископаемые", які выходзіў асобнымі выпускамі, прысьвечанымі розным тэмам: жалезу, марганцу і г. д. Адначасова з гэтым Камісія пачала выпушчаць „Материалы для изучения естественных производительных сил России", па асобных пытаньнях вывучэньня прыродных багацьцяў краіны ня зьвязаных агульным плянам і парадкам выхаду. Гэта адносіцца да 1916 г. У першы год выданьня было надрукавана 30 выпускаў. Ня гледзячы на цяжкае становішча друкарскае справы, якое асабліва гостра выявілася ў гады грамадзянскае вайны і блёкады, Камісія ня спыніла сваю выдавецкую дзейнасьць, напрыклад, у 1916 г. выпусьціла 45 друкаваных аркушаў, у 1917 г.—26, у 1918 г.—55, у 1919 г.—128, у 1920—126 друкаваных аркушаў [1]).

Значыць, паніжэньне выдавецкай дзейнасьці Камісіі падае на 1917 г., а ў далейшым узрастае, ня гледзячы на ўсё больш і больш цяжкі ўмовы. Камісія ў першыя-ж часы свайго існаваньня намеціла неабходнасьць вывучэньня краіны па асобных раёнах і далучэньня да працы мясцовых дасьледчых сіл. Камісіяй былі надрукаваны падрыхтоўчыя працы для організацыі цэлага шэрагу аддзяленьняў Камісіі на мясцох. У далейшым выпрацавалася другая форма сувязі, а менавіта: контакт з мясцовымі дасьледчымі організацыямі, замест утварэньня асобных камісій у розных раёнах.

Такім чынам у часе сусьветнай вайны, ня гледзячы на цяжкія ўмовы жыцьця заўважаецца ўздым цікавасьці да краязнаўства як збоку дзейнасьці мясцовых таварыстваў, так і цэнтральных навуковых установ.

Краязнаўства ў гады рэволюцыі прайшло тыя-ж этапы дзейнасьці, што і ў гады сусьветнай вайны. У першы год рэволюцыі грамадзкая думка была захоплена клясавай барацьбой і штодзённая краязнаўчая праца як-бы адышла на другі плян. Але ўжо ў наступным годзе, ня гледзячы на агульнае разбурэньне ў сувязі з блёкадай і грамадзянскай вайною, краязнаўчая праца становіцца на чаргу, бо моманты, якія перажываліся, калі зьмяняліся і спосабы кіраўніцтва, і гаспадарчая тэхніка, і хатні быт, і мастацтва і г. д., з надзвычайнай выразнасьцю паказвалі на неабходнасьць вывучэньня сваёй краіны. Тут трэба вывучаць усё: і спробы будаваць новае жыцьцё, і адшуканьне новых форм жыцьця, і новыя ўстановы, і зьліквідаваньне старых форм, і моц традыцыйнага парадку жыцьця, і барацьбу на мясцох супроць навін экономічнага, і соцыяльнага, і бытавога характару, і прычыны, і формы барацьбы і г. д. У гаспадарчым жыцьці краю

[1]) Гл. „Обзор Научно-издательской деятельности Комиссии по изучению естественно-производительных сил России 1915—1920 г." Составил Г. П. Блок. Птр. 1920 г., стр. 9.

ў гэты час асаблівае значэньне набыла коопэрацыя, якая ў 1918 г. і 1919 г. мела вялікія грашовыя сродкі і мела моц. Коопэрацыйныя організацыі дапамагаюць краязнаўчаму руху: падтрымліваюць таварыства вывучэньня мясцовага краю, выпушчаюць краязнаўчыя выданьні і дапамагаюць дасьледчым працам. Коопэратывы таксама дапамагаюць музэям існаваць у цяжкі для іх час, калі яшчэ Цэнтральны орган не ўзмацнеў, каб кіраваць іх працай і забясьпечваць іх матар'яльна. З утварэньнем пры Наркамасьвеце „Всероссийской Коллегии по делам музеев и охране памятников старины и искусства", якая з часам абярнулася ў „Отдел по делам музеев", становішча краязнаўчых музэяў паляпшаецца ў сэнсе аховы іх правоў або аўторытэтнага съведчаньня аб іх значэньні, але матар'яльны стан застаецца ранейшым, так што многія з краязнаўчых музэяў зварачаюцца за дапамогай да коопэрацыйных організацый, а ў 1918-19 г. настаўнікі, супольна з коопэратывам, закладаюць Музэй мясцовага краю ў павятовым горадзе Дзьмітрыеве Маскоўскай губ. Пазьней музэй зрабіўся адным з лепшых музэяў павятовага тыпу. Гэткае-ж зьявішча заўважваем у Тоцьме, Валагодзкай губ. Такім чынам, коопэратывы ў гісторыі разьвіцьця краязнаўчых ідэй у Расіі адыгралі выдатную ролю. Яны ня толькі дапамагалі матар'яльна музеям, якія ўжо існавалі, але і нанова адчынялі музэі.

У пэрыод 1918—20 гг. краязнаўчая праца вялася ў розных мясцох і з розным посьпехам, напрыклад, на поўначы „Вологодское Общество изучения Северного края", якое зарэкомэндавала сябе інтэнсыўнай працай, амаль спыніла сваю працу. У 1919 г. мела толькі адзін агульны сход і з 183 чалавек сяброў Таварыства, жыўшых у Валагдзе, прысутнічала 17 чалавек[1]).

І, наадварот, у Цэнтральна-Прамысловым краі, які таксама перажыў голад, праца ня спыняецца, у некаторых таварыствах нават узмацняецца з тэй прычыны, што культурна-навуковыя сілы цэнтру часова пераяжджаюць у бліжэйшыя гарады і там прымаюць чынны ўдзел у краязнаўчай працы. (У больш спрыяючых умовах апынуліся паўднёвыя губэрні, куды сабраліся многія працаўнікі цэнтру).

З таго часу ў провінцыі стыхійна растуць вышэйшыя навуковыя ўстановы: унівэрсытэты і інстытуты, а пры іх навуковыя таварыствы па краязнаўству і студэнцкія гурткі. Профэсары і настаўнікі, ня маючы пад рукамі патрэбнага матар'ялу па тэорэтычных пытаньнях, хутка зьвязваюцца з жыцьцём данага краю і для досьледаў бяруць тэмы краязнаўчага характару. Да таго-ж вышэйшыя навуковыя ўстановы комплектуюцца студэнтамі, з якіх большасьць зьвязана з мясцовым краем. Голад адпуджвае моладзь, таксама як і профэсароў, ад імкненьня ў Маскву і Ленінград, з якой прычыны профэсаром іншы раз удаецца захапіць краязнаўчай працай моладзь, напрыклад, у Саратаве Б. М. Сокалаў са студэнтамі унівэрсітэту правёў цікавыя краязнаўчыя досьледы.

Кастрамское Навуковае таварыства па вывучэньню мясцовага краю ў самыя цяжкія гады выпушчае шэраг выданьняў і кожны год друкуе справаздачу аб сваёй працы. Нават у 1919 годзе (самы цяжкі для таварыства год) яно ня толькі вядзе сваю чарговую працу, але ўдзельнічае ў шматлікіх настаўніцкіх курсах, як, напрыклад: на адна-

[1]) Гл. „За пятнадцать лет (1904—24 г.)" изд. Вологодского О-ва изучения Северного Края. 1924 г. Стр. 19.

гадовых пэдагогічных курсах, на курсах кіраўнікоў гурткоў падросткаў, курсах працаўнікоў пазашкольнага выхаваньня, месячных бібліотэчных курсах і павятовых настаўніцкіх курсах.

Вялікая заслуга па распаўсюджваньні ідэй краязнаўства сярод настаўнікаў і насельніцтва належыць Вяцкаму Навукова-Дасьледчаму Інстытуту Краязнаўства, які на пасяджэньнях і сходах розных арганізацый, як: курсах настаўнікаў 2 ступені, на конфэрэнцыі скончыўшых Пэдінстытут, на курсах па рыбацтву і паляўніцтву, у сэкцыі настаўнікаў прыродазнаўцаў, у студэнцкім гуртку па вывучэньні мясцовага краю і г. д., і г. д. (дзе толькі магчыма), выступае з дакладамі, лекцыямі па розных пытаньнях краязнаўства.

У Сібіры ў гэтыя гады распрацоўваецца проект організацыі Інстытуту дасьледваньня Сібіры. Згодна думкі організацыйнага бюро ў Інстытуце павінна была быць згрупавана ўся праца па вывучэньні Сібіры і галоўная ўвага павінна была быць накіравана на вывучэньне вытворчых сіл краю. У 1919 г. у студзені ў Томску склікаецца спэцыяльны зьезд для організацыі Інстытуту. На гэтым зьезьдзе таксама абгаварвалі пытаньні, якія тычыліся ўсяго Сібірскага краязнаўства. У „Трудах“ зьезду зьмешчаны багаты матар‘ял аб кряязнаўчай працы Сібіры і чарговых задачах краязнаўства. На зьезьдзе прысутнічала звыш 200 чалавек і працягваўся ён 12 дзён.

Краязнаўчая праца ня спынялася нават у тых мясцох, якія былі адрэзаны грамадзянскай вайною ад Савецкай Рэспублікі; гэтак на Кубані ўтвараецца савет абсьледваньня і вывучэньня Кубанскага краю, які вядзе вялікую і каштоўную працу па вывучэньні сельскае гаспадаркі, клімату, рэчак, горнай справы, экономікі мясцовага краю і друкуе працы.

Такім чынам, у гады рэволюцыі, ня гледзячы на шматлікія фронты грамадзянскай вайны, краязнаўства пры мінімальна спагадных умовах набывае нябывалую інтэнсыўнасьць у гісторыі краю.

Цяпер амаль што няма ніводнае губэрні, дзе-б ня ўзьнікла таварыства ці ўстанова краязнаўчага характару, а іншы раз з цэлым шэрагам павятовых і нават сельскіх аддзяленьняў, якія маюць на мэце вывучэньне мясцовага краю з самых featuresстайных бакоў, бо само жыцьцё высунула пытаньні краязнаўства на першы плян.

Аднак, адсутнасьць спэцыялістаў і сталых працаўнікоў па многіх галінах краязнаўства з аднаго боку, цяжкае экономічнае і харчовае становішча з другога—моцна затрымлівалі і затрымліваюць дзейнасьць гэтых таварыстваў і ўстаноў; не хапае навуковага абсталяваньня, няма сталых кіраўнікоў, няма сродкаў для друкаваньня—вось тыя скаргі, што чырвонай ніткай праходзяць ва ўсіх справаздачах, якія надсылаюцца таварыствамі і ўстановамі ў Цэнтар“ [1]).

Адным з галоўных фактараў, якія садзейнічалі разьвіцьцю краязнаўства—было раёнаваньне, ідэя якога выцякае з дакладнага вучоту вытворчых магчымасьцяў асобных мясцовасьцяў.

Другім фактарам, які зрабіў моцны ўплыў на разьвіцьцё краязнаўства зьяўляецца рэформа выкладаньня. Як вядома, настаўнікі да рэформы выкладаньня складалі найбольшы процант сярод мясцовых культурных працаўнікоў. Цяпер-жа яны ня могуць ня быць краязнаўцамі, бо да гэтага іх абавязваюць програмы ГУС‘а, сутнасьць зьместу

[1]) „Дневник Всероссийской Конференции Научных Обществ по изучению местного края, созыв. Академическим Центром Наркомпроса в Москве 1921 г.“ № 1.

якіх—краязнаўства. Краязнаўства, пры вывучэньні вакольнай сапраўднасьці, зьяўляецца натуральным стрыжанем, наўкол якога згрупоўваецца і програмна-мэтодычная, і навуковая, і выключна пэдагогічная праца настаўніцтва. Пытаньне аб неабходнасьці дэталёвага вывучэньня мясцовага краю было ўпяршыню пастаўлена на Першай Усерасійскай Конфэрэнцыі Навуковых Таварыстваў па вывучэньні мясцовага краю, якая была склікана Акадэмічным Цэнтрам Наркамасьветы ў Маскве ад 10—12 сьнежня 1921 г.

Тут-жа адзначалася, што краязнаўства ў школе ёсьць адзін з асноўных шляхаў набліжэньня школы да жыцьця і ў той-жа час гэта шлях шырокай пастаноўкі краязнаўчай працы наогул.

Ул. І. Ленін гаварыў: „Школа павінна вучыць толькі таму, што будзе патрэбна ў жыцьці, усё іншае трэба выкрэсьліць з ужываньня ў школе, тады толькі мажліва чакаць ад асьветы сэнсу“.

С. С. Пераў гавора: „Школу трэба збудаваць на краязнаўстве, зьвязаць з краязнаўствам так, каб гэта было поўнацэннай валютай“ [1]).

Аднак краязнаўчая хваля не адразу ахапіла шырокія масы настаўніцтва. Яно, зьбянтэжанае шэрагам школьных рэволюцыйных рэформ, адразу ня здолела зразумець якая можа быць сувязь краязнаўства з усёй штодзённай працай. І толькі ў процэсе прапрацоўкі комплексных програм гэтая сувязь зрабілася для іх зразумелай. Краязнаўца-пэдагог павінен магчы ўдумлівым сынтэзам і сілай інтуіцыі зьвязваць самыя рознастайныя зьявы і фактары мясцовага жыцьця ў адно цэлае і да зьяў павінен падыходзіць дыялектычна, а таксама павінен браць усе об‘екты вывучэньня такімі, якімі гэтыя об‘екты існуюць у сапраўднасьці ў сваёй штодзённай абстаноўцы.

Школьнае краязнаўства мае буйное пэдагогічнае значэньне і ня меньш буйное навуковае. Н. Н. Паўлаў-Сільванскі бязумоўна правільна кажа, што жыцьцё „цьвёрда дыктуе неабходнасьць шырокага яднаньня дзеячоў краязнаўчых організацый з пэдагогамі практыкамі. І трэба вітаць з гэтай прычыны ўтварэньне пры Організацыйным Краязнаўчым Бюро Пэдагогічнай Сэкцыі“ [2]).

Маскоўскі Губасьвет‘ы, склікаючы Конфэрэнцыю, узяў пад увагу ўзаемную сувязь школы і краязнаўства, а дзеля гэтага ў програме Конфэрэнцыі спэцыяльна выдзеліў месца для дакладу на тэму „О положении краеведения в Западной Европе и СССР“. Затым на Конфэрэнцыі быў заслуханы шэраг дакладаў з месц: „О работе уездных краеведных организаций Московской губ.“ і „О работе местных музеев“, зьвязаўшы такім чынам цікавыя паведамленьні настаўнікаў аб сваіх вопытах з агульнымі задачамі вывучэньня мясцовага краю. Конфэрэнцыя не абмежавалася толькі абгаварваньнем пытаньняў, але і прыняла рэзолюцыю, якая мела пэўныя практычныя заданьні: „Скліканы Губасьвет‘ай зьезд краязнаўцаў Маскоўскай губ. лічыць неабходным на карысьць справы сталае скліканьне зьездаў, організацыю краязнаўчага бюро губэрскага маштабу з мэтай плянавай і організацыйнай краязнаўчай працы ў губэрні, організацыю краязнаўчых таварystваў ва ўсіх паветах губэрні. Прычым зьезд мысьліць, што ініцыятыву ў гэтай справе павінны ўзяць асьветнікі з прыцягненьнем да

[1]) Гос. Тимирязевский Научно-исследовательский Институт. „Краеведение в школе“, сборник „Север. печатник“. Вологда, 1926 г., стр. 32.
[2]) „Вопросы краеведения в школе“, под ред. В. П. Буданова и И. С. Симонова, изд. Брокгауз-Ефрон, 1926 г., стр. 39.

гэтай працы ўсіх жывых сіл павету: агрономаў, інжынэраў, комуністычнай маладзі, школьнікаў і г. д." [1]).

Конфэрэнцыя організавала Губэрскае Краязнаўчае Бюро, у задачу якога ўваходзіць вучот працы, якая вядзецца на мясцох організацыямі і рознымі асобамі, садзейнічаньне аб'яднаньню іх у мясцовыя таварыствы краязнаўства з пэдагогічнымі сэкцыямі пры іх, забесьпячэньне мясцовых краязнаўчых організацый літаратурай, а таксама дапамога краязнаўчаму выдавецтву і організацыя экспэдыцый настаўнікаў з мэтаю азнаямленьня іх з мэтодамі нагляданьня і дасьледваньня прыроды і жыцьця мясцовага краю.

У школьным краязнаўстве неабходна на першы плян ставіць падрыхтоўку настаўнікаў. Справядліва кажа Н. К. Крупская, што „краязнаўчая падрыхтоўка ў справе падрыхтоўкі настаўніка павінна быць на першым пляне".

З нарысу працы Бюро відаць, што ў першы месяц свайго існаваньня яно многа зрабіла дзеля дасягненьня пастаўленых мэт.

У 1925 г. у сакавіку была склікана Другая Губэрская Краязнаўчая Конфэрэнцыя Маскоўскім Губасьвет'ы дзе зроблены былі даклады аб дзейнасьці бюро краязнаўства і працы мясцовых організацый. Бюро Краязнаўства распачала выданьне свайго бюлетэню.

Вялікую ўвагу на школьнае краязнаўства зьвярнула 3-я Ўсерасійская Конфэрэнцыя па краязнаўству, дзе была вызначана спэцыяльная сэкцыя школьнага краязнаўства і дзе было адзначана, побач з іншымі дырэктывамі, што школа і краязнаўства маюць аднолькавую ўстаноўку на працоўную дзейнасьць чалавека і на соцыялістычнае будаўніцтва культурнага і гаспадарчага жыцьця СССР. Згодна пастановы Конфэрэнцыі пры Цэнтральным Бюро Краязнаўства (Масква) організавана Камісія Школьнага Краязнаўства, якая ў першую чаргу наўперад сваёй працы ставіць задачы: выяўленьне стану ўцягненьня школ у краязнаўчую працу; пропаганда і популярызацыя ідэй савецкага краязнаўства сярод настаўніцтва; дапамога настаўніцтву шляхам распрацоўкі: а) увязкі савецкага краязнаўства з працай школы ў бліжэйшым контакце з ГУС'ам і Галоўсоцвыхам, б) дапамогі настаўніку ў працы з боку мясцовых організацый і ўстаноў [2]).

Камісія Школьнага Краязнаўства ЦБК атрымлівае лісты з розных куткоў РСФСР. З лістоў відаць, што ідэя краязнаўства шырока ахапіла школьныя раёны. У адных школах краязнаўчая праца вядзецца толькі ў сувязі з прапрацоўкай програм ГУС'а. Гэты тып найбольш распаўсюджаны і цяжка паддаецца вучоту. У іншых школах краязнаўчая праца вядзецца організаваным парадкам праз гурткі, музэі і іншыя формы краязнаўчай працы. У сучасны момант налічваецца ў школах каля 500 краязнаўчых ячэек [3]).

Школьна-краязнаўчая праца носіць галоўным чынам выхаваўчы характар, які перарастае часамі ў краязнаўча-дасьледчы. Напрыклад, досьледы крыніц піцьцёвай вады ў Н.-Садзьдзе і Н.-Тогіле, у Верхатур'і абсьледваньне рынку, у Н.-Іздэльскім вывучэньне культурна-бытавога жыцьця народу Поўначы і г. д.

Некаторыя гурткі працуюць па заданьнях устаноў, гэтак гурток краязнаўства пры Яранскай (Вяцкая губ.) школе дарослых падвышана-

[1]) „Вестник просвещения" 1924 г., № 2-3, стр. 121.

[2]) Гл. „План работ Школьной Комиссии". Известия ЦБК № 2, 1928 г.

[3]) Гл. „Деятельность ЦБК. Комиссия Школьного Краеведения. „Известия" ЦБК декабрь 1928 г. № 10.

га тыпу некалькі год рабіў досьледы па геолёгіі па заданьню Ленінградзкага Геолёгічнага Камітэту.

Некаторыя гурткі выдаюць свае матар'ялы ў выглядзе асобнага бюлетэню, гэтак гурток школьнага краязнаўства пры Міаскім (Сібір) Мэтодычным Бюро выдае бюлетэнь „Школьный Краевед"; гурток краязнаўства пры школе II ступені г. Беларэцку (Баш. АССР) выдае пэрыодычны рукапісны часопіс „Всходы Краеведения". Гэта—першыя




Структура Цэнтральнага Бюро Краязнаўства РСФСР пасьля 3-й Конфэрэнцыі *).

ластаўкі, якіх неабходна вітаць і шырака апавяшчаць аб іх мэтазгоднасьці, бо яны надзвычайна карысныя і нават неабходныя ў справе вывучэньня свайго краю і да таго-ж могуць быць шырака выкарыстаны ў штодзённай працы школы.

**Роля** школьна-краязнаўчых організацый у справе ўкараненьня краязнаўства ў масы вялізарная.

Цікавая праца ў данай галіне школьна-краязнаўчага гуртка пры Талстоўскай школе 7-годцы (Камень, Сібір). Краязнаўчы гурток удзельнічаў у правядзеньні кампаніі вялікага значэньня; як, напрыклад, па-

*) Тлумачэньне да структуры гл. у канцы артыкулу.

сеўная кампанія. За час працы гуртка была наладжана выстаўка па падняцьцю ўраджайнасьці. Аддзелы былі наступныя: шкоднікі, пустазельле і барацьба з імі, карысныя збожжавыя расьліны, гатунковыя пароды. Затым быў аддзел сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Тут-жа было зроблена абсьледваньне комуны „Социализм", якая знаходзіцца ў 5 вярстах ад гораду. Была відавочна паказана пераважнасьць колектыўных форм буйнай гаспадаркі над дробнымі індывідуальнымі гаспадаркамі. Выстаўка прыцягнула ўвагу насельніцтва, яна адбывалася на працягу тыдня; тлумачэньні экскурсантам давалі самі вучні. На выстаўцы пабывала звыш 100 сялян [1]).

Далей, паказчыкам шырокага краязнаўчага руху зьяўляецца рост гурткоў маладых натуралістаў. У 1926 г. было створана Цэнтральнае бюро Маладых Натуралістаў пры Галоўсоцвых'у НКА РСФСР, на якое было ўскладзена кіраўніцтва даным рухам. У 1925 годзе ўсяго па СССР налічвалася 286 гурткоў, у 1926 г. — 300 гурткоў, у 1927 г. — 630, у 1928 г. — 810, у 1929 г. — 1200. Разам з колькасным ростам гурткоў зьмяняецца і зьмест іх працы. Праца робіцца больш жыцьцёвай—дасьледчая праца робіць увязкі з грамадзка-карыснай працай (барацьба са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, барацьба з малярыяй, кампаніі па „Дню леса", „Дню птушак", „Дню ўраджаю".

Асабліва заслугоўвае тутака ўвагі пытаньне ролі гурткоў маладых натуралістаў у справе аховы краіны. На адным з паседжаньняў Цэнтр. Бюро Малад. Нат. прадстаўнік Навукова-Дасьледчай Сэкцыі Асоавіяхіму выразіўся так: „Нашыя вайскавыя ўстановы маюць патрэбу ў шэрагу вестак мэтэоролёгічнага характару ў сувязі з аэронаўтыкай, топографічных, гідролёгічных даных. У справе ўзмацненьня аховы СССР вялікую ролю адыгрывае разьвядзеньне паштовых галубоў, сабак для сувязі. У справе хэмізацыі надзвычайна важная пропаганда сярод сялян за хэмічныя способы барацьбы са шкоднікамі. Усе гэтыя пытаньні вельмі блізкія гурткам маладых натуралістаў і ў вырашэньні іх, разам з організацыямі Асоавіяхіму яны змаглі-б адыграць вялікую ролю" [2]).

Апроч таго політасветныя працаўнікі многа дапамагаюць разьвіцьцю краязнаўства, бо ўся іх праца па сутнасьці—краязнаўчая. Н. К. Крупская гаворыць: „Першае, што павінен ведаць політасьветчык, гэта—той раён, у якім ён працуе. Я кажу аб Дзяржплянаўскім раёне. Павінен ведаць політасьветчык прыроду і багацьці свайго краю" [3]).

Такім чынам школьнае і па-зашкольнае краязнаўства шырака разгарнулася. Організаваны шэраг навукова-дасьледчых інстытутаў: Дзяржаўны Ціміразеўскі Навукова-Дасьледчы Інстытут з краязнаўчым аддзяленьнем, (аддзяленьне па загаду Галоўнавукі зачынена 8 мая 1929 г.), Інстытут Мэтодаў Школьнае працы (Масква) з краязнаўчым бюро, Вяцкі Навукова - Дасьледчы Інстытут Краязнаўства і іншыя, дзе краязнаўства (у большасьці) знаходзіцца на належнай вышыні.

У студзені 1922 г. пры Акадэміі Навук утвараецца Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства створана з мэтай коордынацыі краязнаўчай працы на мясцох, дапамогі краяведам у іх працы і наладжваньня сталай сувязі між працаўнікамі на мясцох. Цэнтральнае

---

[1]) Гл. стэнограму „Сообщения с мест" конфэрэнцыі па школьным краязнаўстве, якая адбылася з 11—16 мая б. г. у Маскве.

[2]) Гл. „Отчет о работе Центр. Бюро Юных Натуралистов при Главсоцвосе НКП РСФСР с 1/VIII-26 г. по 1/VIII-28 г.", изд. ЦБЮН. Москва 1928 г.

[3]) „Правда" ВКП(б). 18/IV-1928 г. № 90 (3922).

Бюро Краязнаўства было ў складзе двох аддзяленьняў: Ленінградзкага і Маскоўскага і ў гэткім выглядзе існавала каля трох год. Абодвы аддзяленьні Цэнтральнага Бюро Краязнаўства працавалі роўналежна, зьбіраючыся амаль штотыдзень і выслухвалі паведамленьні аб дзейнасьці мясцовых таварыстваў. Маскоўскае аддзяленьне прарабіла асабліва значную працу, зьяўляючыся прадстаўніком перад Галоўнавукай і іншымі цэнтральнымі ўстановамі Наркамасветы па ўсялікіх справах і хадайніцтвах краязнаўчых таварыстваў і іх музэяў. Ленінградзкае аддзяленьне выконвала большую частку працы па выданьні часопісу „Краеведение", які пачаў выходзіць у 1923 годзе і падставіў сваёй мэтай аб'яднаньне краязнаўчай працы шляхам інструктаваньня.

На жаль ня было сталага выданьня часопісу і ў 1923 г. было выдадзена ўсяго два нумары, а ў 1924 г. адзін. Маскоўскае аддзяленьне таксама зрабіла спробы ў выдавецкай дзейнасьці. Дасягненьнем яго ў даным напрамку зьяўляецца выданьне зборніка[1]).

У працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства выдатную ролю адыгрывалі асобныя сэсіі, якія пэрыодычна склікаліся ЦБК.

У працах сэсій прымалі ўдзел ня толькі сябры, якія ўваходзілі ў склад абодвух аддзяленьняў ЦБК, але і прадстаўнікі асобных краязнаўчых таварыстваў. Сэсіі працягваліся па некалькі дзён і на пасяджэньнях іх дакладваліся і абгаварваліся справаздачы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

Такім чынам пасяджэньні сэсій абарочваліся як-бы ў невялікія зьезды. Краязнаўства за гэтыя гады пасьпела ўзмацнець і вырасьці ў магутна-навуковы і грамадзка-пэдагогічны рух.

У сьнежні 1924 г. ў Маскве адбыўся Другі Ўсесаюзны Зьезд Краязнаўства, на якім быў зроблены рэвізійны перагляд усяго, што было праароблена да зьезду. Праца зьезду разьбілася на сэкцыі: агульнага краязнаўства, музэйную, архіўна-гістарычную, школьнага і экскурсыйнага краязнаўства і аматараў сьветазнаўства. У некаторых сэкцыях праца пайшла вельмі продукцыйна, як, напрыклад, у сэкцыі музэяў мясцовага краю, дзе сабраліся большай часткаю практычныя працаўнікі, а ў некаторых наадварот, бо многа было пастаўлена пытаньняў тэорэтычнага характару.

На зьезьдзе было організавана, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, як самастойная ўстанова, непасрэдна падлеглае Галоўнавуцы ў Ленінградзе.

11-14 сьнежня 1927 году ў Маскве адбылася 3-я Ўсерасійская Конфэрэнцыя па краязнаўству, на якой прысутнічала 345 дэлегатаў — 193 з правам рашаючага голасу і 152 з дарадчым. На Конфэрэнцыі была падсумавана праца за мінулы час. Асабліва загострана была ўвага на пытаньнях школьнага краязнаўства, на папулярызацыі краязнаўтва сярод шырокіх мас працоўных, уцягненьню іх у вывучэньне і будаўніцтва свайго краю, на прыцягненьні да краязнаўчага руху большага ліку моладзі і на ўвязцы з плянавымі, гаспадарчымі, профсаюзнымі і іншымі савецкімі організацыямі. Конфэрэнцыя, адзначаючы дасягненьні і ўзрост краязнаўчага руху, знаходзіць, што ён не пазбаўлены цэлага шэрагу недахопаў, як-то: „Краязнаўчы рух яшчэ не ў дастатковай ступені зьвязаўся з плянавымі і кіраўнічымі ўрадавымі органамі,

[1]) Гл. „Вопросы краеведения", сборник докладов, сделанных на Всероссийской конференции Научных Обществ по изучению местного края, пад ред. В. В Богданова, Нижний-Новгород. 1923 г.

а таксама з грамадзка-савецкімі організацыямі, яшчэ мала ўцягнуў у сваю працу і ахапіў пропагандаю краязнаўства шырокія народныя масы гораду і вёскі, а таксама актыў, які склаўся навакол ўрадавых установ, недастаткова выкарыстаў мясцовы друк і параўнача мала клапаціўся аб падрыхтоўцы новых кадраў краязнаўцаў і аб падняцьці кваліфікацыі старых працаўнікоў; з асаблівым-жа жалем адзначаем адсутнасьці сувязі з краязнаўчай працай саюзных рэспублік“ [1]).

Імкнучыся зьнішчыць у далейшым пералічаныя недахопы, Конфэрэнцыя пераглядзела організацыйныя формы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і пастанавіла ўтварыць адзінае ЦБК у складзе двох груп—Маскоўскай і Ленінградзкай і сяброў ад краін, губэрань, а таксама аўтономных рэспублік і краін з адзіным Прэзыдыумам пад старшынством П. Г. Сьмідовіча (Масква) і Намесьніка Старшыні Н. Я. Мар (Ленінград).

Чыннасьць паміж Ленінградзкай і Маскоўскай групамі ЦБК разьмяркована так: у Маскве згрупаваны організацыйныя пытаньні і выданьне „Известий“, у Ленінградзе—навукова-мэтодычныя і часопіс „Краеведение“. Пры Маскоўскай групе ЦБК організаваны шэраг сэкцый і камісій: сэкцыя масавай працы, сэкцыя вучоту і сувязі з месцамі, нацыянальная сэкцыя, студэнцкая сэкцыя, камісія школьнага краязнаўства, рэдакцыйна-выдавецкая, бібліотэчна-бібліографічная камісія, экскурсійна-экспэдыцыйная камісія, музэйная, камісія аховы прыроды, гідра-фэно-мэтэоролёгічная, оргплянавая камісія і іншыя. У Ленінградзе: бібліографічная камісія фэнолёгічная, мэтэоролёгічная, камісія аховы прыроды, фото-краязнаўчая, студэнцкая і экскурсійная камісія (гл. структуру ЦБК). Праца па школьнаму краязнаўству, па нацыянальнаму краязнаўству, па музэйнаму, па краязнаўству сярод студэнцтва ў асноўным згуртавана ў Маскве.

Пазьней жыцьцё паказала, што аддзяляць навукова-мэтодычную ад організацыйна-адміністрацыйнай працы немагчыма бяз шкоды для ўсяго краязнаўчага руху, бо і організацыйная і мэтодычная праца канчыльна пераплятаюцца і цяжка выявіць, дзе пачынаецца адно і канчаецца другое. Затым нельга кіраваць працай мэтодычна, ня прымаючы пад увагу мясцовых організацыйных момантаў.

Маскоўская група Прэзыдыуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, улічваючы вынікі, якія могуць адбыцца на месцах пад уплывам організацыйнай блытаніны цэнтру высоўвае ў парадку дыскусіі новую структуру ЦБК, якая аб'ядвае ўсю кіраўнічую працу, як організацыйную, гэтак і навукова-мэтодычную ў адзіным цэнтры, г. зн. у Маскве, як дзяржаўным і грамадзка-палітычным цэнтры краіны.

Сябры ЦБК, якія знаходзяцца ў Маскве, Ленінградзе і провінцыі, а таксама ў аўтономных рэспубліках і краінах, выконваюць заданьні Прэзыдыуму ЦБК як організацыйныя, гэтак і мэтодычныя па агульным пляне, зацьверджаным Прэзыдыумам; выконваюць чарговыя дзяжурствы ў ЦБК, кіруюць краязнаўчай працай на мясцох шляхам удзелу ў працах краёвых бюро краязнаўства і садзейнічаюць мясцовым краязнаўчым організацыям у іх зносінах з мясцовымі дзяржаўнымі ўстановамі і грамадзкімі організацыямі [2]).

[1]) „Резолюции 3-й Всеросийской Конфэрэнции по краеведению“, изд. ЦБК, Москва. 1928 г., стр. 11.

[2]) Гл. Протоколы №№ 1-2 паседжаньня Оргплянавай Камісіі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства за 1929 год і Протокол Аб'яднанага Прэзыдыуму ЦБК № 11/27 за 11/VII-29 г.

Апроч таго, Маскоўскай групе Прэзыдыуму было даручана распрацаваць організацыйныя формы краязнаўчых організацый у нановараёнавых частках РСФСР, як дырэктыву для месц, бо самым балючым пытаньнем у даны момант у іх зьяўляецца вырашэньне організацыйнай формы, улічваючы, што ад правільнага вырашэньня гэтага пытаньня залежыць продукцыйнасьць і мэтаімкненьне ўсяго далейшага краязнаўчага руху. Даволі паказаць на нарады і конфэрэнцыі, якія склікаліся ў Арле, Саратаве, Іванава-Вазьнясенску і іншых, каб мець уяўленьне як гостра мясцовыя організацыі рэагуюць на гэтае пытаньне.

14-15 чэрвеня 1929 г. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства склікала Конфэрэнцыю, дзе былі прадстаўлены дзьве структурныя схэмы організацыі краязнаўчай працы ў сувязі з апошняй рэформай адміністрацыйнага падзелу. Першая схэма, з прычыны занадта рознастайных існуючых тыпаў, якія носяць нярэдка стыхійны выпадковы характар (у аднэй Маскоўскай губэрні 4 гады таму назад налічвалася 12 рознастайных краязнаўчых тыпаў), высоўвае адзінства пабудовы організацыйных форм, г. зн. ва ўсіх раёнаваных краёх павінны быць створаны краёвыя бюро краязнаўства, у акругах акруговыя т-вы, раённыя аб'яднаньні, ячэйкі сельсаветаў і фабрык (усё гэта можа быць ужыта і ў організацыях нацыянальных рэспублік). Другая схэма разыходзіцца з першай толькі па пытаньнях краёвага цэнтру, лічачы, што „правядзеньне адзінай нормы для ўсіх краін ня можа быць зьдзейсьнена бяз шкоды для разьвіцьця справы“.

У выніку галасаваньня была прынята першая схэма.

У гісторыі разьвіцьця краязнаўства ня малае значэньне мела Сельска-Гаспадарчая выстаўка, організаваная ў 1923 годзе ў Маскве, якая ахапіла ня толькі сельскую гаспадарку, але і саматужную прамысловасьць, і быт вёскі.

На выстаўцы былі таксама адноўлены і тыпы сялянскіх будынкаў з найбольш характэрных для розных мясцовасьцяй СССР. Асабліва многа праароблена ў галіне краязнаўства ў падрыхтоўчай працы да ўсесаюзнай выстаўкі; ва ўсіх губэрнях былі організаваны спэцыяльныя выставачныя камітэты, якія павінны былі даць тыповы матар'ял для мясцовага краю. У працы выставачных камітэтаў прымалі ўдзел краязнаўчыя організацыі; краязнаўцам давалася шырокая мажлівасьць прыкласьці свае сілы і веды аб мясцовым краі.

Апроч таго аднэй з прычын, якія рушаць краязнаўства ўперад зьяўляецца турызм, ён з кожным годам прымае ўсё больш і больш шырокія формы і дапамагае масаваму ахопу, галоўным чынам моладзі, ідэямі краязнаўства.

Са справаздач розных асобных таварыстваў вывучэньня мясцовага краю відаць, што з паляпшэньнем грамадзка-экономічных і політычных умоў жыцьця ажыўлялася і чыннасьць таварыстваў, напрыклад, Валагодзкае Таварыства Вывучэньня Паўночнага Краю, якому ўдалося склікаць толькі адзін агульны сход у 1920 годзе, у 1922 годзе, склікае 26 сходаў, на якіх абгаварваюцца шматлікія краязнаўчыя пытаньні, якія тычыліся жыцьця Волагды, і выпушчае нумары невялічкага пэрыодычнага часопісу „Северный Край“, замест дарэволюцыйных „Известий“.

Амаль тыя-ж зьявы можна адзначыць у чыннасьці і іншых таварыстваў, апроч тых мясцовасьцяй, дзе зачыніліся вышэйшыя навуковыя ўстановы і адкуль пачаўся ад'езд у цэнтар культурных працаўні-

коў, якія выяжджалі ў провінцыю ў часы голаду. Але праца імі распачатая ня гіне: парасткі краязнаўчых організацый растуць далей і разьвіваюцца, праўда, больш слабым тэмпам, чымся раней. Асабліва гэтая розьніца была прыкметнай у першыя часы пасьля іх ад'езду. Усё-ж інтэнсыўнасьць росту краязнаўчай працы ў апошнія часы значная. Характэрная рыса яго — гэта імкненьне дэцэнтралізацыі краязнаўства. Дзякуючы гэтаму ўцягваецца ў працу большы лік насельніцтва, а роля мясцовых людзей у гэтай справе вельмі вялікая: толькі праз іх мажліва зьдзейсьніць густую сетку краязнаўчых досьледаў па акругах і раёнах у прыродным, грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным разрэзах, толькі дзякуючы шырокаму ўцягненьню ў вывучэньне мясцовага краю насельніцтва можа быць выканана задача, якая ўскладаецца на краязнаўства — гэта будаўніцтва краю.

Разам з ростам ідэі краязнаўства растуць краязнаўчыя таварыствы, гурткі і іншыя краязнаўчыя організацыі. Паводле даных Цэнтральнага Бюро Краязнаўства ў бягучы час, г. зн. у 1929 годзе па РСФСР ёсьць больш 2080 краязнаўчых організацый (даць больш дакладную лічбу немажліва, з прычыны ня скончанага вучоту краязнаўчых організацый, які праводзіцца Цэнтральным Бюро Краязнаўства), тады, як у 1927 годзе па ўсім СССР было толькі 1761. На жаль сувязь краязнаўчых організацый між собою і цэнтрам слабая, а для пасьпяховага разьвіцьця краязнаўства неабходны контакт у працы як з цэнтрам, гэтак і між сабою краязнаўчых організацый, але што ў краязнаўства ўцягваюцца масы — гэта бязумоўна. Аб гэтым сьведчыць усё вышэйсказанае.

І цяпер ужо многія сяляне, рабочыя прымаюць непасрэдны ўдзел у організацыі краёвага мясцовага музэю і ў іншых формах краязнаўчай працы. Асабліва насустрач руху краязнаўчай ідэі ідуць партыйныя організацыі, якія праз валкомы і свае спэцыяльныя партыйныя органы згуртоўваюць мясцовыя сілы і тым узмацняюць працу, і недалёкі той час, калі краязнаўчая ідэя ахопіць усё працоўнае насельніцтва СССР.

## ДА СТРУКТУРЫ ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА.

**Масква.** 1. Консультацыйнае бюро. 2. Камісія па кіно-атласу. 3. Бібліатэчна-бібліографічная Камісія. 4. Рэдакцыйна-Выдавецкая сэкцыя. 5. Сэкцыя нацыянальнага краязнаўства. 6. Сэкцыя масавага краязнаўства. 7. Камісія вывучэньня фабрыкі. 8. Камісія школьнага краязнаўства. 9. Сэкцыя вучоту сувязі з провінцыяй. 10. Эеспэдыцыйна-экскурсійная камісія. 11. Камісія ахövы прыроды. 12. Студэнцкая сэкцыя. 13. Музэйная камісія. 14. Гідро-фэно-мэтэоролёгічная камісія. 15. Оргплянавая камісія.

**Ленінград.** 1. Бібліографічная камісія. 2. Рэдколегія. 3. Фэнолёгічная камісія. 4. Мэтэоролёгічная камісія. 5. Камісія аховы прыроды. 6. Фото-краязнаўчая камісія. 7. Студэнцкая камісія. 8. Экскурсійная камісія.

# МАТАР‘ЯЛЫ З МЕСЦ.

Мікалай Войтко.

## На беразе Ўсяжы ракі.

*(Санітарна-бытавы нарыс в. Мглё Юраўскага с/с., Смалявіцкага раёну на Меншчыне).*

### 1. Дні мінулыя.

Вакол балоты—у сярэдзіне вёска Мглё на беразе вечна-вясёлай, сьветлай, глыбокай Усяжы ракі.

І назва паказвае, што навакол—мгла, гразь, балота. Яшчэ нядаўна нельга было ўвосень і вясною заехаць у вёску Мглё: у гразі хаваліся калёсы („гразь па трубкі“,—як гавораць сяляне). Мглё—старая вёска. Рака Ўсяжа прывабіла да сябе чалавека. У мінулым па ёй ганялі „лаўкі“ на працягу 28 вёрст (зьвязаныя ў плыты тоўстыя бярвеньні ў Барысаў). Цяпер гэты промысел зьнік, бо зьнік і лес, што высокай сьцяной стаяў абапал ракі.

Даўно гэта было...

У час вайны з Напалеонам у 1812 годзе в. Мглё была значных памераў, мела царкву, якую французы разабралі, каб плашчакамі выкласьці топкія месцы да Вялікага возера. І да цяперашняга часу знаць гэты шлях па балоце ў выглядзе трэлі і завецца гэтая трэль Азярная пуць. Плашчакі глынула балотная твань. На месцы царквы стаіць цяпер капліца, ды могілкі з помнікамі, надпісы на некаторых з іх нельга разабраць.

Вызваленьне ад прыгону в. Мглё атрымала ў 1862 годзе, а надзел зямлёю ў 1865 годзе. У той час сяляне в. Мглё належалі аднаму з графаў Тышкевічаў, якія яшчэ да рэволюцыі 1917 г. мелі недалёка маёнтак Антанопаль—цяпер саўгас.

У 1865 годзе ў в. Мглё было 28 гаспадарак з надзелам зямлі ад паўвалокі (9 дзесяцін) да валокі кожная, што відаць з кнігі актаў і іншых докумэнтаў часоў рэформы, (кніга актаў хаваецца ў сельсавеце—в. Юрава).

1905 год прайшоў у хваляваньнях. Сяляне вёскі Мглё і вакольных вёсак былі ваража настроены да ўлады, чаму спрыяла агітацыя настаўніка-рэволюцыянэра Ігната Буйвал-Кота.

Буйвал-Кот быў арыштаваны і некуды сасланы. Яшчэ і цяпер успамінаюць аб гэтым энэргічным чалавеку ў в. Мглё, па ініцыятыве

якога ў вёсцы была пабудавана казённая народная школа. У 1914 годзе праз вёску ішлі часткі арміі Рэненкамфа (не задоўга перад гэтым была пабудавана грэбля і ў вёску Мглё можна было заяжджаць і ўвосень).

Рэволюцыя 1917 году пракацілася хваляй у гэтай мясцовасьці. Сяляне в. Мглё і аколічных вёсак разабралі маемасьць (мёртвы і жывы інвэнтар) маёнтку Косіна, што належаў П. Шмідту. У сьнежні 1917 г. быў забіты першы старшыня воласьці рэволюцыйнага часу—Юстын Шлёнскі. Яго забілі разбойнікі-хуліганы, што рабавалі па начах праяжджаючых сялян, залазілі ў сьвірны, наводзілі страх на вакольныя вёскі.

Банда хацела ўзарваць воласьць, дзе знаходзіліся камісары, у в. Юрава, але сяляне злавілі іх і ўчынілі самасуд, забіўшы чатырох чалавек.

Мглянскія хлопцы прымалі ўдзел у партызанскім руху, у барацьбе з белапалякамі. Дапамагалі чырвоным забраць Азарынскую гару. Цікава адзначыць, што дзяўчаты таксама прымалі ўдзел у барацьбе з белымі. Дзяўчына Домка злавіла на гародзе белапаляка з зброяй і пасьля некалькіх „аплявух“ перадала яго ў рукі чырвоных.

## Сярод балот.

Ледавіковыя ўзгоркі з поўдня на ўсход абступаюць нізіну р. Ўсяжы, у якой стаіць в. Мглё. З захаду на поўнач, выгібаючыся вужакай сярод нізкіх берагоў, рака нясе свае воды ўдаль. Абапал ракі шырака расьцілаюцца поймавыя лугі і балоты.

Недалёка ад вёскі, у 3-х км, распляскалася Вялікае возера дзе шмат рыбы; прайшоўшы з паўкілёмэтра—Сьвяцца і Малое возера. Гэтыя вазёры на ўсход ад вёскі. На захадзе — Хаценаўскае возера, дзе так многа ловяць ракаў.

Узімку тут дзьмуць вятры пераважна з захаду, таму і зіма ня вельмі жорсткая, хоць і бываюць час ад часу маразы—33°С.

Летам дзьмуць вятры з усходу—тады робіцца „суша“ („сухавей павеіў“—гавораць сяляне). Бываюць улетку вятры і з захаду, што прыносяць вільгаць, дажджы. Летам нярэдка гарачыня бывае +30° С. Сярэдняя тэмпэратура ліпня +19°, сярэдняя t° студзеня:—7,2°. Лета цягнецца тры месяцы (чэрвень, ліпень, жнівень), восень—3 м. (верасень, кастрычнік, лістапад), зіма—4 м. (сьнежань, студзень, люты, сакавік), вясна—2 (красавік, май).

Ападкаў у выглядзе дажджу і сьнегу выпадае 640 мм. у год. Кожны год бывае град (ліпень м-ц). Нярэдка град падае такой велічыні, што забівае гусянят. У 1920 г. град быў такі буйны, што выбіваў шыбы ў хатах ушчэнт зьбіў жыта і ярыну. У ліпні па начах бываюць замаразкі, тады мерзнуць агуркі і гарбузы. Наогул клімат каля в. Мглё—пераходны ад контынэнтальнага да марскога.

Раней лясы, што акружалі Мглё, былі вялікія. Цяпер яны нязначныя. У лясох ёсьць вавёркі (Sciurus vulgaris), барсукі каля Жаўніно (Meles taxus), ваўкі (Canis lupus), лісы (Canis biflorus), шашкі (Foetoris putorius), у балоце Зарэчча рысь (Felix lynx), у балоце Азарына, Мыльніцкае і Чысьцікі — дзікія козы, на Дальніх Лугох—ласі, дзікія козы. У р. Ўсяжы—выдры і такая рэдкасьць як бабры там, дзе Ўсяжа ўліваецца ў Гайну.

У балотах вельмі многа журавін. У лясох шмат чарніц, суніц. На балотах расьце бяроза-чачотка, сасонкі, ракітнік, елкі, рабіны, каліна...

Глебы каля в. Мглё—суглінак; на гарах (Азарынская)—пяскі. Наогул глеба добрая. Напластаваньне ідзе так: 1) звычайная зямля; 2) суглінак; 3) камяністы ласт; 4) пясок сыпучы; 5) пясок белы; 6) вадаactive носны пласт.

ПЛЯН в. МГЛЁ

### 3. Расплянаваньне вёскі.

Месца, на якім стаіць в. Мглё—роўнае, балоцістае. Цэнтар с/с.—Юрава ад гэтай вёскі знаходзіцца на адлегласьці 3 кілёмэтраў, раённы цэнтар Смалявічы—10 км, чыгунка—12 км. Вёска мае адну доўгую вуліцу, якая ідзе з паўдня-захаду на паўночны ўсход, уздоўж ракі.

Доўгая, крывая вуліца пасьля кожнага дажджу поўна гразі. Рэдка дзе можна ўбачыць пасаджанае дрэва каля вуліцы, бо вуліца вузкая, як дзьвём фурманкам разьмінуцца. Шмат ямін, рознага ламачча. З аднаго боку вуліцы пакладзены тротуар („прытавар").

Вёска мае 95 двароў, што разьмяркованы абапал вуліцы. Адлегласьць між дварамі ў большасьці дасягае мэтру; — таксама ёсьць, між двароў вулачкі, як з „калясьмі ўехаць". Садоў у вёсцы толькі 4, плошча кожнага ў асобку зусім нязначная. Адсутнасьць садоў у в. Мглё тлумачыцца малазямельнасьцю сялян.

Ад вёскі аддзяліліся ўжо даўно два пасёлкі, адлегласьцю ад вёскі $^{1}/_{4}$ км,—Кішчукі (ад прозьвішча жыхароў—усе Кішчукі)—7 двароў і Галынка, дзе вадзяны млын, 3 двары.

Ёсьць два выганы ў пачатку і канцы вёскі, школьны вучастак у сярэдзіне вёскі, а таксама „пацярабы", пасьвіцца скаціна ўлетку.

### 4. Вадазабясьпека і вадакарыстаньне.

Адкрытым вадазборам у вёсцы зьяўляецца рака Ўсяжа, якая мае шырыню 8 саж., а глыбіня дасягае ў некаторых мясцох да 3-$3^{1}/_{2}$ сажняў, дно балоцістае з карчамі. Зімою ў рацэ робяць проламкі ў лёдзе, праз якія і дастаюць ваду.

Студняў у вёсцы 26, з якіх тры выкапаны на вуліцы, а ўсе іншыя на дварэ. Некаторыя „добрыя" людзі за карыстаньне вадою патрабуюць ад суседзяй платы ў выглядзе адработкі ў летні сэзон. Грамадзкіх толькі дзьве студні.

Глыбіня калодзежа каля 3-х сажняў. Капаецца простастаўна яма да ваданоснага пласта праз наступныя пласты:

| | | |
|---|---|---|
| звычайная глеба . . . | 2 | вяршкі таўшч. |
| суглінак . . . . | 10 | „ „ |
| каменны пласт . . . | 6 | „ „ |
| пясок сыпучы . . . | 4-5 | „ „ |
| белы пясок . . . . | $1^1/_2$ | аршына. |

Устаўляюць у выкапаную простастаўную яму зруб з асіны або з іншага дрэва, на дно ўстаўляюць скрыню з дубу, у якой робяць дзірку.

Вада праз дзірку б'е фантанам. Вада дастаецца асьверам (вочап), кожны—сваім вядром. Студні трэба чысьціць кожнае лета, бо яны забруджваюцца. Сьцёкі пасьля дажджу размываюць пласты каля зрубу, прабіваюцца праз самы зруб і забруджваюць калодзеж. Месца калодзежа, з прычыны малой плошчы двароў, зусім блізка каля хлявоў і дрывотніка, што таксама мае ўплыў на забруджваньне. Пакрышак на калодзежах таксама няма. Вады ў калодзежах ад 1 да 2-х аршын углыб. Наогул вёска вадой забясьпечана. Вада ў калодзежах мае добры смак, сьветлая, тэмпэратура яе ўлетку $+8^0, +9^0$C.

У хатах вада стаіць у вёдрах. Зімой вада стаіць у цэбрах, „селядзёўках“. У 1921 годзе рака Ўсяжа і калодзежы былі ў дрэнных санітарных умовах. У рацэ знаходзіліся трупы коняй яшчэ з 1920 г. Калі сюды дадаць галадоўку,—дык усё гэта спрыяла распаўсюджаньню брушнога тыфусу, які ахапіў в. Мглё вясной 1921 году. Каля 20 чалавек тады загінула ад эпідэміі. За апошнія гады страўнічна-кішачных хвароб не наглядаецца.

### 5. Эканоміка вёскі.

У вёсцы Мглё 688 чалавек насельніцтва. Сямействаў 110, з якіх два сямействы палякаў (11 чалавек), астатнія беларусы.

За 1928 год было сьмерцяй у вёсцы 10, нарадзілася 17 чалавек, адсюль прырост 7 чалавек за год.

Насельніцтва мае ў сваім карыстаньні:

| | | |
|---|---|---|
| ворнае зямлі . . . . | 328,60 | дзесяцін |
| сенакос (заліўны) . . | 26,55 | „ |
| сенакос (незаліўны) . . . | 37,90 | „ |
| няўжыткоўнай . . . . | 5,00 | „ |
| Разам . . . | 397,05 | дзесяцін. |

| | |
|---|---|
| коняй у вёсцы . . . | 81 |
| кароў . . . . . | 176 |
| авечак . . . . . | 58 |
| сьвіней . . . . . | 157 |

Некаторыя гаспадаркі (такіх большасьць) маюць ворнай зямлі ад 2 дз.—да $3^1/_2$, 0,25—0,5 дз. сенакосу. На 1 едака прыходзіцца 0,48 д. ворнае зямлі (!) Выключэньне складаюць гаспадаркі з 9 дз. ворнае зямлі (2 гас). 30 гаспадарак ня мае коняй; адна гаспадарка мае два кані; 80 гаспадарак мае па 1 каню. Мглё ў масе бядняцкая вёска (бядняцкіх гаспадарак—77, серадняцкіх—34).

Слабая забясьпечанасьць жывёламі, недастача гною, трохпалёўка, цераспалосіца, малазямельле маюць уплыў і на ўраджайнасьць: жыта з дзесяціны самае большае 40—45 пуд., бульбы—700 пуд., ячменю—45 пуд., аўсу—40 пуд.

Свайго хлеба не хапае. 30% гаспадарак да студзеня зьядае ўласны хлеб. Да новага ўраджаю яшчэ 7 месяцаў. Гэтыя гаспадаркі павінны паўгода купляць хлеб. Недастача хлеба вельмі адчуваецца вясною. Вясной 1928 году ў вёсцы быў частковы голад. Уласнага хлеба ня было, а на рынку пуд жыта каштаваў каля 5 р. 50 к. і больш (м-ка Смалявічы), сяляне бралі хлеб па талёнах у мясцовай коопэрацыі па 1 пуду на сям'ю адзін-два разы ў месяц. Быў выпадак, калі адна сялянка ў млыне са сьцен зьмятала мучны пыл і варыла дзецям „зацірку".

Асноўны занятак земляробства. Лішняя рабочая сіла (а яе шмат) ідзе капаць карчы (летам) за м-ка Зембін, за Менск—ст. Рудзенск, у Полацкую акругу, за Барысаў (49 чал). Зімой едуць у ст. Прыяміна рэзаць дровы. Цэлымі арцелямі ў чалавек 20 едуць у Барысаўшчыну на лясныя распрацоўкі.

Зімой 1928 г. каля в. Мглё лясьніцтва высякала балота—„стойкі" для шахтаў Донбасу—сяляне мелі заработкі. Вёска зарабіла каля 5000 руб. Гэтым толькі можна тлумачыць добрае адзеньне моладзі. У вёсцы ёсьць два кавалі, 1 шавец, 4 краўцы. Вясною насельніцтва сеткамі ловіць рыбу. Ёсьць шчупакі, ліны, карпы. Нярэдка здараецца злавіць шчупака ў 17 фунтаў. 30—40 чалавек на працягу году займаюцца рыбалоўствам.

**Заняткі сялян па часьцінах году.**

| Месяц | Від працы, што выконваюць | |
|---|---|---|
| | Мужчыны | Жанчыны |
| Студзень | Возяць дровы | Пража лёну |
| Люты | " " | Пража |
| Сакавік | Каля хаты | Пража, ткацтва |
| Красавік | " " | Ткацтва |
| Май | Мяшаюць пад ярыну | Ткацтва<br>Праца ў гародзе |
| Чэрвень | Моладзь у карчы | Гарод<br>беляць палатно |
| Ліпень | Возяць снапы | Жніво (29/VII пачатак)<br>(канец ліпня) |
| Жнівень | Сенакос | Жнуць ячмень<br>пшаніцу |
| Верасень | Мяшаюць пад жыта<br>Сеюць жыта | Жнуць авёс |
| Кастрычнік | Выбіраюць бульбу<br>аруць аржаное | Выбіраюць бульбу |
| Лістапад | Малацьба<br>Моладзь варочаецца з карчоў | Чэшуць лён |
| Сьнежань | Догляд за скацінай<br>Возяць дровы | Прадуць |

Усе гаспадары вёскі Мглё—пайшчыкі спажывецкай коопэрацыі (50% з іх коопэравана на сродкі спажывецкага т-ва). У в. Мглё ёсьць аддзяленьне коопэрацыі (былога Юраўскага т-ва, а цяпер Смалявіц-

кага). Коопэрацыя разьвіваецца слаба, але ўсё-ж такі насельніцтва забясьпечана неабходнымі таварамі. Большасьць гаспадароў зьяўляюцца пайшчыкамі Юраўскага крэдытнага т-ва „Касец“, дзе яны біяруць у крэдыт на 4 гады чыгунныя малатарні коштам у 260 рублёў. Цяпер у вёсцы 12 чыгунных малатарань, арфы, сячкарні, чаго тры гады назад ня было.

У канцы верасьня ў вёсцы бывае кірмаш. Да капліцы зьяжджаюцца фурманкі з яблыкамі. У капліцы праводзіць набажэнства поп. Экономічнага значэньня гэты кірмаш ня мае.

Малазямельле, дрэннае жыцьцё прымушалі некаторых сьмельчакоў выяжджаць у Паўночную Амэрыку. Так да вайны 1914 г. выехала з вёскі пяць чалавек.

За апошнія два гады—тры сям'і выехалі на жыцьцё ў Сібір.

### 6. Двор.

Амаль усе двары ў вёсцы забудованы тыпам П абапал вуліцы. Агульная плошча двара 63 кв. сажні (у сярэднім), агульная плошча гумна—126 кв. саж. (максымум). Вольныя плошчы двароў рознастайныя. У сярэднім—даўжыня двара бяз будынкаў—7 сажняў, шырыня двара бяз будынкаў—3 саж., плошча—21 кв. саж.

Большасьць двароў—чыстыя (хата стаіць асобна ад хлявоў); ёсьць двары брудныя (каля хаты стаіць трохсьценак—хлеў). Сьмецьце і гной ляжыць на „дрывотніку“—месца каля хлявоў. Хлявы маюць „куросадні“, дзе куры сядзяць увосень. Варыўня прызначаецца для бульбы, тут-жа стаіць у селядзёўках капуста, ляжаць караньплоды. Склепчык з пограбам прызначаецца для ссыпкі бульбы.

Брама ў некаторых дварох мае мастацкае разьбярства. Каб абараніць жывёлу ад халадоў—хлявы будуюць з мохам. Каля хаты і варыўні робяцца прызбы. Зімой у варыўню ў гаршчку носяць жар. Цэлую зіму гной з хлявоў ня вывозіцца. Хлявы вызваляюцца ад гною з пачаткам палявых прац.

### 7. Хата.

Усяго хат (разам з Галынкай і Кішчукамі) 107. Хаты разьмяркованы ўпоперак вуліцы. Адна хата (астача былых форм)—уздоўж вуліцы.

Хаты трох тыпаў:



Хат I-га тыпу (адзін пакой і сенцы) налічваецца 73; хат II-га тыпу (два пакоі для жыцьця і паміж імі сенцы) 3; хат III-га тыпу (два пакоі для жыцьця з ганкам)—29. За апошнія два-тры гады лік хат III тыпу значна павялічыўся.

Першы тып мае найбольшае распаўсюджаньне. Хаты III-га тыпу больш заможных людзей. Хаты будуюцца з сасны і елкі.

Пабудова ідзе наступным чынам кладзецца падмурак (вуглавыя вялікія каменьні крыху ўкапваюцца ў зямлю) вышынёю прыблізна 52 см. (10 вяршкоў).




Падмурак абмазваецца вапнай і цэмантам. Сьцены робяцца або з круглых чыстых без кары бярвеньняў, або з плашчакоў.

Між бярвеньнем кладзецца шмат моху.

Хаты ў апошні час будуюцца ў большасьці ў нямецкі (чысты) вугал, таксама ёсьць хаты, пабудованыя ў расійскі вугал.

Столь бывае некалькіх відаў:

Прыбіўная (прышыўная),—калі цэлыя, доўгія („скрасныя“) дошкі цьвякамі прыбіваюцца да бэляк зьнізу.

Простая, калі дошкі кладуцца паверх бэляк, прычым — кладзецца адна дошка, другая 10 см. адлегласьцю ад першай, а трэцяя паверх першых дзьвёх, закрываючы адлегласьць у 10 см.;

Столь з кароткіх дошак: між бэлькамі кладуцца кароткія дошкі, канцы якіх упіраюцца ў „раўчакі“ бэляк.

Гэты від столі пачынае выціскаць першыя два.

На верх столі („на хаце“) кладуць: кулявую салому пластам апількі, мох, муравей. Хата 12—15 „вянкоў“. На апошні „вянок“ ставяць кроквы (тры пары, чатыры пары), кроквы „лацяць“ (прыбіваюць „латы“—хвойкі таўшчынёй у вяршок, або крыху болей), потым кладуць стрэхі.

Матар'ял стрэх—салома (кулі) пад „шчотку“ і „пад колас“ (часовая страха), гонты; драніцы (драныя дошкі).

Падлога ў большасьці хат так званая „ордынарная“—на зямлю кладзецца адзін рад дошак. У чатырох хатах ёсьць падвойная падлога: I-я—з дрэнных, старых дошак абмазаных глінай, потым адлегласьць у 12 см. (2 вяршкі), затым кладзецца II-я падлога з добрых суцэльных дошак.

У некаторых хатах (2) пад падвойнай падлогай выкапаны ямы для буракоў. Гэтыя ямы не ацяпляюцца, а за гэтым у пакоях холадна.

Ёсьць (2) хаты, у якіх замест драўлянай падлогі—гліняны „тачок“. У гэтых хатах узімку вельмі холадна:—„настые тачок“. У хатах I і II тыпаў ёсьць сенцы—трохсьценак. Бываюць сенцы і ня ў выглядзе зрубу, а ў выглядзе паўкругу, што абстаўлены доўгім паленьнем, бываюць сенцы з дошак. У сенцах часта адбіваюць каморкі для хаваньня

харчовых продуктаў. Летам тут стаіць малако. Але галоўным чынам у сенцах стаяць карыты для кармленьня сьвіней.

У хатах, якія маюць сенцы, узімку цяплей.

Сенцы ў хатах II-га тыпу маюць выгляд корыдораў.

Памеры хат любога тыпу розныя, гэта залежыць ад ліку членаў сям'і і ад экономічнага стану гаспадара.

Прывяду два прыклады:

Памеры хаты I тыпу (сярэдняя) з сенцамі:

| | |
|---|---|
| даўжыня хаты з сенцамі . . | 10 м і 6 см |
| даўжыня хаты без сянец . . | 5 м 97 см |
| (даўжыня сянец) . . . . | 4 м 9 см |
| шыриня хаты . . . . | 5 м |
| вышыня сьцен знадворку . . | 2 м 60 см |
| вышыня сьцен унутры хаты . . | 2 м 34 см |
| шыриня хаты ўнутры . . . | 4 м 80 см |
| даўжыня хаты ўнутры . . . | 5 м 13 см |
| плошча ўнутры хаты . . . | 24,48 кв. м |
| кубатура хаты . . . . | 56,31 куб. м |

Памеры хаты III тыпу (сярэдняя).

| | |
|---|---|
| даўжыня хаты (2-х пакояў) унутры . | 11 м 50 см |
| шыриня хаты ўнутры . . . | 5,5 м |
| вышыня хаты ўнутры . . . | 2,8 м |
| плошча ўнутры хаты (2-х пакояў) . | 63,25 кв. м |
| кубатура хаты . . . . . | 177,3 куб. м. |

Знутры сьцены склютуюць, абіваюць глінай, сьцены беляць, у некаторых хатах абклейваюць шпалерамі. Кожная хата мае 3-4 вакны. У хатах старой пабудовы вокны былі маленькія (дауж.=1 ар., а то і меней), шыриня—12 вяр.

У „глухой“ сьцяне рабілася маленькае вакенца 5 $\times$ 6 вяр., мабыць для нагляданьняў, што робіцца на суседнім дварэ. У хатах новай пабудовы даўжыня вакна—1,5 ар., шыриня—1 ар. Наогул плошча вакон у хаце цяперашняй пабудовы 4,5 кв. ар.

Коофіцыент асьвятленьня (адносіны агульнае плошчы вакон да агульнае плошчы падлогі ўключаючы месца печы) наступны:

1 : 12 (найбольшы); 1 : 25 (найменшы). Таўшчыня рам у вокнах $^3/_4$ вяр., шыриня—$1^1/_2$ вяр.

Амаль усе вокны маюць падвойныя рамы. Вокны разьмяркованы наступным чынам—на паўдня, заход, усход; два вакны на вуліцу, адно на двор.

Форма рам рознастайная. Рамы маюць мастацкую апрацоўку пры дапамозе разьбярства (шалёўка). У сучасны момант элемэнтамі ўпрыгожаньня рам зрабілася пяцікутная зорка, серп і молат, дубовыя лісты, каласы, птушкі, кубікі, ромбікі. Пры некаторых вокнах ёсьць акяніцы. Увечары хату асьвятляюць газай. Зімою ў доўгія ночы—на комінку гарыць „смоль“ і сьвятло разыходзіцца па ўсёй хаце. Для асьвятленьня ўжываецца яшчэ і лучына.

У хатах пры ўваходзе з левага боку знаходзіцца печ, якая будуецца з апаленай цэглы. Печ паляць два разы ў суткі круглы год. За два разы згарае тры пуды дроў. Плошча печы 3,2 кв. мэтраў, кубатура—4,6 куб. мэтр.

Каб захавапь цяпло ў хаце зімою—дзьверы абіваюць „канатам“, што плятуць з саломы, ноччу вокны з двара закрываюць „матамі“, якія сплецены з саломы; робяцца каля вакон (знадворку) яселькі, напоўненыя мяленьнем.

Але ўсё-ж такі зімой у хатах адчуваецца холад (t⁰+9⁰C). Гэтаму прычына—ордынарная падлога і нізкі падмурак у хатах старой пабудовы і пясок на столі. Адсюль зімою ў некаторых хатах вялікая вільготнасьць. Ёсьць хаты, у якіх зімою са столі капае вада і так густа, што са стала прымаюць хлеб. Сьвежаму чалавеку ў гэтай хаце зараз-жа забаліць галава.

Каб было цёпла—у хатах, акрамя вялікай печкі, ставяць яшчэ чыгунныя печкі з трубою. Такіх печак у вёсцы 17 штук. Некаторыя робяць печкі з гліны, з кахлі.

Залюдненасьць хат розная, бывае, што на плошчы 24,6 кв. м. жыве 7 чал. У сярэднім на 1 чалавека прыпадае плошча ў 3,5 кв. мэтра.

## 8. Санітарнае становішча.

Вы адчыняеце дзьверы—перад вамі, або з левога боку—белая варысткая печ. З правага боку—стол, пад абрусом акраец хлеба, каля стала пад простым кутом каля сьцен—дзьве шырокія лавы. Каля стала стаіць услонік. На куце абразы. Недалёка каля печы на сьцяне вісіць „заложнік“, у ім лыжкі, апалонік, міскі. Ложкі стаяць каля „глухой“ сьцяны. З печы над ложкамі — палаці з дошчак, тут-жа вісяць клубкі нітак — вынік доўгіх „піліпаўскіх“ начэй. На паліцы стаяць гладышы. Крыху ніжэй бэлькі — шасток, на ім хвастачы і вопратка. Качарэжнік повен вілак; тут і качарга, і сякач, і дзяркач, і рыдлёўка. Дзьверы вядуць у другую хату: яна „новай“ называецца, хоць будавалася разам з першай. Сьцены абабіты шпалерамі, на сьценах фото-здымкі, афішы, або „капіталіст“ часоў вайсковага комунізму. Портрэты рэволюцыянэраў. На лаўках вазоны—мірцікі, рабчыкі, мальчыкі, лэскі, фікусы, клён... Гэтая хата трымаецца ў чыстаце.

Зімою жанчыны амаль усе суткі праводзяць у хаце—прадуць; мужчыны хатняю працу час ад часу прарываюць—даюць жывёле есьці, пояць, езьдзяць па дровы. Дзеці школьнага ўзросту ходзяць у школу, дашкольнага—у дзіцячы сад (сад працуе і зімой).

Абед пачыняецца зімою ў 9-10 гадзін (летам значна раней).

Мыюцца, старэйшыя, што маюць „прычоскі“, учэсваюцца. Дачка накрывае стол зрэбным абрусом, бацька кроіць хлеб, гаспадыня высыпае з чыгуна бульбу, падае міску капусты, або буракоў, або квасу. Бацька сядзіць на куце, абапал яго дзеці; матка, калі ёсьць месца, дык сядзіць „на краю стала“, а калі няма, — дык стоячы. Пасьля кіслага, калі гэта дзень сьвяточны—гаспадыня дае мачаньне з мясам, або яечню і бліны; калі дзень не сьвяточны, дык „камы“ — запраўленая салам (патоўчаная бульба); затым даюць забеленую зацірку, або моркаў (летам, восеньню). Летам ужываюцца галоўным чынам продукты малочныя; зімой з тлушчаў—сала, лой (авечак рэжуць), мяса, вясной—крапіва, малако, хлеб.

Сказаць, што харчовых продуктаў дастаткова, нельга. Не хапае хлеба, бульбы, у 30⁰/₀ гаспадарак зусім няма сала, зімой яны жывяцца селядцамі з коопэратыву.

На зіму робяць запасы: капусту ўвосень „шыткуюць“, кладуць у „селядзёўкі“, соляць, кідаюць журавіны, наліваюць вады і яна такім чынам стаіць зіму. Буракі, моркаў, бульбу складаюць у варыўні, і каб гароднiна не памерзла—увечары носяць у варыўню на „блясе“, або ў гаршчку жар, які і дзяржыць цяпло. Часта бульбу ссыпаюць у „капцы“, каб вясной яе адтуль дастаць.

Некаторыя з насельнікаў посьцяць „вялікі пост“ перад „вялікаднем“, пост перад „калядамі“. Але большасьць адносяцца да пастоў так: „Тады пост, як няма чаго есьці, а цяпер ёсьць яшчэ скварка і кавалак хлеба—еш на здароўе. На тым сьвеце будзем пасьціць...“

Тры разы ў дзень ядуць цёплую страву: абед, полудзень, вячэра. Пасуда:—чыгуны, міскі з гліны, лыжкі з дрэва (клён), апалонік,—пасьля ўжываньня мыецца цёплай вадой і ставіцца за „заложнікам“.

Час сну зімою: ад 9 гадзін увечары да 4 раніцы (дарослыя); падросткі кладуцца спаць позна (ходзяць на вячоркі[1]) у 12 гадзін і ўстаюць у 7 гадз. раніцы.

Летам кладуцца ў 10 гадз. вечара і падымаюцца (хто коні пасьвіць, хто кароў) у 2 гадзіны раніцы.

Сьпяць на ложках на палку, на палацях, на печы. Каму не хапае месца на ложку і інш. спальных месцах—кладзецца на лаве. Сяньнікоў зусім мала, кладуць на ложку кулявую салому, накрываюць пасьцілкай. Салома мяняецца двы разы ў год (перад калядамі і перад вялікаднем), пасьцілкі мяняюцца вельмі рэдка:—з імі ідуць у траву, на іх сьпяць, імі пакрываюцца.

На каравацях сьпяць па дзьве асобы (брат з братам, сёстры разам, бацька на палацях, матка з малымі дзецьмі).

На „палкòх“ сьпяць „пòкатам“ (некалькі чалавек разам і браты і сёстры).

Раніцай перад абедам мыюцца, але гэта мыцьцё хутчэй па прывычцы, чым для гігіены цела. А якое з дзяцей пачне ўмывацца, як належыць, тады матка заўважыць:

— Ці хопіць, табе?! Варона яшчэ схопіць!...

Мыюцца ротам. Рушнікі агульныя, зрэбныя і кужэльныя. Рушнікі мяняюцца вельмі рэдка, пакуль ад гразі ня зробяцца бурымі.

Летам у цёплыя дні рака Ўсяжа кішыць дзецьмі—яны купаюцца па некалькі разоў на дзень. Дзяўчаты купаюцца па суботах вечарам. Зімою мыюцца ў лазьнях. Лазьні ў гумнах, пры таках.

Даўжыня лазьні—6 аршын, шырыня—7 ар., вышыня—3 ар. Маленькая печка з каменьняў. Каменьні награюць, кідаюць у цэбры з вадой, ад гэтага вада моцна награваецца. Некалькі жэрдачак, чорных ад сажы, падвешаны каля сьцяны — гэта цапкі, на іх кладуць салому і парацца. Каб зрабіць „дух“—льлюць ваду на каменную печку—вада кіпіць і пар напаўняе лазьню. На цапкох б'юць цела венікамі.

Лазьня апальваецца: перад „дзядамі“, калядамі, вялікаднем.

Кабеты па тры-чатыры месяцы ня мыюць цела. Бялізна мяняецца адзін раз у тры тыдні, у месяц. Бялізна шыецца з кужалю, з зрэб'я (штаны).

Мыла ўжываецца толькі пры мыцьці бялізны, ды ў лазьнях.

Кожны дзень перад абедам хата мяцецца. Па суботах хата мыецца, калі ў хаце ёсьць дарослая дзяўчына.

[1]) Вячоркі ня тое, што вечарынка.

Летам у хатах шмат блох; прусоў на печы вельмі многа, клапы ў ложках. Клапоў і прусоў паляць лучынай. Мух шмат з тае прычыны, што хата мяжуецца з трохсьценкам—стайняю. Іх зьнішчаюць мухаморамі, мухалоўкай.

Зімою некаторыя гаспадыні дояць кароў у хатах.

Малыя парасяты, авечкі з ягнятамі некаторы час жывуць у хаце. Цэлую зіму куры знаходзяць прытулак пад печчу, у хаце.



Драмгурток вёскі Мглё.

Прыгатаваньне паронак, пойла, мякіны для жывёлы, пар ад гарачае бульбы ўсё мае ўплыў на санітарнае становішча хаты. Таму зімой у хатах бывае вельмі гразка, няпрыемны пах.

Хлопцы жэняцца 25—27 год, дзяўчаты 18—23 г.

Дзяўчына, якой больш за 24 гады, ўжо лічыцца старой. Так яе і называюць: „у дзеўках засталася. Старая“.

Абортаў сярод жанчын няма. Родзяць,—колькі „бог дасьць“.

Два гады назад жанчына нарадзіла траіх дзяцей і памерла. К радам цяпер прывозяць акушэрку.

### 9. Хваравітасьць насельніцтва і мэдычная дапамога.

У хатах няма фортак; паветра сьпёртае, што кепска адбіваецца на здароўі жанчын. Мужчыны большасьць дня праводзяць на паветры, а таму анты-санітарныя хатнія абставіны ня значна ўплываюць на іх здароўе.

У 1928 годзе в. Мглё ахапіла пошасьць шкарлятыны. На шкарлятыну перахварэлі ўсе дзеці. У тым-жа годзе памерла 18 чалавек, з якіх 10 дзяцей, што хварэлі на шкарлятыну, 5—ад запаленьня лёгкіх і 3—ад іншых хвароб. Вясной быў распаўсюджаны кор, якім захварэла 9 дзяцей. Пяць апошніх гадоў характэрны для вёскі распаўсюджаньнем каросты. Зімой яна пашыраецца, летам зьнішчаецца. Бывалі зімы, калі ўся амаль моладзь 120—147 чал. была каросьлівай.

Тыфус не наведвае вёску з 1921 году. Увосень 1928 г. быў адзін выпадак хваробы.

Каўтун ёсьць у вёсцы. Ім нядаўна хварэла тры чалавекі. Сярод жыхароў распаўсюджана паняцьце, што каўтуна зразаць ня можна. Калі зрэжаш—ногу сагне, або руку і г. д. А таму ў каго „каўтун", дык валасоў не расчэсваюць, запушчаюць і чакаюць пакуль ён сам „не адчэпіцца" ад чалавека. Вэнэрычных хвароб няма.

Сярод жыхароў пашырана інваліднасьць, як вынік імпэрыялістычнай вайны 1914-18 г. г.

Мэдычны пункт ад вёскі—тры кілёмэтры, у в. Юрава. Пункт у здавальняючым стане. На сродкі ад самаабкладаньня ў 1928 г. набылі многа мэдыкамэнтаў.

Акушэрка, хоць рэдка, але час ад часу сярод жыхароў вядзе гутаркі на санітарна-гігіенічныя тэмы. Ня кожны раз сяляне абарачаюцца за дапамогай ў мэдычны пункт: распаўсюджана „знахарства".

Рожу пасыпаюць жытняй мукой; замаўляе бабка. Залатнік—хвароба ў ніжняй частцы жывата—замаўляюць; ставяць на жывот „банькі"—гаршчок; хворы п'е „намоўленую" ваду з настоем травы „настаўнік". У каго ёсьць на руках, або на нагах барадаўкі (а яны быццам ад таго, што „ў час каляд ядуць гарох"—так думаюць сяляне)—зьнішчае іх такім чынам: на пекнай істужцы навязвае гэтулькі вузельчыкаў, колькі барадавак і падкідае істужку пад чые-небудзь вароты.

„Кругі" на твары зьнішчаюць такім чынам: знаходзяць плітачку гною з-пад капыта каня (кругі на твары ад таго, што „ходзяць па тым месцы, дзе качаўся конь"—думаюць сяляне) труць ёю „кругі", потым плітачку кладуць на тым самым месцы, дзе яна і была, плююць тры разы на гэтае месца, і, не аглядаючыся, ідуць у хату.

Вывіхі, боль зубоў „унімаюцца" пры дапамозе шэптаў. У вёсцы ёсьць дзьве „ведзьмы", заклінацель гадзюк. Укусе гадзіна жывёлу — вядуць да яго, ён замовіць.

## 10. Культурны ровень насельніцтва.

Вёска мае двухкомплектную школу, пабудаваную ў 1905 годзе, у якой вучыцца 85 дзяцей (85% школьнага ўзросту), ёсьць дзіцячы сад на дзяржаўных сродках, які ахапляе 40 дзяцей. Быў чырвоны куток, але зачыніўся дзеля адсутнасьці памяшканьня. Драматычны гурток лікам у 17 чалавек ня толькі робіць пастаноўкі ў гэтай вёсцы, а езьдзіць у іншыя вёскі радыюсам у 10 кілёмэтраў.

Летам 1929 г. мглянскі драмгурток зрабіў пастаноўку п'есы „Ганка" Галубка ў 4-х вёсках: Юрава, Мглё, Юзэфова і Косіна. У гэтых адносінах в. Мглё карыстаецца вялікім аўторытэтам сярод вакольных вёсак. 75% насельніцтва пісьменнае.

Патрохі адмірае стары быт, сьвяткуюць рэволюцыйныя сьвяты.

У ліпні 1929 г. з'організаваўся колектыў з 13 гаспадарак, што ўвайшлі ў яго з усёю маёмасьцю. Колектыў назвалі Праца. У вёсцы будуюць дэпо пажарнікаў.

Сярод насельнікаў вёскі ёсьць два сябры КПБ(б), 4 сябры комсамолу, якія і былі ініцыятарамі організацыі колектыву.

Усё насельніцтва—бядняцка-серадняцкае. Сяляне вядуць змаганьне супроць кулакаў—хутаран Вялікага Лесу. У 1929 г. было праведзена самаабкладаньне на 50%, падпіска на пазыку індустраялізацыі.

Актыўнасьць жанчын расьце. 30 жанчын аб'яднаны ў дэлегацкі пункт.

Тры жанчыны вёскі зьяўляюцца сябрамі сельсавету.

Вёска выпісвае 46 экзэмпляраў газэт: 23 „Беларускай вёскі", 2 „Савецкай Беларусі", 2 „Зьвязды", 11 экз. „Чырвонай зьмены", 1 экз. „Батрак", 2 „беларуск. работніца і сялянка", 3 „Крестьянской газеты", 2 „Паляўнічы Беларусі".

---

Д-р Н. А. Лосеў.

# Трахома ў Мазырскай акрузе і змаганьне з ёю.

Вялікая плошча Мазыршчыны яўляе сабою мозаіку пяшчаных і балотных абшараў. Амаль што ўсе населеныя пункты знаходзяцца каля балота, мясцамі на выспах сярод балот. У кепскае надвор'е і ў васеньнюю пару вёскі Мазыршчыны топяцца ў гразі, а ў гарачыя летнія месяцы пры ветры носяцца хмары пяску. Вёскі, хаты сялян, бытавыя ўмовы насельніцтва амаль што ня розьняцца ад умоў іншых раёнаў Беларусі. У большасьці сялян адна хата з варыстай печкай, агульныя нары ці шырокі ложак на ўсю сям'ю, адзін брудны ручнік, брудная пасуда і г. д. Наогул, трэба адзначыць антысанітарнае становішча сялянскае хаты. У адносінах асабістай гігіены таксама кепска. Сяляне, напрыклад, ня мыюцца ў лазьні, бо іх няма Зносіны паміж здаровымі і хворымі з аднаго боку, і паміж суседзямі наогул — з другога боку — вельмі цесныя.

Экономічнае і культурнае разьвіцьцё насельніцтва акругі нявысокае і бадай што ніжэй чымся ў іншых акругах Беларусі. Лячэньне вочных хворых вельмі часта робіцца хатнімі сродкамі, асабліва ў першыя дні хваробы.

Вось і ўсё, што можна было сказаць у кароткіх словах пра ўмовы, якія абкружаюць насельніцтва Мазыршчыны. У гэтых глухіх раёнах, надзвычайна далёкіх ад буйных цэнтраў, з даўніх часоў насельніцтва ня мела мэдычнай дапамогі. Селянін лячыў вочы ў шаптуна на вёсцы і ў фэльчара на раёне. Толькі гарадзкое насельніцтва ды невялікая частка сялян, вёскі якіх знаходзяцца блізка ад чыгункі, мелі магчымасьць атрымліваць кваліфікаваную мэддапамогу ў Гомельскай вочнай больніцы.

Такім чынам да 1921 г. на Мазыршчыне вочнай дапамогі насельніцтву ня было. Невядомы быў і характар вочных хвароб. Невядома было і распаўсюджаньне трахомы. Вочныя атрады, якія праўвалі на Мазыршчыне каля 25 год таму назад, не пакінулі нам ніякага матар'ялу.

У 1921 г. першы раз быў запрошаны акулісты, які праз некалькі месяцаў паехаў назад, бо ўмовы працы ў Мазыры былі немагчымыя. З тых часоў рэгулярна і даволі часта акулістыя зьмянялі адзін аднаго (за сем гадоў было пяць асоб). Да 1928 году ў Мазыры ніякага пісьмовага матар'ялу аб працы вочнае амбуляторыі ня было. Значыцца, цяжка судзіць аб працы папярэдніх таварышоў і нельга мець уяўленьня аб характары матар'ялу тых гадоў.

У сучасны мамант у Мазыры ёсьць вочная амбуляторыя і стацыянар на 5 ложкаў пры акруговай больніцы. У першы год працы 70% агульнага ліку амбуляторных хворых былі жыхары гораду, а сяляне

вельмі і вельмі мала зварочваліся да акуліста. Затое ў сучасны момант наадварот, сялян вельмі многа і прыняць аднаму ўрачу ўсіх хворых няма магчымасьці. Трэба адзначыць, што амбуляторыя і стацыянар зусім не здавальняюць сялян дзеля наступных мотываў: 1) амбуляторных хворых адзін урач прыняць ня можа, бо іх многа; 2) хворыя, якія прыяжджаюць з далёкіх раёнаў, пападаюць у вельмі цяжкае становішча з прычыны адсутнасьці вочнага станцыянара ў б-цы і Эвакопрыемніка ў горадзе. Пяць ложкаў нельга лічыць аддзяленьнем. У маі месяцы 1929 году я падаў дакладную запіску Інспэктару Аховы Здароўя, дзе даказваў вялікую неабходнасьць пашырыць вочнае аддз. і арганізаваць Эвакопрыемнік. Але гэта справа будучыны. Такім чынам, зусім ня прыходзіцца думаць аб здавальненьні ўсіх запатрабаваньняў насельніцтва ў стацыянарнай дапамозе. Тая невялічкая частка хворых, якая пападае ў стацыянар таксама ня можа быць здаволенай. Чарга хворых вялікая; выпадкі цяжкія, прыходзіцца сьпяшыць з выпісваньнем хворых.

За 1928 г. зарэгістравана 452 цяжкіх хворых, якія, бязумоўна, павінны былі атрымаць стацыянарную дапамогу, але з гэтага ліку толькі 138 чал. можна было шпіталізаваць. У 1929 годзе было адмоўлена яшчэ большаму ліку хворых. Трэба прыняць пад увагу, што ўсе гэтыя хворыя амбуляторна лячыцца таксама ня могуць па самай простай прычыне: у прыватныя памяшканьні хворых на вочы начаваць ня пушчаюць, у дом селяніна—таксама, у гасьцініцы селянін ня можа жыць дзеля недахопу сродкаў. Пры вялікім жаданьні з боку хворага ўсё-ж ён лячыцца ня можа. Сустракаюцца выпадкі героічных хворых, якія па некалькі дзён начуюць каля ракі, на сенажаці. Але гэта-ж ня выйсьце з цяжкага становішча. Як правіла, хворыя пасьля аднаго, двух дзён прымушаны ехаць назад, дамоў.

Калі лічыць, што гэтыя цяжкія ўмовы згубны для вочных хворых наогул, то для трахомных такое становішче вочнае дапамогі яшчэ горш. Трахомны выганяецца з прыватных кватэр, усюды ў яго вымагаюць спраўку доктара аб хваробе. Можна адзначыць, што шмат насельніцтва, асабліва гарадзкога, добра ведаюць пра трахому, як пошасную хваробу. Няўпынная праца мэдычных працаўнікоў у галіне санітарна-гігіенічнай асьветы ўжо дала добрыя вынікі ў сэнсе сьвядомасьці працоўных мас аб заразьлівасьці трахомы і мерах перасьцярогі, але хворыя, якія прыяжджаюць з вёсак, прымушаны вяртацца, дамоў без лячэньня. Няма магчымасьці як належыць паставіць працу.

Дзеля таго, каб профіляктычную і лекавую працу па змаганьню з трахомай перасунуць у раён, бліжэй да сялянства, мы паставілі сабе мэтай сабраць матар'ял аб распаўсюджаньні трахомы па акрузе, зрабіць карту з адзнакай колькасьці трахомных хворых у кожным раёне. Такое дасьледваньне акругі дасьць мнгчымасьць потым рабіць пэрыодычныя камандыроўкі ў раённую больніцу з мэтай правядзеньня амбуляторнага прыёму хворых і адначасова пазнаёміць мясцовы мэдпэрсонал з мэтодамі лячэньня трахомы.

У сьнежні м-цы 1927 г. я атрымаў згоду раённых дактароў кожны месяц прысылаць весткі аб новых трахматозных хворых з адзначэньнем у лісьце прозьвішча хворага, назвы вёскі і раёну. На працягу двух гадоў мы атрымлівалі гэтыя весткі і ў сучасны момант маем магчымасьць зрабіць ужо некаторыя падагульненьні аб распаўсюджваньні трахомы ў Мазырскай акрузе.

Дзеля таго, каб на мясцох праверыць трахомных хворых, мы рабілі выезды ў вёскі, праводзілі пагалоўны агляд сялян і адначасова знаёміліся з экономічнымі і бытавымі ўмовамі насельніцтва.

Усяго па акрузе за два гады зарэгістравана 701 чалавек хворых трахомай. Амбуляторыя акруговай больніцы ня толькі рэгістравала хворых, але пры кожнай магчымасьці вызывалі ўсю сям'ю на агляд. Усяго за два гады па акрузе прынята першачарговых хворых 568704 чал. З гэтай масы хворых зарэгістравана толькі 701 чал. трахомных, што складае прыблізна 0,12% агульнага ліку хворых ці 1,9:1000 чал. насельніцтва. Зразумела, што абгрунтаваць затрахомленасьць акругі на падставе толькі амбуляторнага матар'ялу нельга. Але, зроблены намі агляд вучняў, прызыўнікаў, пагалоўны агляд некаторых вёсак, дае магчымасьць мець ужо вывады аб распаўсюджаньні трахомы ў Мазыршчыне.

Паводле характару занядужаньня (ступень) увесь матар'ял падзяляецца наступным парадкам: трахома першае ступені — 202 чал.; трахома другой ступені — 216 чал. і трахома трэцяе ступені — 283 чал. Рэцэдывы трахомы, як панус, заварат вейка і г. д. сустракаюцца ня зусім часта. Так, напрыклад, панус намі адзначаны ў 26 выпадках; заварат вейкі ў 20 выпадках.

Нацыянальнасьць і трахома.

| | |
|---|---|
| 1. Беларусаў | 494 чал. |
| 2. Яўрэяў | 85 " |
| 3. Немцаў | 42 " |
| 4. Палякаў | 20 " |
| 5. Украінцаў | 60 " |

Нацянальнасьць у нашым матар'яле ня мае вялікага значэньня. Трахома роўнамерна распаўсюджана, як паміж беларусаў, так і сярод яўрэяў, палякаў і украінцаў. Выключэньнем зьяўляюцца нямецкія калёніі, дзе трахома распаўсюджана значна больш. Па аналёгіі з немцамі Паваложжа і Украіны, беларускія немцы часьцей хварэюць трахомай, чымся беларусы, яўрэі. Цяжка вытлумачыць гэты факт. З культурнаэкономічнага боку немцы жывуць ня горш беларусаў. Некаторую асаблівасьць можна адзначыць у бытавых умовах жыцьця; некаторую замкнёнасьць іх.

Што датычыцца пола хворых, то як мужчыны, так і жанчыны аднолькава хварэюць. Мужчыны 358, жанчын—343. Сярод іх дзяцей 14,5%.

Занияткі хворых і трахома.

| | |
|---|---|
| Сялян | 486 — 69,5% |
| Рабоч. | 28 — 4% |
| Служачых | 22 — 3,3% |
| Вучняў | 108 — 15,5% |
| Саматужн. | 31 — 4,5% |
| Гандл. | 18 — 2,5% |
| Вайсков. | 8 — 1% |

Сяляне, зразумела, як галоўная маса насельніцтва акругі, далі найвялікшую колькасьць хворых, але асаблівага чаго-небудзь у залежнасьці паміж трахомай і соцыяльным становішчам у нашым матар'яле адзначыць нельга. Няма трахомных гнёзд, дзе можна было-б

адзначыць выключна хворых сялян. Нявялікім выключэньнем зьяўляюцца нямецкія колёніі, дзе колькасьць трахомных хворых значна ўзрастае. Больш, як палова выпадкаў заражэньня трахомай сярод дарослых, паводле нашых дбсьледаў, здарылася на вайсковай службе, пры адходным промысле аднаго члена сям'і, а потым ужо контактным шляхам інфэкцыя перадавалася іншым членам сям'і. Каля 65% усіх трахомных захварэлі ў апошняе дзесяцігодзьзе. Гэта сьведчыць аб тым, што ваенныя і рэволюцыйныя гады спрыялі пашырэньню трахомы. Сустракаюцца вельмі частыя выпадкі, калі ўсе члены сям'і, ня гледзячы на тое, што адзін з іх хворы трахомай, на працягу пяці і больш гадоў застаюцца здаровымі.

Такім чынам, на падставе двухгадовага амбуляторнага матар'ялу, пагалоўнага агляду сялян некаторых вёсак па выбарачнаму мэтоду прыходзіцца сказаць, што трахома ў Мазырчыне распаўсюджана менш, чым у іншых раёнах Беларусі. Аб гэтым сьведчаць даныя агляду прызыўнікаў 27/28 г. Намі агледжана 2012 чал., сярод якіх было 20 чал. хворых трахомай, што складае каля 1% агледжаных. Прымаючы пад увагу, што прызыўнікі зьяўляюцца аднаго ўзросту, жывуць у аднолькавых кліматычных і экономічных і экономічна-бытавых умовах, гэты матар'ял мае вялікае значэньне для выяўленьня застрахомленасьці акругі. Адзін процант трахомы сярод прызыўнікаў трэба прызнаць невялікім у параўнаньні з лічбамі іншых дасьледчыкаў розных месц СССР.

Матар'ял агляду вучняў г. Мазыра і акругі таксама паказвае невялікі процант хворых трахомай. Агледжана 730 вучняў гораду, сярод іх 8 чал. хворых трахомай, ці 1,09. Школьна-санітарныя ўмовы школ Мазыра вельмі далёкі ад ідэалу, а наадварот, яны ніжэй у шмат разоў за тое, што патрабуецца сучаснымі ведамі школьнай санітарыі. Па раёнах акругі агледжана 10340 вучняў. Сярод іх хворых 74 чал. г. зн. 0,7% агульнага ліку агледжаных. Такім чынам, па акрузе ў 1928 г. агледжана 11070 чал. з 30110 агульнага ліку, ці некалькі больш 0,3. Хворых трахомай зарэгістравана ўсяго 82 чал.

Санітарнае становішча вясковых школ ніжэй усялякай крытыкі. Імкненьне пэдагогічнага і мэдычнага пэрсоналу ўкараніць вучням гігіенічныя навыкі разьбіваецца аб беднасьць і антысанітарнае становішча школ. Сярод рабочых фабрык і заводаў гор. Мазыра знойдзены здавальняючыя лічбы хворых. Пры пагалоўным аглядзе рабочых фабрыкі Зара, заводу Чырвоны Кастрычнік з ліку 300 чал. зарэгістравана хворых толькі 3 чал. Умовы працы на Чырвоным Кастрычніку і кацельным цэху цукерачнае фабрыкі спрыяцюь разьвіцьцю катараў кон'юнктывы, але трахомных хворых нямнога.

Таб. 3. **Узрост і трахома.**

| Гады | Колькасьць | %% | Гады | Колькасьць | %% | Гады | Колькасьць | %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1—10 г. | 102 | 14,5 | 30—40 | 106 | 15,1 | 60—70 | 47 | 6,3 |
| 10—20 | 135 | 19,2 | 40—50 | 88 | 12,5 | 70—80 | 18 | 2,5 |
| 20—30 | 130 | 18,5 | 50—60 | 75 | 10,7 | — | — | — |

З вышэйадзначанай табліцы відаць, што процант дзяцей хворых трахомай у адносінах да агульнага ліку трахомных усё-ж вялікі (14,5%).

Калі прыняць пад увагу 19,2% юнакоў, то колькасьць трахомных сярод самага маладога пакаленьня дасягне аднэй трэці агульнага ліку хворых. Гэтая лічба гаворыць нам аб тэндэнцыі трахомы да росту ў акрузе, ня гледзячы на агульны параўнальны дабрабыт.

## Культурнае разьвіцьцё і трахома.

Культурнае разьвіцьцё сялянства Мазыршыны за апошнія гады значна павысілася. Як правіла сярод юнакоў няпісьменных мала. Потым кідаецца ў вочы сьвядомасьць і зацікаўленасьць значнай часткі хворых характарам сваёй хваробы. Некаторыя ўжо добра ведаюць, што трахома заразьлівая, ведаюць профіляктычныя мерапрыемствы, цярпліва лечацца ў доктара. Ня гледзячы на тое, што сяляне ў большасьці жывуць далёка ад амбуляторыі, што ўмовы жыцьця і працы цяжкія, што сярод іх забабоны яшчэ крэпкія, вельмі часта наглядаюцца выпадкі, калі сяляне ўпарта лечацца ў доктара. Гэтыя факты паказальны ў сэнсе падняцьця культурнага разьвіцьця сялян. У сучасны момант ня столькі цемната сялян перашкаджае весьці рэгулярна змаганьне з трахомай, колькі перашкаджаюць экономічныя недахопы, ці наогул беднасьць сялянства, таксама адсутнасьць вочнага аддзяленьня і Эвакопрыемніку ў г. Мазыры.

Мы дазволім сабе прывесьці тут вынятку з аднога ліста селяніна вёскі Навасёлак, які атрыманы намі на запытаньне аб сьлепаце ў іх вёсцы і наогул вочных хваробах. Вось што ён піша: „Вёску нашу з двух бакоў абкружае балота. Студні амаль што ў кожным двары, каля пуні. Хаты маленькія з кепскім асьвятленьнем; сьпяць усе разам; ручнік адзін для ўсіх. Лазьні няма. Забабоны вельмі пашыраны сярод сялян. Хворыя ў большасьці лечацца з пачатку ў бабак, знахароў. Прышлі ты нам у вёску, яшчэ цёмную, акуліста і даньціста“. Гэтымі кароткімі славамі сказана ўсё, што можна сказаць аб санітарна-бытавых умовах сялян. Найбольш адстае і найбольш востра адчуваецца недахоп вочнай і зубной дапамогі ў раёне. Ня гледзячы на тое, што знахарства вельмі пашырана сярод сялян, яны ўжо глыбока жадаюць мець спэцыяліста ўрача. Па нашай думцы сярод сялянства адчуваецца вялікі культурны зрух. Цяпер паўстае пытаньне: якім шляхам мы можам прыблізіць спэцыяльную дапамогу сялянству.

## Змаганьне з трахомай.

Плянавага змаганьня з трахомай у Мазыршчыне няма. Гарадзкая амбуляторыя ў сучасны момант абслугоўвае толькі невялікую частку хворых сялян з вёсак найбольш блізкіх да гораду. Потым вывучаецца распаўсюджанасьць трахомы, выяўляюцца яе гнёзды. Большая частка сялян, якая разьмешчана на вялікай адлегласьці да гораду, ня мае магчымачьці карыстацца амбуляторыяй.

Дзеля наданьня змаганьню з трахомай больш грамадзкага характару мы зварочваліся з просьбай у Інспэктарыят Аховы Здароўя ў 1928 годзе ўключыць у курс заняткаў з настаўнікамі на курсах перападрыхтоўкі некалькі гутарак на тэму: „Роля настаўнікаў у змаганьні з трахомай на вёсцы“. На вялікі жаль, Інспэктарыят на гэту прапанову не зьвярнуў належнай увагі і гэтай справы не ўдалося правесьці. Далей намі былі прадпрыняты меры да выданьня популярнай лістоўкі-памяткі аб спосабах асьцярогі ад заражэньня трахомай. Лістоўка была прадстаўлена Інспэк-

тарыяту на прагляд і зацьвярджэньне ў навуковай нарадзе дактароў пры Інспэктарыяце, але Інспэктарыят не друкаваў лістоўкі, ня гледзячы на прынцыповую згоду. У гэтым годзе на падставе сабранага намі матар'ялу выявілася, што па раёнах трахомы ня лечаць, напрыклад: мэханічнае лячэньне зусім не праводзіцца, з мэдыкамэнтозным таксама кепска знаёмы. На адным з пасяджэньняў навуковае асоцыяцыі ўрачэй намі было пастаўлена пытаньне аб пэрыодычных выездах спэцыялістых у раён з мэтай: 1) некалькі дзён весьці амбуляторны прыём сумесна з раённым мэдпэрсоналам; 2) азнаёміць раённых дактароў з лячэньнем трахомы. Пасяджэньне ўрачэй зацьвердзіла гэтае пытаньне. Пасьля гэтага мы зьвярнуліся ў Інспэктарыят за дазволам рабіць пэрыодычныя выезды і адпусьціць для гэтай меты сродкі. Інспэктарыят даў прынцыповую згоду, але грошай у бягучым годзе ня мог даць. Санасьвета ў амбуляторыі таксама не вядзецца: 1) да апошняга часу ня было плякатаў-лёзунгаў, 2) гутаркі з хворымі нельга было наладзіць з прычыны цеснаты ў агульнай амбуляторыі.

Ня гледзячы на гэта, амбуляторная праца і гутаркі з хворымі за сталом доктара ўкараняюць сялянам простыя правілы папярэджваньня трахомы.

На падставе вывучэньня ўмоў працы на Мазыршчыне можна зрабіць вывад, што змаганьне з трахомай можа быць праведзена толькі пры разьвязаньні трох пытаньняў:

1) Усе вучастковыя дактары павінны ведаць мэханічны і мэдыкамэнтозны методы лячэньня трахомы. Толькі тады селянін зможа больш-менш рэгулярна лячыцца, калі ён зможа наведвацца да доктара, не адрываючыся ад гаспадаркі.

Дзеля дасягненьня гэтай мэты неабходна рабіць Акруговаму акулісту пэрыодычныя выезды на вёску з мэтай азнаёміць раённага доктара з мэтодамі дасьледваньня і лячэньня трахомы. Арганізаваць гэтыя выезды павінен Інспэктарыят Аховы Здароўя. Выезд акуліста ў раён зьяўляецца працягам і паглыбленьнем працы па ахове зроку насельніцтва. Пэрыодычныя выезды, добра арганізаваныя, могуць даць вельмі многа для раёну. Раённыя дактары, асабліва маладыя, захапляюцца хірургіяй, у прыватнасьці акушорствам (аборт зьяўляецца сольлю вучастковага доктара). За гэтымі буйнымі дрэвамі яны ня бачаць калючага хмызьняку, які прыносіць чалавецтву нязьлічоныя беды. Дзеля дасягненьня гэтай-жа мэты Наркамздраў павінен уключыць абавязкова стажорства па вочных хваробах для маладых дактароў (ня менш як на 2 месяцы).

2) У акрузе павінна быць вочнае аддзяленьне ня менш як на 15 ложкаў. Такі лік ложкаў дазволіць абслугоўваць сялянств стацыянарам больш-менш здавальняюча. Таксама вельмі патрэбен эвакопрыемнік, які палегчыць сялянам карыстацца доўгатэрміновым лячэньнем трахомы.

3) Папярэджваньне трахомы. У грамадзкім змаганьні з трахомай гэта мае першараднае значэньне. Тут больш, чым пры іншых хваробах, лягчэй папярэдзіць чымся лячыць. Пытаньне грамадзкага змаганьня з трахомай зьяўляецца актуальным. Падняць сьвядомасьць мас у справе асабістага папярэджваньня трахомы—наша чарговая і галоўная задача.

Мы павінны даць правільнае паняцьце падрастаючаму пакаленьню аб трахоме і яно само потым лёгка і з посьпехам будзе весьці змаганьне з гэтай хваробай. Калі мы час ад часу чуем заявы аўторытэт-

ных спэцыялістых аб тым, што ў некаторых раёнах адзначаецца зьмяншэньне трахомных хворых, дык гэты факт тлумачыцца толькі павышэньнем культурнага разьвіцьця насельніцтва.

У справе выхаваньня правіл асабістай і грамадзкай профіляктыкі настаўнікі павінны заняць першае месца. Ніколі мэдычны пэрсонал уласнымі сіламі ня зможа ў шырокай ступені прышчапіць насельніцтву санітарна-гігіенічныя правілы. Мэдычныя працаўнікі ня маюць дастаткова сіл і часу для правядзеньня гэтай вялізнай працы і на дапамогу яму павінен прысьці настаўнік. Як і ўсе культурныя навыкі, правілы гігіены замацоўваюцца на школьнай лаўцы. Кожны настаўнік, ня толькі ў часы лекцыі, але і прыкладамі асабістага жыцьця, штодзённа, на працягу некалькіх гадоў, зможа нават адсталым дзецям прышчапіць правілы асабістай і грамадзкай гігіены.

Такім чынам, нашай задачай зьяўляецца прыцягнуць настаўніцтва да справы змаганьня з трахомай. Для дасягненьня гэтай мэты Наркамздраву неабходна дабіцца перад Наркамасьветы абавязковага ўключэньня ў програмы Пэдтэхнікумаў, Пэдфакаў і курсаў перападрыхтоукі вясковых настаўнікаў спэцыяльных гадзін для дэтальнага азнаямленьня настаўнікаў з трахомай. Школьна-санітарных дактароў мала і імі ахоплены толькі гарадзкія школы. На вёсцы ў санітарна-гігіенічных адносінах дзеці самі сябе выхоўваюць.

Лёзунгам нашага дня павінна стаць: праз настаўніка біць па трахоме. Пры разьвязваньні трох вышэйадзначаных пытаньняў, якія ў сучасны момант зусім рэальны да ажыцьцяўленьня, змаганьне з трахомай прыме правільнае і шырокае разьвіцьцё.

---

**Юрка Кармянскі.**

# 30 дзён на дынамічным перапісу.

(*Чачэрскі раён*).

## I. Вёска Покаць.

Вёска Покаць Чачэрскага раёну зьдзівіла мяне, па прыезьдзе, сваёю нязвычайнасьцю. Шырокія вуліцы, зеляніва садоў, стромка пастаўленыя хаты. У самым цэнтры — 3 - 4 коопэрацыйныя крамы.

— Ды гэта-ж проста мястэчка! — вырвалася ў мяне мімаволі, калі я падыходзіў да будынку покацкай школы.

Здалёку вырысоўваўся лес, зелянелі сенажаці, а тут, крыху ўбок, на фоне ясна-блакітнага неба, нібы на малюнку, стаяў двухпавярховы будынак ясна-жоўтага колеру.

Школа — крытая жалезам. Клюб і хата-чытальня, тут-жа і сельсавет, — каменныя будынкі.

Вёска-мястэчка... І вось мы жывом тут, у Покаці. Мяне спачатку палохала гэтая наша праца рэгістратараў-статыстыкаў дынамічнасьці сельскае гаспадаркі. Вялічэзныя блянкі ў 10 старонак, безьліч параграфаў і цыфраў—дзівілі і непакоілі сваёй нязвычайнасьцю і навізной. Сама праца ўяўлялася нявыразна-цяжкай, незразумелай і непадатлівай.

Але ўжо на другі дзень, калі мы, звыш нормы, запоўнілі яшчэ па дзьве карткі, — значна палягчэла і зрабілася весялей...

Удзень страшэнная сьпякота. Ад сонца здаецца, што хаты смаляць, і пясок — нейкая гарачая расплаўленая маса. Затое ўвечары — цэлыя струмені вясёлай моладзі, асабліва дзяўчат, і белая, бясконца белая, вопратка.

Гукі гармошкі нястройныя і няўмелыя, але ці сочыць тут хто за гукамі гэтымі, ці прыкмячае? Усё прыгожае і сугучнае дадаецца цудоўнай ліпнёвай ночкай, шырокім і шчырым месяцам. Вёска гуляе...

— Добры вечар, дзяўчаты!..

Прысаджваемся, перакідваемся некалькімі словамі. Дзяўчаты больш маўчаць і ціха пересьмейваюцца. Мы ўстаем і зьбіраемся ісьці далей.

— Куды-ж вы?.. Гуляйце з намі!.. Хі-хі...

— Мы яшчэ прыдзем, — адказваем хорам (нас было трое), — яшчэ ня ўсю вашу тут вёску абышлі...

— А-а-а... да „масковачак“ хочаце прайсьціся?.. З намі гуляць ня хочаце?.. Ну, ідзеце, ідзеце, ня трымаем...

І зноў за намі, ужо нястрыманы, гарэзьлівы сьмех. Душна. Ноч няпрыкметна распусьцілася ўва ўсім сваім летнім харастве над вёскай. Шырокія вуліцы, з шматлікімі закавулачкамі зусім загубіліся ў зеляніве садоў.

Перад кожнай хаткай — разьвесістыя цяністыя дрэвы і няпрыкметна прыбудаваная лавачка.

А крыху ніжэй, за вёску — спакойная і сьветлая рэчка Покаць, ціхія перадвосенскія сенажаці, далёкі, заўсёды чаруючы месяц.

Гэта зусім нічога, што заўтра, разам з сонцам, уся моладзь гэтая павінна падняцца на працу. Далёка за поўнач будут мітусіцца па вуліцы белыя хусьцінкі, далёка за поўнач будзе рыпаць заўзята, радасны і просты гармонік...

Покаць разьбіваецца на дзьве, зусім розныя, своеасаблівыя часткі. Адна частка — беларуская, а другая — так званая „стараверская“.

У другой частцы, беларускай мовы няма і ў паміне. У гутарцы — мяккія канчаткі слоў. У кожнага на вуснах слова „нонче“, якое гаворыцца часта дзе трэба, дзе і ня трэба. Усюды чыста расійскі говар. У дзяўчат — больш гарадзкая вопратка, парфума, у бацькоў — патрыярхальныя бароды і рэлігійнасьць. Жывуць старaверы на асобным канцы вуліцы, так званым „Старым Вобрубе“. Тут яшчэ больш зеляніва і больш цішыні, больш садоў. У будынках больш акуратнасьці.

Беларуская моладзь вёскі, асабліва дзяўчаты, рэдка сюды заглядвае. Так было заведзена раней, так і цяпер.

Гэты парадак парушаюць часта толькі хлапцы, як з аднаго, так і з другога боку, якія не абмяжоўваюцца аднэй часткай вуліцы, а гуляюць усюды. Але хлапцоў улетку вельмі мала. Усе яны разьяжджаюцца на розныя сэзонныя працы.

Улетку на Вобрубе неяк асабліва ціха. Вуліца з зялёнымі закавулачкамі засыпае зараз-жа з наступленьнем цемені. Гуляе толькі моладзь. На ўзгорачку, на цьвёрдай прыбітай зямлі, куды месяц вольна лье сваё шырокае халоднае сьвятло — дзяўчаты - „маскоўкі“ з сваёй гармошкай.

— Хлопчыкі!.. Чыво ш вы там не гулялі, а? До нас всетакі добралісь, Москву нашу поглядеть-та захотелось?.. Добрый вечыр!..

Мне адразу ўспомніўся Сьвяцк, Новазыбкаўскага раёну, у якім мне давялося пабыць усяго тыдні два назад. Ня гледзячы на тое, што тут усяго 2 вярсты ад Беларусі, тут таксама зусім іншае, сваё жыцьцё.

Увечары я прыслухоўваўся там да пяяньня дзяўчат. Нашу мілагучную і прыгожую песьню „Сорам дзеўцы, сорам краснай“ там сьпяваюць на свой лад, з сваім вымаўленьнем слоў і акцэнтам.

Добрыя, прыгожыя галасы нейк асабліва падкрэсьлівалі: „поздна вечирам гулять“...

А беларускія песьні ведаюць таксама добра.

— Дзяўчаткі, прасьпявайце якую-небудзь беларускую песьню! — папрасілі мы з таварышом, жыхаром Сьвяцку.

Мяне вельмі цікавіла, як будуць выходзіць з іх вуснаў беларускія словы.

— А нет, мы ужь лучьшы-та сваю спаем...—І сьпявалі пра нейкую дзяўчыну, якая „чирис каво-та в гроп пашла...“

Гэты покацкі Вобруб мне вельмі напомніў Сьвяцк, і па вопратцы і па гутарцы.

— Ну, дык, дзяўчаты, пойдзем на вёску? — прапанавалі мы „масковачкам“.

Тыя пераміргнуліся паміж сабою і адна з іх заўважыла:

— Чиво мы там не бачили? Шчо бы которая з іх в фізію заехала?.. Ну іх...

---

Покацкія стараверы, амаль усе, вельмі паважныя, сталыя, як самі яны кажуць, людзі рэлігійныя. Апранацца стараюцца як-мага лепш. У вопратцы павінна быць, па іх думцы, як-мага менш саматканага, не павінна быць лапцёў, лепш не даесьці.

Застаў я аднаго з іх у часе абеду, калі ён устаўшы з-за стала і абцёршыся шырока рукою, размашыста хрысьціўся. У хаце цэлы іканастас абразоў і абразочкаў, як і ў большасьці старавераў.

— Добры дзень вам, урэшце такі застаў вас... (я заходзіў ужо другі раз).

— Добрый, добрый... Вот как раз то, значыт, і засталі. Нонче погода-то хорошая вдалася, ну мы, значыт дома-то редко бываем.

Растлумачваю яму прычыну свайго прыходу, сэнс перапісу.

— А-а-а... статістіка значит... знаем... Я вот забіжен теперічя... хлебушек то весь нонче сгорел в гумне, сено сгорело...

Аб прычыне пажару мне было добра вядома. Рэлігійны старавер на самым версе гумна прымацаваў „грамаадвод“ — вялізны жалезны крыж. І бязумоўна, што ў часе навальніцы гумно зьявілася найлепшым „месцам прыцэлу“.

— Дык вы-ж самі вінаваты, — кажу я.

— Ну, нет! На то воля божеская, ему відней то с неба...

Ніякіх больш тлумачэньняў і слухаць не хацеў.

— Чаму вы лічыце сябе вялікарусамі? — запытаўся я канчаючы апытваць.

— Хто ево знаіт. Самі то мы народівшись тут, в Белорусі... Может деды когда в Московщіне былі. А язык то у нас свой, чыстый — дадаў ён з гонарам.

— Колупальшчыкі те с нас смеются, ну мы потому в особенності і жывем...

---

Кожны старавер стараецца паказаць, што ён жыве лепш і інакш, чым сусед яго, беларус.

Прышоўшы да аднаго з іх і сеўшы на прызьбе, я пачуў спалоханы голас:

— Что вы ета, в квартіру зайдемте.

„Квартіра“ — хатка, з аднаго забруджанага пакойчыку, на сьценцы нейкія палінялыя газэтныя малюнкі, да вакна прыхіліўся стол з трыма ножкамі, прагніўшая падлога. На самае віднае месца вынесьлі невялічкі запэцканы самаварчык. Два-тры фотографічныя здымкі.

— Знаете угостіл бы вас чем нібудзь, но вот жена ключы-та все забрала...

— Што вы!..—дзякуйце... я толькі што...—кажаш яму, адразу прыступаючы да працы...

Дынамічны перапіс праходзіў у самы няўдалы час. Распачалося жніво, касьба. З самага раньня да цёмнага вечару вёска нібы вымершы. Пры рэгістрацыі больш за ўсё прыходзілася мець справу з жанчынамі. Яшчэ здалёку ўбачыўшы жоўтую рэгістратарскую папку, амаль што кожная з іх стараецца ўлізнуць як-небудзь з хаты. На маіх вачох адна жанчына, думаючы што я ня бачу, замкнула на замок хату і ўлезла зноў туды праз вакно. Прыходзілася браць хітрасьцю. Некаторы раз бярэш проста адны блянкі і ўклаўшы іх у кішэню заходзіш у хату.

На парозе — жанчына з спалоханымі вачыма.

— Ат, ходзіця вы тут няма знаць чаго... зайшлі-б увечары... Я нічогенька, нічогенька ня ведаю...

Загаварваеш вясёлым тонам:

— Ну, што вы, цётка,—я пра такое запытваюся, што малое дзіця ведае... Сям‘ю-ж вы сваю ведаеце?

— Канешне што, пасьці...

— Вось і добра. Скаціну-ж таксама?

— Ды якое там ведаю... Ну, конь адзін, дык і той спаць ня бача... Карова тая здохлая, авечак пара паршывых... Якая там гаспадарака, сорам толькі адзін!..

Стараешся ёй давесьці, што гэта ня перапіс на падаткі, а статыстыка, вывучэньне народнае гаспадаркі,—нічога не дапамагае.

— Усе вы так гаворыце, што статыстыка!..

Атрымаўшы няпрыкметна патрэбныя весткі, ветліва і весела разьвітаўшыся выходзіш.

Асабліва цяжка было з прыходам і расходам. Расход селянін знойдзе заўсёды, а вось прыходу на такую суму ніяк не наскрэбсьці. —Прыходу ў нас ніякага няма,—гаворыць якая-небудзь сялянка жаласьлівым голасам.

— А можа кабанчыка, ці кароўку якую прадалі?

— Ды не, не, нічогенечка.

— Дрэнная-ж справа,—спачуваеш ёй.

— Вось толькі месяцы чатыры назад сьвінёнка прадалі ў пірацыю... Узялі там сотню якую, дык яна так па капейках і разышлася...!—дадае яна ўспомніўшы.

— Дык гэта што,—няўважна гаворыш ёй, і няўхільна, буйнымі цыфрамі запісваеш сотню.

— А так больш нічога не прадавалі?..

— ...Яшчэ... трэба было хлеба купіць, дык цёлку задарма аддалі. Даў скупшчык усяго 40 рублёў...

Урэшце прыход і расход урэгуляваны. Заспакоены выходзіш, з потам на лобе, з хаты.

Колектываў жанчыны таксама палохаюцца.

— Штой та вы гэта! Мы-ж, бабы перагрызомся тады ўсе; на аднэй вуліцы ніяк ужыцца ня можам, а то... — ды не, штой та вы!..

Мужчыны наадварот.

Рэдка знойдзеш селяніна, які-б быў супроць колектыўнае гаспадаркі.

— Нам, ведаеце, усё роўна. Мы і ў пасёлку жывом амаль што так, як у колектыве. Адны машыны, адна праца, і час разьмеркаваны аднолькава.

Пасяльчане, напрыклад, „Чырвонага Дубка“ Покацкага сельсавету, імкнуцца да колектыўнае гаспадаркі.

— Званкі вось толькі не спадабаюцца... толькі распрацуешся, а тут званок...

У аднэй з покацкіх хат адразу заўважыў, што ў прывычным, завэндзаным куце няма абразоў. На сьценах — портрэты правадыроў, сельсавецкія аб‘явы, прыказы.

Гаспадыня адразу запрыкмеціла, што я гэтым зацікавіўся.

— Дзівецеся, абразоў няма? — ды гэта-ж Іван мой прысідацілім... дык усё павікідваў, ад людзей нешта няёмка...

— А навошта яны вам здаліся, багі гэтыя?..

— Яно-та сказаць і ня трэба, ну ды ня так, як у людзей...

— Муж-жа ваш камуністы? — запытваюся я далей.

— А як-жа, камуністы... — і ў вачох яе праз знадворнае нездавальненьне, я прыкмеціў радасныя аганькі...

Вёска Покаць — культурная вёска. Тут сельсавет, партыйныя і комсамольская ячэйкі, трохкомплектавая прасторная школа. Спэцыяльнае, каменнае памяшканьне для клюбу і хаты-чытальні; моцны, з некалькімі аддзяленьнямі коопэратыў.

Чыстка пяртыі праходзіла сярод вялікіх сходаў бядняцкага, беспартыйнага сялянства.

Настаўнікам працаваць вельмі добра, больш аддаецца часу на школьную працу, бо ў кампанейскай працы — ячэйкі.

Некалі ў Покаці быў прыгожы двухпавярховы будынак, сямігодка. Ён стаіць яшчэ і цяпер, але ў сярэдзіне ўсё згарэла. З усёй прыгожасьці засталіся толькі моцныя, ясна-жоўтага колеру сьцены з пустымі праваленымі вачмі-вокнамі. Спаліў яго па неасьцярожнасьці нейкі лясьнічы. Гаварылі, што і пагасіць яго лёгка было, і што людзі стаялі навокал у злоснай інэртнасьці. Любаваліся, як паступова гарэў пакой за пакоем на працягу двох дзён. Пасьля нехта прыяжджаў, агледзеў, склаў каштарыс на рамонт і паехаў. Потым прыяжджалі яшчэ і яшчэ... а ўрэшце, з кожным годам будынак псуецца і развальваецца. І шкада глядзець на гэты сапраўдны вясковы волат, які на вачох ува ўсіх гіне і распадаецца...

Выяжджалі з Покаці гадзін у дванаццаць дня. На рэчцы ляніва цьвякалі пранікі, і стук іх глуха аддаваўся ў цягучым душным паветры. Пад альховымі кустамі, параскіданымі ўсьцяж рэчкі, нецярпліва адмахваліся ад мух зморaныя сьпякотай коні, і яшчэ далёка і доўга віднеўся на ясным фоне блакітнага неба двухпавярховы Покацкі будынак.

### Вёска Бабічы.

Вёска Бабічы, таго-ж раёну — ужо далёка ня Покаць. Вялікая, раскіданая бяз сэнсу і парадку па розных закавулачках, вёска ўяўляе сабою старое закінутае месца.

Амаль трыста двароў. Моладзь неорганізаваная, цёмная. На гэтыя трыста двароў, ды яшчэ на столькі-ж у пасёлках — ніводнага комсамольца, ніводнага партыйца. Газэту рэдка сустрэнеш. Няма ні ячэек, ні хаты-чытальні. Ня дзіўны ніколі словы аднаго селяніна, які выказваўся адносна міжнародных падзей:

— Вайна да нас ніякая не дабярэцца, хаця і будзе... Вось, скажам, розныя, значыць, войны ваявалі, а ў нас хоць-бы што... Бандыты, праўда, спрабавалі прыходзіць... Свайго бандзёжу (бандытызму) хапала... распусьціліся было, процьма на іх!..

Увечары першы раз знаёміліся з вясковай моладзьдзю.

Душная цёмная ноч. Рыпае гармонік. Усюды аганькі цыгарак. Моладзь забаўляецца. Частка яе танцуе, а частка з усяго размаху ўрываецца ў круг і раскідвае па баках танцуючых. На вуліцы мат і лаянка. Пачалі сароміць іх, ставілі ў прыклад Покаць, гаварылі аб покацкай моладзі.

— Хто вы такія? — запытаўся ў нас нейкі высокі хлапец. — Мы вас, здаецца, сюды ня гукалі?.. Можаце ўбірацца...

— Эх, фуліган, ты фуліган — пачулася некалькі галасоў, — ідзі прасьпіся.

— Хто, хто гэта сказаў?—крыкнуў ён зноў высунуўшыся з цемені.

— Ну, я сказаў, а што?..

Моцны, аздоблены шматлікімі паверахамі мат, і ўрэшце агульная свалка.

Ледзь разбаранілі пры дапамозе с/савету.

На вялікі жаль, нельга было разьвярнуць тут якую-небудзь працу. Дзень — заняты, адпачынкаў няма. Увечары-ж сабраць моладзь цяжка. Сходкі адбываюцца бяз моладзі, а калі і ёсьць невялічкая частка — інэртна. Школа на самым краі вёскі. Яшчэ некалькі крокаў уперад — і шырокае жаўтаватае поле, бязьмежныя аўсы, грэчкі, бульбы... Двое настаўнікаў, такіх-жа ціхіх, як і вёска. І ціха жыцьцё цячэ, у строгай плянавасьці складаюцца адна на адну непрачытаныя газэты „Учительская“ і „Савецкая Беларусь“...

Увечары нам трэба было дастаць якой-колечы ежы. Коопэратыўная крама была ўжо зачынена. Заставалася адно пайсьці да вясковага кулака. Вялікі двор, шчыльна абгароджаны, сад, вульлі. На дварэ калодзеж. Усюды жывёліна і птушына. А сам гаспадар Ільля, — босы, у каравай палатнянай кашулі, перад вокнамі віў вяроўку.

— Статыстыкі зьявіліся?.. — Я чакаў... Чым магу служыць?

— Купіць-бы ў вас што-небудзь трэба-б было...

— Можна.

Ён пачухаў пад вокам і дадаў:

— Эйш, зараза, куды падцэлілася пчалёха, пад самае вока стрыкнула, глядзець нельга.

— Гэта вашы пчолы каня зарэзалі? — запыталіся мы, чуўшы раней пра гэтую справу.

— Ды якое там к чорту, мае? Ну, зьелі. Ляцелі — селі. Трыста сігнёў ад маіх калод было, дык што на іх пчолах напісана, што яны мае?.. Ішоў дожджык, ну яны, значыць, злосныя былі... Там і конь такі, бервяно трухлявае... Яму-б багчы куды, а ён толькі хвастом памахвае... — кулак злосна плюнуў. — Ну, пчолы канешне ўгробілі як полыгаецца... І гаспадар такі, Сьцёпка гэты, яшчэ ў суд падае...

Галодным, нам ужо надакучыла яго слухаць.

— Дык як наконт сала ў вас будзе?

— Пасьці што можна... Рубель хунт.

— Дарагавата...

— Пашукайце дзешавей.

— А яйкі ёсьць у вас?

— Не, яйкі мы самі кушаем... З масілцам калі заскв振рыш, я не ўважаю сала... яно ня смашнае.

— Канешне, — згадзіліся мы, з нецярплівасьцю пазіраючы на куплены апэтытны кавалак.

---

Над вёскай мутны неспакойны месяц. Дні ветраныя, і такія-ж ночы: цьмяныя, сьвежыя. Супроць школы — стары, абімшэлы вятрак. У нявыразнай цемені крыльлі яго здаюцца надзвычайна вялікімі і нязграбнымі. Пад самым ветраком — хатка каваля, маленькая, чорнай казюлькай.

Сёньня, у нядзелю тут шум і гам. Спраўляюць банкет, якіх зьлічыць нельга колькі адбываецца ў Бабічах. Месцам сплыву зьяўляецца заўсёды хатка каваля. У яго вялікая сям'я, цесная хата, але сам ён вельмі вясёлы чалавек і любіць выпіць. Грошы для яго — нуль. Ад выпіўкі ніколі не адмаўляецца і жонка.

З каваліхай некалькі разоў па-суседзку спрабавала гаварыць настаўніца:

— Пёкла, дзеці твае босыя і голыя ў школу ходзяць, а ў вас што ні вечар — гулянка. Што вы сабе думаеце!?

— А-а-т, я маладосьць сваю пражыла ні жыцьця, ні шчасьця ня бачыўшы, ніколі ня гуляла, дык хоць цяпер душу адвяду...

Ноч цямнела. Спалоханы месяц загубіўся недзе ў шэрані хмарак, і неадкуль з-за праслаў, з лазьняку даносіліся пужлівыя шолахі. Вёска даўно ўжо спала, і толькі з асьветленай хаткі каваля выходзілі вясёлыя людзі. Яны некаторы час сьпявалі каля хаты, потым падзівіліся на месяц і шумна расьцякліся па цёмных закавулачках...

---

Дні халаднелі. Раніцы былі сонечныя, бадзёра-сьвежыя. Мы ўжо скончылі і Бабічы і бабіцкія пасёлкі. Хадзілі туды некалькі дзён, заходзілі ў кожную хату. Пасяльчане жывуць бедна. Тая-ж трохпалёўка, цераспалосьсе, а ўтварыліся многія пасёлкі яшчэ ў 1921 годзе.

Усюды гола.

Хаты на пасёлках Мікольск і Нова-Мікольск збудаваліся цугам па адзін бок дарогі, пад абвеі халодных вятроў. А далёка, як глянуць — пустое і сумнае іржышча, кусты арэшніку.

На запытаньні нашы, колькі трацяць сяляне на „іншыя продукты жыўленьня,“ — амаль адзін адказ — 3 рублі ў год.

— Купляем можа адзін хунт цукру, солі на які рубель.

Да коопэратыву (Бабічы) вёрст 5-6. Пайшчыка ніводнага.

---

Ёсьць яшчэ ў Бабічах адна вельмі дзіўная сэкта. Яна не сябруе з астатняю сялянскаю масай, жыве замкнёна, зьбіраючыся часамі ў цёмнай малельні. Дзяўчыны-сэктанткі, жнучы, сьпяваюць „бажэсьцьвоныя песьні“. Даваць адказы па перапісу дынамікі с/гаспадаркі катэгорычна адмовіліся. Уцякалі, замыкалі хаты. Расьпісацца дзе-небудзь — сэктант ніколі не расьпішацца.

Былі выпадкі, калі прыходзілі на імя якога-небудзь сэктанта грошы — яны ішлі назад, бо ў атрыманьні іх трэба было расьпісацца...

Ехалі з Бабіч гадзіне а 8 раніцы.

Сонечнае і ядранае раньне радавала і прыемна нагадвала аб скончэньні працы і блізкім Гомелі. Яшчэ раз праплыла перад вачмі Покаць, потым прыгожы, напалову вырублены дубовы лес. Там расталажыліся цыганы і каля кожнага шатра курыўся сіняваты дымок...

А крыху далей, за вёскай Залесьсе, паказаўся Чачэрск, месца нашага прыпынку, абкружаны зялёнымі купаламі садоў і дрэваў, з шэрай, даўно знаёмай ратушай.

Халодны асеньні Сож, хвалюючыся, далёка сінеў сярод скошаных пажоўклых сенажацяй.

Гомель, 17/IX- 29 г.

---

**Ю. Лапіцкі.**

# Па балотах Чачэрскага раёну.

## Нататкі культуртэхніка.

Перашоўшы на левы бераг р. Чачоры, па прыгожай няроўнай мясцовасьці цягнецца стары шлях з м. Чачэрску на Рагачэў, а ўздоўж шляху зьмейкай уецца, двойчы перасякаючы яго, невялікі ручай, які ўпадае ў р. Чачору каля м. Чачэрска. Па шляху ўздоўж ручая з поймай балот разьмясьціліся пасёлкі Міхайлаўскі, Пятроўскі, Гарадок, колгас „Адзінства", в. Глыбочыца і інш.

Балоты па р. Глубочыца нізіннага тыпу грунтавога, напорнага папаўненьня, створаныя з крыніц і зарастаючых вадазбораў, сьляды якіх можна бачыць у форме існуючых глыбокіх „вокнішч", абголеных і цяпер альбо зацянутых пластам торфу ў 50—70 см. Адно такое схаванае „вокнішча" выяўлена пры капаньні канавы. Чалавек, які капаў гэтае месца, нечакана праваліўся ў нейкае бяздоньне і ратаваўся толькі тым, што затрымаўся на рыдлёўцы. Цяпер гэтая яма з невялікім жаралом, ня больш 1 арш., зьзяе на дне канавы, напоўненая празрыстай вадой: жардзіна даўжынёю больш за 4 арш. хаваецца ўся цалкам, прычым жардзіна хаваецца ня толькі простастаўна, але і ва ўсе бокі, адкуль можна думаць, што схаванае „вокнішча" зьяўляецца невялікім вадазборам, які пашыраецца зьверху ўніз у выглядзе вялізнага гарлача ці карафы з заткнутым коркам.

У вадазборы балота багатыя глебы—лёэсавыя суглінкі, часткова разворaныя, часткова пад зьмешаным лесам Чачэрскага лясьніцтва. Мясцовасьць — рэзкі контраст з паўднёвымі і паўднёва-заходнімі палескімі раёнамі Гомельшчыны: характэрны морэнавы ляндшафт з вельмі разьвітым рэльефам, з значнай розьніцай вышыні і значнымі папярочнымі і прадоўжнымі ўхіламі, што дае ў пэрспэктыве поўную магчымасьць рэгуляцыі р. Глыбочыцы і асушэньня балот пры дапамозе канаў і розных спосабаў дрэнажу.

Усяго ў даным вадазборы ёсьць каля 700 га балот, у тым ліку каля 400 га ў веданьні Чачэрскага лясьніцтва. Між землекарыстальнікамі гэтая балотная тэрыторыя разьмеркавана невялікімі дзялянкамі да 15 га і скарыстоўваецца, як сенажаці і выганы, што сьведчыць аб досыць інтэнсыўным скарыстаньні балот. Але насяленьне не абмяжоўваецца натуральным скарыстаньнем балот, але імкнецца да вышэйшых форм

іх эксплёатацыі: з ініцыятывы пасёлку Міхайлаўскага ў 1928 годзе пачалі скарыстоўваць торф на ўгнаеньне. Вынікі былі вельмі добрыя: жыта на торфе дае ўраджаі ня горшыя чымся на пагнойку. Пасёлкі Міхайлаўскі, Пятроўскі, Гарадок, в. Глыбочыца пачынаюць „біць“ канавы па балотах,—у выніку некаторая плошча, якая раней была недаступнаю, зрабілася добрым выганам, але з прычыны адсутнасьці тэхнічнага кіраўніцтва пры капаньні канаў і без выкананьня элемэнтарных законаў гідротэхнікі, шмат канаў праведзена няправільна і слаба працуюць. Апрача гэтага, ручай Глыбочыца не паўсюды можа прыняць, увабраць гэтыя канавы і вымагае рэгуляцыі. Насяленьне падзвычайна цікавіцца інтэнсыўнай мэліорацыяй балот, што можа бачыць з такога факту. Калі я прыехаў на пасёлак Міхайлаўскі і прапанаваў закласьці на балоце дзялянку штучнага лугу, усё насяленьне пасёлка пастанавіла організаваць для гэтага нядзельнік, адкласьці на 2 дні пачатак касавіцы і зараз-жа распачаць працу; пад кіраўніцтвам культуртэхніка зрабілі каток, сьсеклі і зьвезьлі куп'ё, выкапалі канаву, узаралі балота і праз 3 дні на месцы купчастага крынічнага балота красаваўся гладкі, укотаны засеў штучнага лугу. Уся праца, а таксама ўсе матар'ялы для яе: насеньне, угнаеньне і інш. набыты за кошт насяленьня.

Пасьля гэтага прыходзіў прадстаўнік пас. Гарадка і прасіў закласьці такую самую дзялянку і ў іх, але агляд дзялянкі паказаў, што інтэнсыўныя мэліорацыі ў тым месцы балота немагчымы бяз зьніжэньня роўню р. Глыбочыцы.

У далейшым неабходна згуртаваньне ўсяго насяленьня гэтага вадазбору ў мэліорацыйныя т-вы і выдача доўгатэрміновага крэдыту на рэгуляцыю р. Глыбочыцы, асушэньне балотнай плошчы і культываваньне яе пад луг і выган.

На пасёлку Міхайлаўскім ужо організуецца мэліорацыйнае т-ва, намячаюць узараць трактарам 5 га балота і закласьці штучны луг.

---

**М. К.**

# Заметка да вывучэньня сялянскай адзежы Дубровеншчыны.

Красная Горка і Малое Бахава знаходзяцца км на 12 ад м. Дуброўны першая і каля 10—другое. У Дуброўне ёсьць ткацкая фабрыка. Красная Горка—пасёлак з былой вёскі Вялікага Бахава, заселены сялянамі. Малое Бахава—невялікі засьценак заселены шляхтай. Мястэчка зрабіла і робіць значны ўплыў на ўвесь быт наогул, і адзежу прыватна гэтых абедзьвюх вёсак. Насельнікі Малога Бахава паддаліся гэтаму ўплыву ў непараўнальна большай ступені, чым насельнікі Краснай Горкі. Асабліва гэта можна сказаць пра адзежу бахаўскіх, якая, паміж іншым, спрадвеку пераймала гарадзкія формы адзежы са спазьненьнем у модзе на год дзесяць. Разам з тым, гарадзкому ўплыву больш паддалася сьвяточная адзежа, як бахаўскіх, так і краснагорскіх. Пры гэтым адзежа бахаўскіх у пэўнай меры ўспрыняла на сябе ўплыў ня толькі матар'ялаў, але і крою, у той час як у адзежы краснагорскіх гарадзкі крой пераймаецца непараўнальна павальней.

Галоўным матар'ялам для вырабу адзежы ў абедзьвюх вёсках зьяўляецца льняная тканіна—*порт*, суконная—*сукно* і мяшаная з суконных і парцяных пітак—*шарачок*. І порт, і сукно і шарачок бываюць або танейшымі або грубейшымі, ды аднакаляровымі або шматкаляро-



Колекцыя тканін Дубровенскага музэю.

вымі. З часьцей ужываных колераў трэба адзначыць шэры, чорны, сіні і чырвоны. Колер тканіны атрымліваецца ад ужываньня натуральных ці фарбаваных нітак пры тканьні, ці ад фарбаваньня ўжо гатовай тканіны. І аднакаляровая і шматкаляровая тканіны могуць быць *гладкімі*, бяз узору *і ўзорыстымі*, з пэўным орнамэнтам. Орнамэнт на ўзо-

рыстай тканіне амаль выключна геомэтрычны, і толькі на пасьцілках ды вышыўках сустракаецца расьлінны. Гурток краязнаўства Дубровенскай сямігодкі сабраў колекцыю сялянскай тканіны раёну з самымі рознастайнымі ўзорамі, якія ёсьць і ў Краснай Горцы і ў Малым Бахаве. Для лепшага ўяўленьня прыводзім тутака дзьве фотографіі з часткі гэтай колекцыі, што зьмяшчаецца ў школьным музэі Дубровенскай сямігодкі. Усе адмены мясцовай тканіны вырабляюцца самімі на-




Колекцыя тканін Дубровенскага музэю.

сельнікамі Краснай Горкі і Малога Бахава. Поле ўрабляюць і лён сеюць мужчыны. Лён рвуць, адбіваюць, мочаць ці сьцелюць, мнуць, трэплюць, прадуць ніткі, снуюць, ткуць і беляць жанчыны. Жанчыны-ж стрыгуць авец, скубуць, чэшуць і прадуць воўну, ды ткуць сукно. На шарачок ідзе *аснова* парцяная і *ўток* суконны. Сукно, а часта і шарачок валяць жанчыны, часамі з мужчынамі, дома. Радзей вязуць валіць у сукнавальню.

Шыюць бялізну, андаракі і д. т. п. таксама самі жанчыны дома. Кажухі, армякі і д. т. п. аддаюцца шыць часьцей за ўсё тутэйшым краўцом-мужчынам, спэцыяльная падрыхтоўка якіх мала выперадзіла ўмецтва гаспадынь.

*Саянѐў* ня носяць і, паводле слоў Ганны Клемянковай Карнеевых з Краснай Горкі, не насілі. Але яна бачыла саяны і кажа, што саян зьяўляўся спалучэньнем спадніцы і кабата.

Прадуць жанчыны на звычайным *калаўроце* з кудзелі, якая прывязана да *прасьніцы*. Апошняя складаецца з *стаяка* і *дзяржаньня*. Сярэдні стаяк прадстаўляе сабой лапату памерам каля 20 см. на 40 см., якая вузкім дзяржаньнем даўжынёй каля 49 см. прымацавана да про-



Адзежа жанчын з Краснай Горкі.

стастаўнага ёй уласна дзяржаньня. Апошняе прадстаўляе дошку шырынёй каля 12 см. на стыку з дзяржаньнем, 17 см.—на супроцьлеглым канцы і даўжынёй 80 см. Дзяржаньнем прасьніца ставіцца на *лаву* або *зэдаль* і на яго садзяцца. К стаяку кудзеля прывязваецца аборачкай і ўгары абвязваецца хусткай.

У Малым Бахаве заўважаны наступныя асаблівасьці. Спадніца часамі шыецца ў чатыры палы са складкамі ўгары, але *з лобам*, г. зн. без закладак сьпераду. Лоб бывае шырынёй каля 19 см. На адным картонным гузіку. Ткана у два ніты ўзорам—*градачкамі* з рознага колеру нітак: сіняй, жоўтай, чырвонай і белай удоўж і ўпоперак. Саяном тут завуць валены андарак.

Хусткі тутака ёсьць вязаныя кручком і трохі падваленыя дома-ж. Памер—каля 130 см. на 150 см.

Па Дубровеншчыне яшчэ не апісана тэхніка падрыхтоўкі і апрацоўкі лёну і воўны, тэхніка прадзеньня, ткацтва, шыцьця і г. д., не паказана месца пэўных элемэнтаў адзежы ў мясцовых вераваньнях і звычаях і спосабы ўжываньня адзежы, ня высьветлена дасканала розьніца паміж „шляхоцкай“ адзежай Малога Бахава і „мужыцкай“ Краснай Горкі, ня вывучаны новыя формы адзежы і яе матар‘ял, якія прыходзяць з гораду, ня вычарпаны ўвесь матар‘ял і г. д. Таму вельмі трудна зрабіць якія-небудзь вывады адносна дапамогі новым матар‘ялам і формам у іх змаганьні са старымі, менш выгоднымі і менш зручнымі. Усю гэтую працу павінны выканаць мясцовыя краязнаўцы, якія зьбіраньнем свайго Дубровенскага музэю давялі сваю здольнасьці ў краязнаўчай справе.

В. Глацёнак.

# Некаторыя з помнікаў Асьвейскага раёну.

*(Полацкая акруга).*

Яшчэ ў 1924 г. Камісіяй па ахове помінікаў былі дасланы раёнам анкеты па выяўленьні і ахове помнікаў мясцовай гісторыі, прыроды і культуры. Адсутнасьць на мясцох (Асьвейшчыне) спачатку пэўнай організацыі, якая-б зацікавілася гэтым пытаньнем, а потым слабая падрыхтаванасьць заснаваўшыхся краязнаўчых організацый, прымусілі напэўна доўгі час Камісію па ахове помнікаў чакаць адказу. Але ў сучасны момант ужо ёсьць, хоць праўда і невялічкая, мажлівасьць падзяліцца сваімі дасягненьнямі ў гэтым напрамку.

Задачай наступных радкоў і будзе зьяўляцца азнаямленьне чытача з некаторымі помнікамі Асьвейшчыны, а менавіта тымі, якія да сучаснага моманту больш-менш захавалі свой твар і якія яшчэ моцна жывуць у думках вакольнага насельніцтва.

Стварэньне больш поўнага і ўдасканаленага малюнку помнікаў раёну — задача будучыны, якая і павінна ўвайсьці ў плян працы раённага краязнаўчага таварыства.

Зьмешчаная ніжэй схэматычная карта гістарычных помнікаў Асьвейшыны дае нам малюнак месц гістарычных падзей далёкай мінуўшчыны раёну.

Перад нашымі вачыма на гэтай карце адчыняецца найбольш буйная група помнікаў, якая адзначана на карце квадрацікам і якая ў насельніцтва захавалася пад назвай „Гарадок"; далей ідзе група помнікаў, якая мае розныя назвы, як „Літоўка", „Княгініна Гара", якія маюць аднолькавае месцараспалажэньне зьвязанае з гарамі і нарэшце, трэцяя група самая дробная па разьмерах і самая вялікая па колькасьці — гэта група курганоў.

Выяўленьне твару кожнае з гэтай групы і будзе зьяўляцца нашай задачай. Зараз-жа пяройдзем да разгляду больш буйных і відавочных крыніц культуры, як „Гарадок" і „Урагаўскі Гарадок".

## Гарадок.

Помнікаў з назвай „Гарадок" у Асьвейскім раёне сустракаецца некалькі, але шмат якія з іх ужываюць адначасова з назвай „Гарадок" і пабочную назву, як напрыклад, „Урагаўскі Гарадок", „Дуброўскі Гарадок" і інш. Апошнія дадаткі да асноўнай назвы, як відаць, паходзяць ад назвы тых вёсак ці сёл, каля якіх распаложаны помнікі. Той „Гарадок", аб якім тут ідзе гутарка, мясцовым насельніцтвам завецца проста „Гарадком". І толькі часам ад іншых працаўнікоў можна пачуць назву „Латыгаўскі Гарадок". Гэтая назва паходзіць ад вёскі Латыгава, якая ляжыць ад яго ўсяго каля 2-х кілёмэтраў. Дабрацца да „Гарадка" ня зусім проста. Распалажэньне яго ў лесе, водаль ад вёсак і буйных шляхоў робіць яго захаваным і далёка ня кожнаму вядомым. Напэўна, лепш будзе выбраць сабе такі кірунак да яго. Папершае, дабрацца па Асьвейска-Полацкім тракту да вёскі Латыгава, якая знаходзіцца ў 13 — 14 км ад Асьвеі. Адсюль ужо застаецца ўсяго каля 2-х км, але па вельмі нятрапнай дарозе. Вось чаму лепш

будзе папрасіць тубыльца вёскі Латыгава Іезахвата Маліноўскага, які з ахвотай і дапаможа дабрацца. Селяніну Іезахвату, як яго звычайна завуць на сяле, 75 год; ён лічыцца старэйшым на вёсцы і лепшым знаўцам гэтага месца. Па дарозе Іезахват можа расказаць легенду аб „Гарадку“. Легенду гэту стваралі і захоўвалі ў сваіх галовах яго прадзед, дзед і іх сучасьнікі. Іезахват-жа, атрымаўшы ад іх гэтыя „веды“, лічыць сваім абавязкам перадаць іх маладым.

Калі і як утварыўся „Гарадок“ — невядома. Дзед перадаваў, што на ім даўней стаяла войска. Чыё войска таксама невядома, толькі не францускае, бо яго, Іезахвата, дзед добра памятаў французаў, як яны ішлі праз недалёкую вёску Задзежжа. „Гарадок“ існаваў да французаў. На „Гарадку“ ёсьць вароты, супроць якіх на балоце калодзеж. Раней увесь быў зарослы лесам, цяпержа гэтага лесу няма. Думаюць, што на „Гарадку“ закопаны грошы, якія звычайна і шукаюць перад Купальлем. На гэтым легенда і спыняецца.

**Мясцовая назва помнікаў**

1. Латыгаўскі гарадок
2. Урагаўскі гарадок
3. Стралкоўскі гарадок
4. Гарадок на востраве
5. Дуброўскі гарадок
6. Княгініна гара
7. Гара Літоўка
8. „ Маяк
9. Чортаў човен
10, 11. Курганы
12, 13, 14, 15. Курганы.

Увага: Умоўныя знакі не зьяўляюцца дасканала вытрыманымі, бо яшчэ невядомы зьмест гэтых помнікаў.

Самае месца, дзе распалажаны „Гарадок“ уяўляе з сябе як-бы невялікі парослы ляском востраў сярод вялікага балота. Балота абкружае яго з усіх бакоў і толькі на поўдні пераходзіць як-бы ў нізкую грэблю, па якой і праходзіць сьцежка да яго. Сам „Гарадок“ мае форму ўсечанага стажка з элепсавіднай пляцоўкай. Падымаецца ён над балотам на 6—7 мэтраў і самая вярхушка яго мае наступныя памеры: з усходу на захад каля 28 мт. і з поўначы на поўдзень каля 32 мт.

Схілы „Гарадка“ пераходзяць у першы роў; роўналежна з першым ровам праходзіць больш мелкі другі. Абодвы ірвы амаль што поўнасьцю абкружаюць „Гарадок“ і толькі на поўдні перарываюцца так званымі „варотамі“ і на поўначы, дзе роў замяняецца крутым схілам к балоту. Рвы паміж сябе ўтвараюць вал, папярочнік якога 11 мт. і даўжыня 118 мт. Як першы, так і другі роў досыць рэзка вызначаюцца з вакольнай мясцовасьці.

Глеба рыхлая і пескаватая, пакрыта ялынцам і ў многіх мясцох скапана лісавымі норамі. На схілах расьце дробны хвойнік з прымешкаю бярозы і ліпы.

Супроць „варот“ на балоце ёсьць яма — у $^3/_4$ мт. у папярочніку і ў $1^1/_2$ мт. глыбінёй, яна напоўнена вадой і мае цьвёрдае дно. Ці гэтая яма зьяўляецца тым калодзежам, пра які расказваў Іезахват ці не — сказаць цяжка.

Раскопак ніколі не рабілася — і да гэтага часу няма ведама, што ў „Гарадку“ знаходзіцца.

### Урагаўскі гарадок.

Ні адзін з помнікаў Асьвейшчыны так рэзка не вызначаецца сярод акружаючай мясцовасьці, як Урагаўскі гарадок. Шмат у чым гэтаму спрыяе сама мясцовасьць. З друх бакоў да яго даходзіць вялізнае балота, а за ім ня меншае Асьвейскае возера, а з іншых двух бакоў чыстае поле. Гэта робіць кругагляд поўнасьцю адчыненым ува ўсе бакі, а „Гарадок“ выглядае паднятым у гару.

Распаложаны ён на адлегласьці 1 км. ад вялікага тракту з Асьвеі ў Пустэльнікі і Замошша, а таксама недалёка і ад вядомага досыць вялікага Асьвейскага возера з паўднёва-заходняга боку на Урагаўскім полі. Бліжэйшая вёска да яго будзе Урагава, ад якой ён напэўна і атрымаў дадатковую назву.

З боку ён напамінае форму ўсечанага стажка, мінімальная вышыня якога 10 мт., а максымальная — 16 мт. Схіл мае вельмі круты, напэўна градусаў у 45. Узабрацца можна толькі чапляючыся за траву.

На захадзе схіл значна меншы, бо тут „Гарадок“ злучаецца з грэбляй, якая цягнецца далей ад яго на захад і зьяўляецца як-бы мяжой паміж палямі і балотам.

Верхняя пляцоўка „Гарадка“ мае форму няправільнага эліпса, большая вось якога з усходу на захад будзе каля 64 мт., а з поўдня на поўнач — 36 мт. Глеба верхняга слою досыць рыхлая і складаецца з чорназему, парослая травой і дробным альховым хмызьняком. Адкосы (схілы) зарасьлі травой.

Раскопак тут ніхто ніколі не рабіў і рэчаў ніякіх на ім знойдзена ня было.

Старыя мне аб ім перадаюць, што нібы „Гарадок“ утварыўся ў выніку бойкі Кацярынінскага войска з палякамі, а паводле апавяданьняў іншых ён зьяўляецца астаткам францускай вайны.

---

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

## Тлумачэньні да анкеты ў справе экономічнага раёнаваньня БССР.

### Агульныя ўвагі.

1. Экономічнае раёнаваньне, правядзеньне якога Саўнаркомам БССР даручана Дзяржпляну БССР і Беларускай Акадэміі Навук, мае на мэце падзел тэрыторыі Рэспублікі на вытворчыя раёны, у якіх будуць організоўвацца буйныя савецкія або колектыўныя гаспадаркі на базе суцэльнае колектывізацыі, і вызначэньне кірунку спэцыялізацыі гэтых раёнаў. Для гэтых мэт неабходна шмат навуковых ведаў аб кожным раёне і сельсавеце, якіх дагэтуль яшчэ навукаю не сабрана. З мэтаю хоць часткова сабраць патрэбныя весткі БАН пры дапамозе ўсіх краязнаўчых організацый праводзіць гэты анкетны досьлед.

2. Анкетным досьледам трэба ахапіць усе без выключэньня сельсаветы БССР. Калі ў якім з сельсаветаў няма краязнаўчага гуртка, раённае краязнаўчае таварыства даручае запаўненьне анкеты пэрсональна каму-небудзь з сваіх сяброў або наогул з найбольш падрыхтаваных працаўнікоў, якія добра ведаюць мясцовасьць.

3. Пры запаўненьні анкеты палагацца на веды аднаго толькі чалавека ня варта. Лепш будзе сабраць краязнаўчы гурток, або сход мясцовых краязнаўцаў і запоўніць анкету колектыўна. Работу, аднак, трэба выканаць тэрмінова, бо раёнаваньне нельга адцягваць. Затым, калі ня можна сабраць усіх краязнаўцаў, анкету запаўняе хто-небуць адзін, сабраўшы весткі, якіх ён сам ня мае, праз роспыт.

4. Адказы просім па магчымасьці пісаць атрамантам, лічбы якмага выразьней.

5. Калі даюцца прыблізныя і няпэўныя лічбы, іх трэба падкрэсьліць хвалістай рысай (~~~~~~). Лічбы наогул трэба даваць за 1928/29 г., які ўжо закончыўся і аб якім гэтыя лічбы ўжо можна дастаць у сельсавеце, у коопэрацыі і г. д.

6. Адказваць на запытаньні трэба падрабязна. Калі на програме месца не хапае, укладайце аркуш паперы і там давайце больш абшырныя адказы, ставячы пры іх № разьдзелу і запытаньня.

*Да разьдзелу I — аб энэргетычных рэсурсах.*

а) *Торф* зьяўляецца асноваю электрыфікацыі ў Беларусі, а пасьля мэліорацыі дае дужа добрыя ўмовы для сельскае гаспадаркі. Тым часам мы яшчэ ня маем карты тарфовішчаў і ня ведаем, якое пры-

значэньне можна даць балотам тых ці іншых раёнаў. Аб характары тарфовішчаў можна злажыць сабе ўяўленьне паводле расьліннасьці. Затым трэба на гэты пункт зьвярнуць увагу і адзначыць, што пераважна расьце ў балоце — белы мох, зялёны мох, асака або чарот, хвойка, лаза ці алешнік.

Аб глыбіні тарфовішчаў трэба даць толькі прыблізныя весткі, і то тады, калі яны ўжо вядомы. Месцазнахаджэньне адзначаць, напр. гэтак: ля вёсак Залесься (2 км.), Курыцічы ($^1/_2$ км), Востраў (1 км). Адлегласьць бярэцца толькі да бліжэйшага краю балота. Калі плошча балота невядома — напішэце яго найбольшую даўжыню і шырыню, напр., $10 \times 1^1/_2$ км.

б) *Вада.* Трэба высьветліць магчымасьці скарыстаньня вадзяной энэргіі мясцовых рэк. Перад усім даюцца весткі аб існуючых або існаваўшых раней вадзяных млынох, крупадзёрках, валюшах і г. д. Адказы могуць быць такія: р. Сьвіслач — Вясьнінскі млын і валюш — ля в. Баравой (2 км.) — 2 колы — 3,5 мэтры — 9 месяцаў — 200 г.

Вышыню падпору вады трэба азначыць хаця-б прыблізна, вымераўшы звычайную розьніцу роўню вады па адзін і па другі бок грэблі.

Аб магчымасьцях лепшага скарыстаньня вадзяной энэргіі трэба даць толькі меркаваньні мясцовых працаўнікоў. Ніякіх для гэтага спэцыяльных досьледаў правесьці адразу нельга. Аднак, варта адзначыць асаблівасьці берагоў і русла рэк — як хуткае цячэньне, парогі і г. д. Гэта дасьць магчымасьць спэцыялістым меркаваць аб магчымасьцях разьмяшчэньня пабудовы новых гідраўстановак.

*Разьдзел II. Сыравіна мінэральная.*

З мінэральнай сыравіны ўвагу трэба зьвярнуць на ўсе па магчымасьці карысныя выкапні, якія ўжо вядомы краязнаўцам. Асаблівую ўвагу зьвярніце на гліны, якія ўжываюцца насельніцтвам для розных патрэб. Калі ёсьць карысныя выкапні, не пералічаныя ў сьпісе, іх трэба дапісаць зьнізу. Пажадана сабраць і ўзоры выкапняў для раённага краязнаўчага музэю.

Плошча, на якой залягаюць выкапні, азначаецца толькі прыблізна, таксама і таўшчыня пласту, як яе заўважылі ў часе капаньня калодзежаў, ям і г. д. Аднак, калі ёсьць больш дакладныя весткі, — трэба паведаміць аб іх.

*Разьдзел III* — аб прыродных умовах земляробства мае на мэце высьветліць асаблівасьці рэльефу, глеб і клімату данага с/савету і яго паасобных частак. Людзі, якія знаюць добра мясцовасьць, лёгка ўспомняць ваколіцы важнейшых вёсак і частак с/савету, будову іх паверхні і глебы. Усіх вёсак пералічаць тут ня трэба, а толькі характэрныя для розных частак с/савету.

Пытаньні аб розных сельскагаспадарчых расьлінах дапамогуць выясніць прычыны існуючага кірунку палёвае гаспадаркі і магчымасьці яго зьмены; гэтыя магчымасьці залежаць нярэдка ад асаблівасьцяй глебы і клімату, якіх ніхто дагэтуль добра не вывучаў. А тым часам іх трэба мець на ўвазе пры складаньні севазвароту ў колектыўнай гаспадарцы.

*Разьдзел IV.* Таксама, ведаючы мясцовасьць, ня цяжка адказаць на даволі важнае пытаньне, з чаго пераважна жыў сельсавет і яго паасобныя вёскі, з якой гаспадарчай галіны або з якіх промыслаў атрымлівалі яны свой асноўны грашовы прыбытак. Гэтая спэцыялі-

зацыя паасобных частак с/сав. будзе гаварыць нам аб тых спосабах, якімі сялянская гаспадарка прыстасоўвалася да мясцовых прыродных, эканомічных і гістарычных умоў дый адначасна дасьць нам зьвязную, сумарную характарыстыку с/савету. Неабходна пералічыць па магчымасьці ўсе важнейшыя паселішчы с/савету — саўгасы, колгасы, вёскі, групы хутароў і г. д., якія існавалі ў 1928-29 годзе. Калі няма вестак аб тых ці іншых важнейшых паселішчах, трэба іх успамянуць у канцы табліцы. Калі розныя соцыяльныя пласты вёскі мелі розную спэцыялізацыю, трэба назву вёскі напісаць проці кожнае спэцыяльнасьці, падкрэсьліваючы яе, як сказана ў увазе да табліцы аднэй або дзьвюма рыскамі.

Весткі аб контрактацыі і загатоўках трэба атрымаць у прэзыдыуме с/савету, а таксама — непасрэдна ў загатоўчых організацыях (Дзяржгандаль, коопэрацыя і інш.). Весткі аб малочных арцелях пажадана сабраць непасрэдна ад іх саміх, дый разам з імі высьветліць і пытаньне аб продукцыйнасьці жывёлы. Аб завозе сельскагаспадарчых продуктаў даведацца ў коопэрацыі.

*Разьдзел V* — мае на мэце падсумаваць работу, якая праведзена на мясцох у справе організацыі вытворчасьці буйных колектыўных і савецкіх гаспадарак і якую неабходна дэтальна ўлічваць пры раёнаваньні. Адказы на пытаньні трэба даваць магчыма больш падрабязныя. З абагуленых будынкаў трэба паказаць толькі тыя, якія маюць быць прыстасаваны для патрэб колектыўных гаспадарак на даўжэйшы час і ня пісаць аб звычайных дробных сялянскіх будынках.

Галоўны кірунак спэцыялізацыі пісаць так, як ён афіцыйна прыняты (напр., льняна-малочны, садовы, збожжавы, мясны і г. д.).

Севазвароты пажадана даць па ўсіх існуючых і запроектаваных буйных гаспадарках (савецкіх і колектыўных); калі некалькі севазваротаў у аднэй гаспадарцы — адзначыць. Пісаць трэба спачатку назву севазвароту, далей парадак чаргаваньня расьлін (прыкл. 4-палёўка прысядзібная: *бульба* — ячмень — канюшына — жыта). Расьліну, пад якую кладзецца гной, ставіць на першае месца, або ў кожным разе падкрэсьліць.

*А. Смоліч.*

## ХРОНІКА.

### 1905 год на Гомельшчыне.

*(Гомель, Дзяржаўны Музэй).*

Выстаўка адчынена ў дзень 25-гадовага юбілею „крывавай нядзелі".

Экспонавана ў орыгіналах падпольнага друку, фотаздымках, портрэтах мастацкіх карцінах, орыгіналах надгробных істужак. Усё гэта ўзглаўляецца на версе чырвоным сьцягам — помнікам 1905 году, са сьцёртым, ледзь бачным, надпісам „Долой самодержавие".

Рэволюцыйна-рабочы рух прадстаўлены з 1894 году. Гомель, у мінулым невялікі горад з дробнай, пераважна рамесьніцкай прамысловасьцю, уступіў у організаваную рэволюцыйную барацьбу з капіталізмам і самаўладзтвам значна пазьней за іншыя буйныя прамысловыя гарады.

*1894 год.* Пад уплывам організаваўшагася гуртка ў Менску організуецца гурток і ў Гомлі. 12 чалавек рабочых і інтэлігентаў — першыя ўдзельнікі. А. Поляк, В. Вальфсон і іншыя піонэры рабочага руху ў Гомлі прадстаўлены ў фотаграфічных павялічаных портрэтах. Тут-жа, побач програма гэтага гуртка: голая адукацыя: матэматыка, хэмія, Талстой, Дарвін, Бокль...

*1895—1897 гады.* Дыяграма росту гуртка—12—30—60 чалавек. Нарэшце, у 1897 годзе пералом: з гурткоўшчыны перабудоўваюцца на рэйкі масавасьці, замест гуртка—Гомельская С.-Д. група, разрозьненыя рабочыя організоўваюцца ў цэхі, пры апошніх—касы барацьбы, у рабоце замест голай адукацыі ўжо перамагае організацыя рабочых для барацьбы, на першых кроках—толькі экономічнай. Група ўжо не „падцягвае масу да сябе праз гурткоўшчыну", а ідзе ў масу, організоўвае яе.

У гэты-ж час зьяўляецца і організацыя Бунду. Работа С.-Д. групы з гэтага часу характарызуецца ўжо сутычкамі з гэтай нацыялісцкай, дробна-буржуазнай організацыяй. Гэты час экспонаваны на выстаўцы ў орыгіналах першых проклямацый, надрукаваных на гектографе, фотаздымках, адбітках, вынятках і інш.

*1899—1901 гады.* Расправа Зубатава з рэволюцыйным рухам Гомельшчыны. На выстаўцы портрэты заарыштаваных: Цэйтлін, Файнштэйн, М. Маршоў, Шадоўскі, Гезенцвей, Шолом-Левін і інш.

*1901—1902 гады* ў проклямацыях „к рабочим", „к рабочым Н. Белицы" і ў фотоздымках.

*1903 год.* Канец жніўня і пачатак верасьня. У Гомлі поліцыяй і „чорнай сотняй" на чале з пядаўна судзіўшыміся Макасеўскім і Ляхавым організоўваецца пагром. Экспонаваная фотаздымак-група пакалечаных, бязногіх ахвяр яскрава характарызуе нацполітыку самаўладзтва.

Другі зьезд партыі. Раскол і выхад Бунду з РСДРП. Экспонаваная рэзолюцыя 50 гомельскіх агітатараў Бунду, ухваляючая выхад надзвычайна яскрава характарызуе нацыяналісцкі, дробна-буржуазны характар гэтай „аўтаномісцкай" організацыі. У гэтым-жа годзе зьяўляецца ў Гомлі М. К. Уладзіміраў. Прыняўшы ад доктара Залманава Гомельскую організацыю ў 5 асоб, ён у пачатку 1904 году яднае ў адну, па таму часу, моцную Палескую організацыю, ахапляўшую тэрыторыю ад Мазыра да Бранску—з заходу на ўсход і ад Воршы да Рамён—з поўначы на поўдзень. Ужо пад кіраўніцтвам гэтай організацыі ў 1904 годзе працоўныя масы як у гарадох, так па шэрагу месц і на вёсках праводзяць досыць організавана і масава 1-ае мая.

Гэта нарабіла турбаваньняў і страху ня толькі поліцыі, але і яўрэйскім клерыкалам. Праз некалькі дзён гэтыя „айцы гораду" склікаюць у Гомлі свой агульна-гарадзкі сход, на які па іх запрашэньні зьяўляецца сваёй пэрсонай сам Гомельскі поліцмайстар—душа і організатар яўрэйскіх пагромаў. „Як бястактоўныя рэволюцыянэры",—кажа наставіцельна на сходзе поліцмайстар:—„маніфэстуюць па вуліцах у такі адказны для айчыны момант (японская вайна), пасьля прашлагодніх пагромаў". Такая „вумная" прамова ўміліла гэтых айцоў гораду. Яны просяць поліцмайстара павялічыць колькасьць конных гарадавых па горадзе і самаабкладаюць сябе на гэтую мэту на 4000 рублёў.

Экспонаваны на выстаўцы документ надзвычайна красамоўна характарызуе клерыкалаў (як тагочасных, так і сучасных).

*1905 год.* Рэха царскіх залпаў па бяззбройных рабочых 9 студзеня разьняслося па ўсіх кутках працоўнай Расіі. Разьняслося і выклікала водгук. Ня мінула гэтая хваля і Гомель. Рабочыя на сходах, мітынгах, лібэральная інтэлегенцыя на банкетах выносяць протэсты, праклёны забойцы—самаўладзтву.

Аб адным з мітынгаў, скліканым 18/I у сынагозе ў Кагальным рове організацыяй Бунду, праведала паліцыя. Гарадавы Шквар з 12 салдатамі 160 пех. зап. б-ну зьяўляецца як раз своечасова. Па „адступаючаму праціўніку" адкрылі агонь. У выніку—забіта т. Дворкіна — работніца мяшочнай майстэрні, паранены сьмяротна рабочы Каган і некалькі легчэй яшчэ 3 таварышы.

Гэта трагічная расправа адбіта на выстаўцы ў Мастацкай карціне (алей) т. Яўмененка, фотографічным здымку—портрэце т. Дворкінай і пасьведчаньні — орыгіналу Гом. рабіна для прадстаўленьня Воінскаму Н-ку пры прызыве Кагана аб сьмерці апошняга.

*Красавік 1905 г.* Распал барацьбы за скліканьне III зьезду РСДРП. Палескі камітэт далучаецца да пляцформы Бюро Камітэтаў Большасьці. На пасяджэньні камітэту ў Новазыбкаве дэлегатам на зьезд абіраецца т. Уладзіміраў.

*1-е мая* праводзіцца масава, адкрыта. Паліцыя ў „Гомельскую" Швайцарыю" (так называлі тады рабочыя Кузьнечную вуліцу і Кагальны роў) баіцца і носа паказаць. Горад, значная частка вёсак, засыпана і заклеена проклямацыямі „1-ое мая", якая экспонавана на выстаўцы.

*12 мая.* Рэволюцыйныя організацыі Гомлю на гэты дзень прызначаюць аднадзённую політычную забастоўку — протэст супроць разьні ў Житоміры. Вуліцы Кагальнага рову, Кузьнечная зноў кішаць рабочым людам, зноў паветра агалашаецца праклёнамі па адрасу самаўладзтва, заклікамі да скіданьня яго.

Магілеўскі губэрнатар Клігінбэрг у гэты дзень „ашчасьлівіў" Гомель сваім прыездам. Чорнымі сіламі пастанаўлена было даць бой рэволюцыйнаму Гомлю. Пачаўся разгон мітынгаў і сходаў. На адным з вучасткаў Кузьнечнай, каля заводу Фрумкіна (зараз „Пралятары") казакі забіваюць на сьмерць не пасьпеўшага ўскочыць у двор М. Агранава. Кроў 17-гадовага рабочага яшчэ раз пачырваніла і без таго чырвоную Кузьнечную. Гэты момант адбіты ў малюнку „забойства Агранава". У сярэдзіне мая прыяжджае з Лёндану са зьезду т. Уладзіміраў. Пасьля 20-га мая склікаюць раённы зьезд Палескай організацыі. Гэты гістарычны для ўсяго Палесься зьезд адчыніўся ў маленькай халупцы „на курыных ножках" знаёмага нам, ніколі няздрадзіўшага—Кагальнага. Цесна, душна, падпольна. Самае галоўнае, баявое пытаньне—справаздача дэлегата аб зьезьдзе пераносіцца на вольнае паветра:—трэці дзень сваёй работы зьезд працуе на Мельнікавым лузе—(3 кілёмэтра ад Гомлю). Пасьля шматлікіх гарачых схватак паміж бальшавікамі і меншавікамі абраны на III зьезьдзе ЦК—організацыяй прызнаецца. У гэтым асноўным, стрыжнявым пытаньні „цьвёрдакаменныя" (так зваліся тут тады бальшавікі) перамаглі. Экспанаваная на выстаўцы рэзолюцыя па гэтым пытаньні характарызуе гэту рэзкую двохлягернасьць. Цьвёрдакаменныя перамаглі — гэта таксама відаць з экспанаванага пісьма аднаго з лідараў „мяккіх" Уладзімера (ня блытайце з Уладзіміравым) у меншавіцкую „Іскру". І ўжо праз некалькі дзён, як відна з экспанаванага документу мясцовыя меншавікі скардзяцца ў свой ЦК на „Ленінскі кулак". Так патрэбная цьвёрдая ленінская дысцыпліна („Ленінскі кулак"), відаць, ім была надта не па носу. Гэты раённы зьезд, (як і III зьезд РСДРП) зрабілі рэзкі пералом у справе ваеннай работы. Экспонаваныя проклямацыі орыгіналы „к солдатам", „Правда о войне" і інш. Гомельскага, Магілеўскага і Ц. Камітэтаў—праўда, досыць ня поўна характарызуюць гэтую галіну работы Палескай організацыі.

Работа сярод сялянства прадстаўлена ў орыгіналах—проклямацыях („крестьянам" і інш.), дасланых сьвежых успамінах асобных тт. з Чачэрску, Какуевіч і Юравіч, у фотаздымках.

*9 ліпня.* Паўгодзьдзе са дня крывавай нядзелі. Зноў політычная забастоўка. Мітынгі, сходы, протэсты. На адзін з мітынгаў налятае з аголенай шабляй пристаў 2 вучастку—душыцель рэв. руху ў Гомлі—Славашэвіч. Адна з удзельніц т. Рутман двома стрэламі з рэвольвэра забівае на месцы гэтага „адважнага" ваяку. Мастацкі малюнак т. Балашова жыва паказвае гэты момант.

*Верасень.* Першая забастоўка чыгуначнікаў. На выстаўцы фотаздымак забастовачнага камітэту, зьезду ў Менску, портрэт Вышлева (с-д.)—Старшыні бюро саюзу чыгуначнікаў Ліб.-Ром. чыг. ў Вільні.

*Кастрычнік.* Прыпёрты да сьцяны цар ідзе на хітрыкі: урачыста, маніфэстам ад 17 кастрычніка дае шэраг „свабод", дзеля таго, каб на другі дзень, памацнеўшы, адабраць іх.

На выстаўцы—маніфэст з крывавай лапай Трэпава. Як рэагаваў на маніфэст рабочы Гомель,—аб гэтым кажуць мастацкія малюнкі „Мітынг" (Зьвінагродзкага і Галубкінай.)

Царызм рашыў змагацца з рэволюцыяй і маніфэстам і пагромамі. Хваля пагромаў не абмінула і Палескі раён: Навазыбкаў (19-Х), Ворша (21—24), Рэчыца (24—26). У Гомлі ў гэты час пакуль пабаяліся.

На выстаўцы—друкаваная чорнасоценная проклямацыя Магілеўскага камітэту грамадз. парадку „чего хотят люди, которые ходят с красным флагом" (орыгінал), побач программа Гом. адзяленьня Ўсерасійскай партыі патрыётаў—„за веру, царя и отечество". Портрэт Давыдава—бацькі Гомельскіх чорнасоценцаў (нядаўна пакаранага вышэйшай мерай соц. абароны па пастанове суду), фо-

таздымкі забітых Гомельчан і Рэчычан у Рэчыцы і докумэнты аб Аршанскім пагроме.

*Як рабочы Гомель рэагаваў на гэтыя пагромы*,—кажа рэзолюцыя нарады дэлегатаў рабочых і служачых Палескіх і Лібава-Роменскіх чыгунак. „Мы будзем бороться с погромными громилами“—заявіла нарада.

*Лістапад*. Пачынае забастоўку паштова-тэлеграфная кантора. Імкненьне паліцыі скарыстаць штрэйкбрэхэраў і салдат разьбіта падтрыманьнем грамадзян гораду. На выстаўцы орыгінал—проклямацыя „Ко всем“ мясцовага с.-д. камітэту з заклікам адмаўляецца ад абслугоўваньня штрэйкбрэхэрамі.

*Сьнежань*. Другая забастовачная хваля. І адна і другая чыг. дарога сталі. Улада ў Гомлі ў руках забастовачнага камітэту. Апошні звальняе, прымае, дае права на ўезд і выезд. Ваенныя часьці не надзейныя. Паліцмайстар, нарэшце, пасьля прыдушэньня забастоўкі ў Маскве дамагаецца дасылкі ў Гомель карацельнай экспэдыцыі генэрала Арлова. Карта сьледваньня атраду Вільня—Гомель, фотаздымак тэлеграмы Дурнаво,—тагочаснага міністра ўнутраных спраў з канчаткам: „Такой образ действия особенно необходим в Гомеле“ („применяя оружие без всякого снисхождения“) характарызуюць гэты момант. Арлоў з усімі родамі зброі займае Гомель бяз боек. „Усьмірыў“ і паехаў далей.

Гомельскую чорную сотню на чале з Давыдавым, а таксама і паліцыю, гэта, канечне, не задаволіла. Ім хацелася пусьціць кроў. Хацелася „так трахануць Гомелем (з пісьма Давыдава Менскаму губэрнатару Курлову), каб ён надоўга адмовіўся ад рэволюцыі“.

На 13-14 студзеня прызначаецца пагром. Дырыжуюць Давыдаў на чале з сваёй каморай і жандарскі ротмістар Падгарачыні. „Повад“ хутка знойдзен (на гэтым яны руку набілі). Карціны „пажар радоў“ „падпальшчыкі“, „разгром дому доктара Залкінда“, „на ваколіцах Гомлю пасьля пагрому“, а таксама фотаздымак групы параненых у больніцы знаёмяць нас з гэтай жудаснай старонкай Гомельскай гісторыі. Нарэшце,—эскіз сымболічнага помніку „1905 год“ і ў выглядзе лёзунгаў „урокі 1905 г.“ па Леніну.

*Мастацкае афармленьне* выстаўкі досыць поўнае і здавальняючае. На заклік музэю адгукнулася бальшая частка мясцовых мастакоў. У асноўнай сваёй большасьці карціны рэалістычны, з гістарычнай праўдападобнасьцю малююць увесь 1905 год.

Выгадна вызначаецца карціны т. Балашова. Фігуры на яго „Разгоне маёўкі (вугаль), „Забойства Славамовіча“ (сэнія) і „Забойства Агранава“ (італьянскі аловак) поўныя жыцьця, руху і энэргіі. Нельга гэтага сказаць аб карціне Яўмененка „Расправа ў рове“ (алей) і Зьвінагродзкага „Мітынг“. Хоць апошняя пабудавана сама па сабе добра, але некалькі вялыя таны яго пастэлі робяць і фігуры нейкімі вялымі, няжывымі. Ніштo карціны Зорына-малодшага „Пажар радоў“ (алей), „Разгром дома Залкінда“ (пастэль), Шыфрына эскіз помніка „1905 г.“, Галубкінай „Мітынг“ (алей) і Расьлякова „Падпальшчыкі“, праўда стракатасьць фарбаў апошняй робіць фігуры падпальшчыкаў нейкімі тэатральнымі, дэкорацыйнымі. Ёсьць і прадстаўнік „левага“ мастацтва—т. Тарасенкаў. Яго карціна „1905 год“ зварочвае на сябе ўвагу наведвальнікаў сваёй незразумеласьцю і... сьмеласьцю. „Што гэта за куча ламачча?“—пытаюць яны. Замысел мастака ня так лёгка і зразумець.

1905 год—сутычка двух сіл, з аднаго боку дзікая, грубая жывёльная сіла царызму,—яе мастак перадаў у выглядзе конскага капыта, з другога—пролетары, які ў 1905 г. спачатку часта толькі абараняўся, абараняўся дрэнна ўзброеным—на карціне гэта сіла перададзена ў выглядзе адбіваючагася ад капыта рабочага. Усё гэта пакрыта нейкай плёнкай, „ламаччам“. Астатнюю частку прадстаўленых Тарасенкавым „карцін“ музэй ня выставіў і добра зрабіў, бо калі памянёную пасьля тлумачэньня яшчэ можна як-колечы зразумець, то астатнія, ня выстаўленыя—ні ў якім разе. І выстаўленьне іх зявілася-б „зьдзекваньнем не над устаяўшымі формамі і традыцыямі ў мастацтве“, а над... публікай. Уся выстаўка ўзгляўляецца орыгіналам—сьцягам з надпісам (ледзь бачным) „Долой самодержавие“; пад ім дзьве шоўкавыя істужкі „жертве произвола“ і „самодержавной жертве“ от Могилевской орг. РСДРП—дзьве з тых соцен, якія ўскладаліся працоўнымі на целы забітых ахвяр у 1905 г. Галоўны недахоп выстаўкі—гэта скучанасьць, што тлумачыцца адсутнасьцю месца. Але пры ўсіх яе недахопах выстаўка зараз у зьвязку з 25-годзьдзем набывае сур'ёзнае значэньне і працоўным масам Гомельшчыны, а таксама і вучням варта яе паглядзець.

Л. Кужалеў.

## Праца камісіі для ўкладаньня слоўніка жывое беларускае мовы БАН.

Пры заснаваньні сваім у лютым месяцы 1925 г. Камісія для ўкладаньня слоўніка жывое беларускае мовы пры Інстытуце Беларускае Культуры паставіла на абгаварэньне Прэзыдыуму ІБК наступныя тэзы:

„1. Конкрэтным заданьнем Камісіі павінна быць складаньне ў тэрмін, азначаны адпаведнымі органамі ІБК у залежнасьці ад об'ектыўных мажлівасьцяй, поўнага слоўніка жывое беларускае мовы па тыпу поўнага слоўніка ўкраінскай мовы пад рэдакцыяй В. Грынчэнка. Слоўнік павінен ахапіць: а) слоўнае багацьце беларускае літаратурнае мовы, пачынаючы ад поэмы „Энэіда“-б) словы, выбраныя з зборнікаў фольклёрнага матар'ялу і в) словы, запісаныя непасрэдна з вуснаў народу ў розных мясцох

этнографічнае Беларусі. У слоўнік павінны таксама ўвайсьці назовы, апрацаваныя Тэрмінолёгічнымі камісіямі і ўгрунтаваныя дастарчаючымі прыкладамі словы з тых слоўнікаў беларускае мовы, што існуюць у друкаваным або рукапісным відзе.

2. Мэтод працы Камісіі—рэгістрацыя і апрацоўка слоў паводле карткавай сыстэмы.

3. Праца Камісіі складаецца з наступных момантаў:

а) занясеньне на карткі ўстаноўленай ў міжнародным маштабе формы ($^1/_{16}$ д. арк.) слоў, выбраных з твораў беларускіх пісьменьнікаў, фольклёрнага матар'ялу і іншых крыніц;

б) зьбіраньне слоў, запісаных на мясцох; апрацаваньне адпаведнай інструкцыі дзеля запісу, агалашэньне прынцыпаў запісу шляхам друку, зносіны з запішчыкамі на мясцох;

в) папярэдняя рэдакцыя карткавага матар'ялу;

г) сыстэматызацыя сабраных слоў;

д) канчатковая адказная рэдакцыя сыстэматызаванага матар'ялу. (З дакладное запіскі да прэзыдыуму ІБК Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывое беларускае мовы аб прынцыпах організацыі і пляне працы Камісіі ад 27/ІІІ 1925 г.)".

Як відаць з тэваў, камісія на першым месьце ставіла за мэту занясеньне на карткі слоў з літаратурнае мовы, а затым зьбіраньне слоў з народных гутарак. Усе сабраныя матар'ялы (карткі) павінны былі прайсьці цэлую стадыю апрацоўкі—адбор, рэдакцыю, сыстэматызацыю і ўжо толькі пасьля гэтага павінны пачуціць на канчатковую рэдакцыю. Адпаведна з гэтым Камісія апрацавала „інструкцыю да запісу слоў на карткі з літаратурных твораў, а таксама і „Інструкцыю да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове". Членам слоўнікавае камісіі было пастаўлена ў заданьне выбраць сабе пісьменьніка і разьнесьці словы яго твораў на карткі. У тым-жа 1925 годзе была надрукавана і разаслана праз краязнаўчыя організацыі і асабіста некаторым запішчыкам „інструкцыя да зьбіраньня слоўнага матар'ялу". Адначасова ўзьнікла пытаньне аб апрацаваньні і выданьні краёвых слоўнікаў кожнае акругі БССР. Мелася на ўвазе, што краязнаўчыя арганізацыі, зацікавіўшыся працаю, лёгка змогуць сабраць і апрацаваць слоўнік свае акругі, які-б зьмяшчаў у сабе ня менш, як 10,000 слоў ужываных у данай мясцовасьці.

Як трэба было і чакаць, працаю зьбіраньня слоўнага матар'ялу і жывой гутаркі зацікавіліся ня толькі краязнаўчыя організацыі, але і паасобныя грамадзяне з розных месц БССР і, нават з Заходняй Беларусі. Гэтая зацікаўленасьць асабліва ўзрасла пасьля апублікаваньня ў лістападзе 1925 г. адозвы „Да беларускага настаўніцтва" з заклікам запісваць усе асаблівасьці мовы раёну школы. Ужо ў пачатку 1926 г. камісія, ў лісьце да Віленскага беларускага навуковага таварыства, якое яна заклікае да запісу слоў Заходняй Беларусі, адзначае колькасьць запісаных і выбраных з літаратуры слоў у 40000 картак—слоў (Протокол пасяджэньня камісіі № 29 ад 20/І-1926 г.).

У лютым месяцы 1926 г. ІБК склікае першы ўсебеларускі зьезд краязнаўства на якім, разам з іншымі пытаньнямі, ставіць пытаньне мовазнаўчай працы краязнаўчых таварыстваў. Пытаньне выклікае вялікую зацікаўленасьць з боку зьезду, які жыва абгаварвае гэтае пытаньне і выносіць цэлы рад пастаноў, накіраваных да практычнага афармленьня мовазнаўчае працы на мясцох. У дакладзе на гэтым зьезьдзе 9 лютага т. Некрашэвіч між іншым паведамляе, што слоўнікавая камісія пасьпела сабраць слоўнага матар'ялу каля 75 тысяч картак-слоў („Савец. Белар." ад 10 лютага 1926 г.); такім парадкам амаль што не за месяц, ад сярэдзіны студзеня да 9 лютага было сабрана каля 35 тысяч картак слоў.

Пасьля І краязнаўчага зьезду прыток матар'ялу з месц яшчэ пабольшыўся,—камісія літаральна была засыпана карткамі з розных акруг БССР. Не абмяжоўваючыся зборам слоўнага матар'ялу з тэрыторыі БССР, Слоўнікавая камісія робіць захады перад „Обществом изучения природы Смоленского края", каб яно дапамагло збору беларускага слоўнага матар'ялу ў Смаленшчыне. Для гэтае мэты Камісія друкуе на расійскай мове „Инструкцию по собиранию народного словарно-терминологического материала на белорусском языке", якую дасылае памянёнаму „Обществу" з просьбаю разаслаць яе сваім корэспондэнтам, а таксама таварыствам і асобам, што вядомы „Обществу" сваёю краяведчаю працаю. Аналёгічны адносьнік быў пасланы таксама і да Невельскага Пэдагогічнага Тэхнікуму. Апошняму была зроблена прапанова прыняць удзел у ўкладаньні краёвага слоўніка. Заклік да краязнаўчых організацый і да настаўнікаў даў свае вынікі—увесь 1926 год прайшоў пад знакам узмоцненага прытоку карткавага матар'ялу, як у Слоўнікавую камісію, таксама і ў акруговыя краязнаўчыя організацыі. Газэты, як цантральныя, так і мясцовыя, аддаюць шмат увагі пытаньню зьбіраньня матар'ялу і даюць на сваіх старонках паведамленьні пра ход яго.

Вялікі наплыў слоўнікавага матар'ялу даў мажлівасьць выявіць недахопы і недакладнасьці ў запісах, якія, ня гледзячы на разасланыя інструкцыі, траплялі ў карткі з прычыны непадрыхтаванасьці запішчыкаў (шмат запісаў дасылалася вучнямі сямігодак). Слоўнікавая камісія палічыла патрэбным вывучыць гэтыя недахопы і пастарацца іх выправіць ці папярэдзіць у далейшых запісах.

Былі выяўлены наступныя тыповыя для пэўнага проценту картак недахопы:

а) нявытрыманасьць памеру карткі, паказанага ў „Інструцыі да зьбіраньня слоўніка - тэрмінолёгічнага матар'ялу" ў $^{1}/_{16}$ долю аркуша звычайнае паперы для пісьма. Часам даваліся карткі большага, а часам меншага разьмеру, што перашкаджала сыстэматызацыі картак;

б) нячытэльны запіс, якім напісаны некаторыя карткі і недакладны подпіс запішчыка, што затрудняла работу Камісіі і адход пэўнага проценту нерашчытаных матар'ялаў, якія прышлося выкідваць;

в) няправільны запіс беларускага слова ў верхнім левым рагу карткі. Словы ставіліся бяз усякай сыстэмы—дзеясловы ў розных формах, ладох і ліках, а іменьнікі ў розных склонах;

г) няпісьменнасьць запісу перакладаў на расійскую мову гэтак і тлумачэньняў пабеларуску. Часам расійскае слова даецца ў беларускім яго вымаўленьні і наадварот.

д) недакладнасьць прыкладаў, якая даецца ў значнай колькасьці картак. Даюцца прыклады банальныя, не запісаныя з народнай гаворкі, а прыдуманыя самымі запішчыкамі і прытым вельмі няўдала. На іменьнік даюцца прыклады, у якіх няма гэтага іменьніка, а ёсьць прыметнік ад яго, або дзеяслоў таго-ж кораня. На дзеяслоў нескладаны, просты, даецца прыклад з дзеясловам складаным, а трапляецца часам наадварот і г. д.;

е) лішнія словы ў мясцовым азначэньні. Замест паказаньня акругі, раёну і вёскі, што вымагаецца „Інструкцыяй" Камісіі, шмат якія з дапішчыкаў даюць паказаньні сельсаветаў, што займае толькі месца і нічога не гаворыць у сэнсе вызначэньня тэрыторыі, і некат. іншыя.

Камісія, вывучыўшы гэтае пытаньне, разаслала праз ЦБК тлумачэньне, як трэба запісваць і чаго ня трэба ўносіць у карткі. Адначасова камісія прасіла ня спыняць прысылкі слоўнага матар'ялу.

Камісія разгарнула сваю працу належным чынам і за год свае дзейнасьці пасьпела сабраць з народнае мовы і выпісаць з літаратурных крыніц 300 тысяч картак слоў. Справа вялікая і шырокая. Недарма замежныя дэлегаты на Акадэмічную конфэрэнцыю, якая адбылася ў лістападзе месяцы 1926 г., са зьдзіўленьнем глядзяць на работу Слоўнікавае Камісіі, аб чым сьведчаць запісы ў кнізе для наведвальнікаў Камісіі. Для іх незразумела, як можна за такі кароткі час прарабіць такую вялікую працу. Ды ня толькі замежныя наведвальнікі, але і вучоныя СССР таксама адзначаюць вялікі посьпех працы камісіі.

Работа разгарнулася жыва, захапіўшы шырокія колы грамадзянства. Камісія да гэтага часу мела цэлыя тысячы запішчыкаў на мясцох, запішчыкаў, праўда, не кваліфікаваных, але досыць граматных для таго, каб занесьці на картку ўжыванае ў яго вёсцы слова. Сыстэма аплаты карткавага матар'ялу пабуджала настаўнікаў, вучняў краязнаўцаў запісваць словы свае мясцовасьці і дасылаць іх у ІБК. Праўда, гэтая сыстэма пазьней выявіла свае адмоўныя якасьці. Імкнучыся запісаць, як-мага больш слоў, некаторыя корэспандэнты не звярочвалі ўвагі на якасьць матар'ялу, вынікам чаго была тая тлумачальная запіска, што ўпаміналася намі вышэй. Былі і такія выпадкі, калі, ня маючы сьвежага матар'ялу, дапішчык выдумваў словы, або адно і тое слова даваў у ўсіх склонах,—абы было больш картак. Часам два браты—вучні запісвалі словы і прысылалі падвойныя картачкі з аднолькавымі сказамі, з словамі звычайнымі як—нага, рука, галава, нос, вада, лёд і г. д. Усе гэтыя матар'ялы толькі загружалі архіў Камісіі і адымалі ад працаўнікоў яе дарэмна час, пры пераглядзе прыходзілася касаваць карткі і выкідваць вон.

Усе гэтыя абставіны прымусілі Слоўнікавую Камісію пераглядзець мэтоды запісаў слоўнага матар'ялу. Каб запісы слоў не паўтараліся, трэба было даць дапішчыкам нейкія сталыя нормы, з якіх-бы яны выходзілі ў сваёй працы. Камісія палічыла, што такім выходным пунктам павінен стаць „Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча, які вышаў з друку ў пачатку 1927 г. Сакратару Камісіі М. Байкову было даручана ўкласьці проект Інструкцыі да далейшага зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу, што той і выканаў. Сутнасьць новае інструкцыі зводзілася да таго, каб спыніць запіс звычайных, усюды ўжываных слоў і ўхіліцца непатрэбных паўтарэньняў.

Гэтая інструкцыя была апублікована ў скарочаным выглядзе ў друку (гл. „Сав. Бел." № 72 ад 30 сакавіка 1927 г. „Як запісваць народны слоўнікавы матар'ял") і, такім чынам трапіла ў шырокія колы дапішчыкаў. Перад дапішчыкам былі пастаўлены складаныя ўмовы—ён павінен быў мець слоўнік БН,[1]) калі хацеў запісваць, і, сустрэўшы тое ці іншае слова, заўсёды даведвацца, ці ёсьць яно ў слоўніку. Само сабою разумеецца, што гэта ня ўсе могуць выканаць,—дзе там цягацца з слоўнікам, каб ён хоць і быў, якому-небудзь хлапчуку ці дзяўчынцы, якія захочуць запісаць пачутае імі ў часе працы слова. Гэтаю інструкцыяй Камісія расхаладзіла выкліканы ёю ўпачатку энтузыязм дапішчыкаў і спыніла прыток матар'ялаў ад некваліфікаваных дапішчыкаў сялян. Праз некаторы тэрмін дасылка матар'ялаў пачала зьмяншацца і дайшла да мінімуму. Спачатку сталі паступаць матар'ялы ад кваліфікаваных запішчыкаў, якія рабілі дадаткі да разасланага ім слоўніка БН., але іх было ня так ужо многа ды яны скора спыніліся і к канцу 1927 г. паступленьні матар'ялаў з месц зводзіцца амаль што да нічога. Камісія вядзе работу

[1]) Байкова Некрашэвіча.

над выпіскай матар'ялаў з літаратурных твораў.

Трэба лічыць, што тут Камісія зрабіла памылку — недаацаніла тых вынікаў, якія могуць быць ад разасланае новае інструкцыі. Грамадзянства ўпэўнілася, што працаваць над зборам матар'ялаў ня варта, бо усё, што можна зафіксаваць—зафіксавана ў слоўніку БН, а калі якое-небудзь слова і не зафіксавана, то яго ня варта шукаць.

Праўда, Слоўнікавая Камісія ў пачатку працы і меркавала закончыць збор карткавага матар'ялу да канца 1927 г. пасьля чаго ўжо прыступіць да апрацоўкі і сыстэматызацыі яго; але практыка паказала, што і пасьля 1927 г. матар'ял яшчэ далёка ня ўвесь сабраны. Выпіскі слоў з літаратурных крыніц, якія, да рэчы сказаць, вяліся вельмі інтэнсыўна, паказалі, што тут проста нявычэрпныя скарбы слоўнага матар'ялу. Кожны амаль пісьменьнік даваў столькі новага і арыгінальнага ў гэтых адносінах, што прымушаў Камісію задумацца над тым, ці скласьці слоўнік гэтага пісьменьніка, ці зрабіць толькі выбарку найбольш арыгінальных слоў з яго твораў. Да таго-ж сучасныя пісьменьнікі значна абнаўлялі мову—уносілі ў свае творы новыя тэрміны, новыя вобразы і паняцьці і не адбіць іх у слоўніку жывой беларускае мовы—зрабіць вялікі праступак перад грамадзянствам. Маладыя пісьменьнікі, што прышлі ў літаратуру з новымі ідэямі, якія цесна зьвязаны з шырокімі масамі працоўных, поўным каўшом чэрпалі з гэтых гушчаў свой слоўны матар'ял і патрабавалі, каб увесь гэты матар'ял сучаснасьці быў унесены ў слоўнік жывое мовы. Складаньне слоўнікаў такіх пісьменьнікаў як: Я. Купала, Як. Колас, З. Бядуля, М. Багдановіч, А. Гарун, Ф. Багушэвіч, Ц. Гартны, М. Гарэцкі і інш., што былі пачаты ў 1925-26 годзе зацягнулася, тым больш, што некаторыя з гэтых пісьменьнікаў папаўнялі сваю творчасьць новымі творамі, якія таксама павінны быць выкарыстанымі. Новыя пісьменьнікі на асобныя слоўнікі не разносіліся, але з іх твораў рабіліся выбаркі слоў і гэтая работа зацягнулася на ўвесь 1928 год. Адначасова вялася выпіска картак з пэрыодычнага друку,—з газэт і журналаў. Такім парадкам вызначаны Камісіяй тэрмін для зьбіраньня слоўнага матар'ялу сам сабою зацягнуўся.

Да канца 1927 г. Камісія мела ў сваіх шафах звыш 400,000 картак-слоў з разгаворнае і літаратурнае мовы.

Побач з працаю Слоўнікавае Камісіі разгортваюць працу ўкладаньня краёвых слоўнікаў некаторыя Акруговыя таварыствы Краязнаўства. Найбольш выявіла сябе ў гэтай справе Віцебскае Таварыства Краязнаўства. Справа ўкладаньня Віцебскага краёвага слоўніка пайшла хутка наперад. У пачатку 1927 г. слоўнік Віцебшчыны ўжо быў надрукованы і выпушчаны ў сьвет.

У ліпні месяцы ў Слоўнікавую Камісію паступае заява М. Шатэрніка аб разглядзе ўкладзенага ім Краёвага слоўніка Чэрвеншчыны з дадаткам 5655 картак на літ. А—Н.

11 чэрвеня ўхвалена: „Распачаць друк Чэрвенскага краёвага слоўніка пад непасрэдным наглядам і адказнасьцю Слоўнікавай Камісіі". У жніўні месяцы 1929 г. слоўнік выпускаецца ў сьвет.

У 1928 годзе ў Камісію надасланы трэці краёвы слоўнік Мазыршчыны, укладзены А. Крукоўскім. Пасьля рэдакцыі і падрыхтоўкі для друку гэты слоўнік здадзены ў друк.

Чацьверты слоўнік з цыклю краёвых— Слоўнік Калінішчыны пачаты складаньнем у 1928 г. і знаходзіцца ў стадыі апрацоўкі. Слоўнік укладаецца на наступных прынцыпах:

1. Словы ў асноўнай колюмне беларускага тэксту запісваюцца з захаваньнем тыповых асаблівасьцяй мясцовага вымаўленьня, паводле прынцыпу фонэтычнага запісу.

2. Беларускія словы даюцца з тлумачэньнямі ў беларускай-жа мове, апрацаванымі ў сьцislай форме.

Камісіяй рабіліся захады — даваліся заданьні і інструкцыі для складаньня слоўнікаў іншых акруг. У протоколах ёсьць адзнака пра пачатак укладаньня слоўнікаў Аршаншчыны, Магілеўшчыны, Меншчыны і Смаленшчыны, але справа гэтая заглохла.

Камісія пачала (выпрацавала прынцыпы) ўкладаньня гістарычнага слоўніка беларускай мовы, вызначыўшы тыя крыніцы, з якіх пачаць выпіску на карткі матар'ялу. Пры заснаваньні пры ІБК катэдры гісторыі беларускай мовы гэтую працу Камісія перадала апошняй, дзе яна і вядзецца да гэтага часу.

Пасьля таго як Камісія выдала сваю інструкцыю аб запісу слоўнага матар'ялу толькі ў дадатак слоўніка БН, як мы ўжо ўпаміналі, прыпыніўся прыток матар'ялаў з месц. Каб ня спыніць зусім збору матар'ялу, Камісія рашыла выпрацаваць інструкцыю да зьбіраньня слоў з мовы свайго раёну і ўкладаньня з іх слоўнікаў. Мелася на ўвазе, што кожнае раённае краязнаўчае таварыства, зацікавіўшыся моваю свайго раёну, будзе запісваць словы яе і захоўваць у сябе, сыстэматызуючы і заўсёды папаўняючы слоўны запас. Гэтыя слоўнікі, на думку Камісіі, не павінны выдавацца, яны павінны складаць толькі архіўны матар'ял, які будзе служыць справачнікам для мовазнаўцаў.

Выпрацаваньне гэтае інструкцыі было даручана т. Касьпяровічу. Інструкцыя пад назвай „Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну" была заслухана і прынята з некаторымі папраўкамі і надрукавана ў часопісу „Наш Край" № 1 за 1928 г. Ці робіцца што раёнамі ў гэтай справе—Камісія пра гэта ніякіх вестак ня мае.

Некалькі слоў пра парадак апрацоўк матар'ялу з месц, якія прыняты Камісіяй з

пачатку яе організацыі і вядзецца да цяперашняга часу.

Прысланыя карткі, запісаныя з жывое народнае гутаркі, або выпісаныя з літаратурных крыніц паступаюць да вучонага сакратара Камісіі, які зарэгістраваўшы іх, або пераглядае сам, або накіроўвае для перагляду да членаў камісіі. Перагляд картак заключаецца ў тым, што яны правяраюцца перш-наперш з боку напісаньня карткі,— ці адпавядае паданае ў контэксьце слова таму, што напісана ў верхнім левым рагу картачкі як з боку сэнсу, таксама і з боку фонэтыкі. Ацэньваецца таксама і прыклад, што даецца да слова з боку яго ўдаласьці і трапнага вызначэньня сутнасьці запісанага слова; зварочваецца ўвага на пашпарт слова, г. зн., на абазначэньне месца запісу яго і дакладнасьці прозьвішча запішчыка. Затым робіцца папярэдняя рэдакцыя карткі слова: вызначаецца катэгорыя слова, — дзеяслоў, прыметнік, назоўнік, прыслоўе і г. д.—для дзеяслова вызначаецца паводле паданага прыкладу трываньне, стан асоба, час: для прыметнікаў—род, лік., для назоўнікаў—род. лік і склон і г. д. Недакладныя карткі, нячытэльныя, бяз пашпарту ці з іншымі заганамі адбіраюцца і залічваюцца ў бракованыя. Карткі-ж, што адпавядаюць запатрабаваньням, падлягаюць ацэнцы іх з боку навуковае іх вартасьці. Ацэнку картак і крытычны водзыў пра іх узяў на сябе і выконваў Дырэктар Камісіі проф. Бр. І. Эпімах-Шыпіла. Пісаныя водзывы разглядаюцца на пасяджэньнях Камісіі і паводле іх прысуджаюцца прэміі дапішчыкам. Пасьля гэтага словы-карткі раскладаюцца па скрынках, кожнае на сваё месца ў альфабэтычным парадку. Такі шлях апрацоўкі картка-вага матар'ялу.

Такім парадкам Слоўнікавая Камісія за час да 15-VI—1928 г. прыняла 305.381 картку-слова, якія аплачаны або прэм'яваны, з іх ліку:

а) з слоўнікаў—75,024; б) з літаратурных твораў і зборнікаў фольклёру — 152.679; в) з народн. гутаркі — 77.672 карткі. Апрача таго неаплачаных і непрэм'яваных слоў: а) з слоўніка Карловіча — 600; б) з фольклёру—5254 і в) з народнай гутаркі — 70,808 картак-слоў. Разам — 382.043 карткі-словы (з дакладу нав. сакратара аб стане працы Камісіі да 15-VI—1928 г. Проток. № 73).

Азнаёміўшыся з вышэйпаданымі матар'яламі, Камісія на пасяджэньні сваім ад 18/VI-1928 г. пастанавіла: „Лічыць, што на падставе сабраных карткавых матар'ялаў зьяўляецца магчымым прыступіць з пачаткам новага акадэмічнага году да ўкладаньня слоўніка жывое беларускае мовы“. „Паралельна з укладаньнем акадэмічнага слоўніка павінен ісьці працяг працы выкарыстаньня літ. твораў і іншых слоўнікавых матар'ялаў, якія да гэтага часу засталіся нескарыстанымі“.

Увесь час ад памянёнага пасяджэньня да 15 красавіка 1929 г. для Камісіі прайшоў у інтэнсыўнай працы над выбаркай матар'ялаў на літ. А з тых крыніц, што яшчэ былі нескарыстаны да гэтага часу і над апрацоўкай проекту ўкладаньня слоўніка, які і паданы быў на разгляд Камісіі на пасяджэньні ад 15/IV—29 г.

Проект усебакова быў разгледжаны, напраўлены і дабаўлены новымі палажэньнямі. На гэтым пасяджэньні праект, пасьля пераапрацоўкі згодна з паказаньнямі Камісіі, пастанавілі выдрукаваць у абмежаваным ліку экзэмпляраў і разаслаць для водзыву спэцыялістым у межах Савецкага Саюзу. Да кастрычніка месяца 1929 г. гэтых водзываў прыбыла ў Камісію да 15 ад спэцыялістаў Менску, Масквы, Ленінграду і Харкаву. 20 лістапада ўсе заўвагі былі разгледжаны, паводле іх зроблены зьмены ў проекце і вынесена пастанова аб пачатку ўкладаньня слоўніка жывое беларускае мовы.

Парадак укладаньня слоўніка наступны. Сыстэматызаваныя і папярэдня апрацованыя словы падлягаюць канчатковай рэдакцыі і ўкладаюцца ў калюмну ў строга альфабэтычным парадку. Апрацаваны такім парадкам слоўнік (яго старонкі) перадрукоўваецца на машынцы ў патрэбным ліку экзэмпляраў і раздаецца на перагляд членам рэдакцыйнай калегіі; апошнія робяць да тэксту свае напраўкі і дадаткі. Усе гэтыя заўвагі праглядаюцца на пасяджэньні Камісіі, якая і зацьвярджае асноўную колюмну слоў і тэкст слоўніка ў канчатковым выглядзе. Пасьля гэтага слоўнік паступае ў друк.

Да цяперашняга часу апрацаваны і паданы на разгляд членам рэдакцыйнае калегіі першы аркуш літары А.

## Полацкае Акруговае Т-ва Краязнаўства.

Т-ва цяпер занята працай па абсьледваньню заводу Труды і комуны Якімань. На заводзе Т-ва прынцыпова дагаварылася зрабіць спробу заснаваньня краязнаўчага гуртка. Апрача гэтай працы Т-ва праводзіць абсьледваньне працы краязнаўчых гуртоў пры ўсіх школах г. Полацку, падрыхтоўвае матар'ялы для правядзеньня вясной школьна-краязнаўчай конфэрэнцыі ў Полацку і акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі. Т-ва апрацоўвае програму для школьна-краязнаўчых гуртоў Полаччыны, сыстэматызуе матар'ялы для зборніка „Полацкая Акруга“. Т-ва праводзіць соцспаборніцтва з Віцебскім Акруговым Т-вам Краязнаўства і дагавор аб гэтым будзе падпісаны на Віцебскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі вясной гэтага году.

### Асьвейскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

Плянавай працы няма. Уся краязнаўчая праца концэнтруецца ў краязнаўчым гуртку пры школе 7-цы, але і гурток дасьледчай

працы не вядзе, а толькі зьбірае матар'ялы, запаўняе анкеты, дасланыя рознымі ўстановамі. Т-ва карыстаецца фотоапаратам, мае ўжо некаторыя колекцыі па прыродзе Асьвейшчыны. У далейшым Т-ва паставіла мэтай правесьці перарэгістрацыю сяброў т-ва, заснаваць 2—3 сельсавецкія краязнаўчыя гурткі, у мэтах культурна-асьветных распачаць вывучэньне колгаснага руху ў раёне. Вясной намечаны краязнаўчыя экскурсіі з фотоапаратам па раёне. Для разьвіцьця музэю Асьвейскае Т-ва мае перспэктывы і ўжо ёсьць некаторыя колекцыі і экспонаты, якія складаюць ня дрэнны пачатак краязнаўчага музэю—зоолёгічныя, археолёгічныя колекцыі, акварыўмы з мясцовай вазёрнай фаўнай і г. д., але няма памяшканьня і праца гэта вельмі звужана.

**Дрысенскае Раённае Т-ва Краязнаўства.**

Параўнальна з мінулым годам Т-ва зрабіла некалькі крокаў уперад. Падрыхтаваны матар'ял да выданьня рукапіснага зборніка „Дрысеншчына". У дзень колектывізацыі наладжана абсьледваньне двох колгасаў. Па заданьню т-ва зроблена апісаньне аднае вёскі і дадзена аднаму члену з комуны даць апісаньне жыцьцёвых умоў у гэтай комуне. Музэй троху пашырыўся новымі экспонатамі: зьявіліся некаторыя новыя дыяграмы, склаўся раённы слоўнік жывой мовы і выстаўлены, як экспонат, заснаваны школьны куточак у музэі, зроблена ў музэі выстаўка мэтодычна-краязнаўчай літаратуры, экспанаваны 2 №№ літаратурна-мастацкага вучнёўскага часопісу. Т-ва ў далейшым галоўную ўвагу буддзе аддаваць вытворчым пытаньням краязнаўства, вясной намеціла зрабіць экскурсіі па раёне—мае фотоапарат. У пачатку сакавіка два сябры праўленьня т-ва разам з прадстаўнікам ЦБК зрабілі краязнаўчую экскурсію ў комуну Леніна, дзе правялі абсьледваньне організацыі працы ў комуне. У комуне заснаваўся краязнаўчы гурток з 20 сяброў комуны.

**Валынецкае Раённае Т-ва Краязнаўства.**

Т-ва самастойнай краязнаўчай працы мала вяло, але акуратна запоўняла ўсе анкеты і програмы, якія дасылалі дасьледчыя ўстановы Менску. Складзена карта Валынецкага раёну з карэктывамі—паказаны ўсе арцелі, комуны і нават малочныя т-вы (1928 г.). Карта адпавядала практычным запатрабаваньням і ёю часта карысталіся дарожныя тэхнікі і іншыя працаўнікі. Сабраны некаторыя геолёгічныя і археолёгічныя экспонаты, ёсьць дыяграмы, зарысоўкі, малюнкі — ёсьць усе ўмовы для заснаваньня цікавага раённага музэю, але памяшканьня няма. У вёсцы Ульлянаве (цяпер колгас Ульлянава) пры школе ёсьць вясковы музэйчык, складзены за некалькі год настаўнікам Б. Паршуто (гэрбарні, геолёгія, этнографія, археолёгія, школьнае краязнаўства). Т-ва асноўным заданьнем сваёй далейшай працы бярэ вывучэньне раёну з боку вытворчых сіл і колектывізацыі.

## Агляд надвор'я па БССР.

### За люты м-ц 1930 г.

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геофізычнай Службы).*

Надвор'е на працягу м-ца стаяла сухое і больш цёплае ў першую, чым у другую дэкаду.

Сярэднія тэмпэратуры за першую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва (Віцебшчына) | 12.2° |
| Менск . . . . | 8.1 |
| Горкі (Аршаншчына) . | 11.2 |
| Чэрыкаў (Магілеўшчына) | 10.1 |
| Васілевічы (Гомельшчына) . | 6.5 |

Сярэднія т-уры 1-ай дэкады гэтага году ніжэй нормальных дэкадных т-ур:

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва на | 4.2° |
| Менск . „ | 7.0 |
| Горкі . . „ | 3.2 |
| Чэрыкаў . . . „ | 2.1 |
| Васілевічы . . „ | 6.4 |

Першая дэкада студзеня гэтага году ў сярэдніх выніках на 11—15° цяплей адпаведнай дэкады лютага мінулага году.

Сярэднія т-уры за 2-ю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва | 4.6° |
| Менск . | 2.8 |
| Горкі . | 5.7 |
| Чэрыкаў . | 6.8 |
| Васілевічы . | 4.1 |

Сярэднія т-уры за 2-ю дэкаду вышэй нормальных дэкадных тэмпэратур:

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва на | 2.8° |
| Менск . . „ | 3.9 |
| Горкі . . „ | 1.8 |
| Чэрыкаў . . . „ | 0.5 |
| Васілевічы . . „ | 1.3 |

У сярэдніх выніках другая дэкада лютага г/г. на 9.13° цяплей адпаведнай дэкады лютага мінулага году.

Сярэднія т-уры за 3-юю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва | 7.3° |
| Менск. | 7.7 |
| Горкі. | 8.7 |
| Чэрыкаў . | 8.0 |
| Васілевічы . | 4.4 |

Сярэднія т-уры трэцяй дэкады ня ніжэй нормальн. т-ур.

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва на | 1.0° |
| Менск . . „ | 2.4 |
| Горкі . . „ | 2.5 |
| Чэрыкаў . . . „ | 2.1 |
| Васілевічы . . „ | 0.3 |

3-я дэкада лютага г/г. у сярэдніх выніках на 7—10$^0$ цяплей 3-яй дэкады лютага мінулага году 1929.

Сярэднія т-уры лютага г/г. нязначна адрозьніваюцца ад нормальных месячных т-ур: ці на 0.5$^0$ вышэй (Менск, Васілевічы), ці на 1$^0$. 0 ніжэй (Горкі, Чэрыкаў). Сярэднія т-уры лютага мінулага году былі на 11-12$^0$ ніжэй нормальнай.

Ваганьні т-ур (па паказаных максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) за паасобныя дэкады наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-ая дэкада | ад | —27,8 | да | 0,4 |
| 2-ая „ | „ | —25,4 | „ | 4,0 |
| 3-яя „ | „ | —27,8 | „ | 3,6 |
| м-ц | „ | —27,8 | „ | 4,0 |

Самая нізкая т-ура заўважана у Чэрыкаве—27,8 (10—II) і самая высокая ў Мар.-Горцы 4,0 (16—II).

*Ападкі.* За гэтую дэкаду ападкаў выпала больш чымся ў кожную з наступных, асабліва гэта заўважваецца па некаторых мэтстанцыях Гомельскай Акругі.

За 2-ую дэкаду выпала ападкаў больш чымся за 3-юю дэкаду.

За 3-юю дэкаду ападкаў па БССР выпала менш 1,0 мм.

Наогул у лютым ападкаў выпала менш нормы ў паўночных акругах (у некаторых мясцох недахоп ападкаў—2-3 мм., што складае 80% нормы). У паўдн. акругах мясцамі выпала больш нормы (Чачэрск. Гом. акр.).

Лік дзён з ападкамі вагаўся ад 8 да 25 дзён.

Лік дзён цалкам ясных вагаўся ад 1—4.

Лік дзён цалкам хмарных вагаўся да 16 да 24.

Вятры пераважвалі напрамку заходняй чвэрткі (норм. Паўднёв. Паўднёва-Заходн.), з сярэдняй хуткасьцю 3—5 м. ін.

*Сьнегавы насьціл:* На працягу м-ца таўшчыня насьцілу павялічвалася. Найбольш значная таўшчыня яго адзначана ў другую дэкаду. За гэтую дэкаду заўважваецца наступны малюнак: Полацкая, Віцебская, Магілеўская акр., і частка Менскай акр. на поўнач ад р. Птычы, ад 20 да 30 см., астатняя частка Менскай акр. і паўночная палова Бабруйскай ад 10 да 20 см. і паўднёвая палова Бабруйскай, Мазырская і Гомельская ад 4 да 10 см. На працягу 3-яй дэкады сьнегавы насьціл у большасьці месц крыху зьменшыўся 2—4 см. і ў паўднёвых акругах у некаторых мясцох амаль адсутнічаў (Лельчыцы, Мазырскай акругі).

*Стан палявых культур:*

Згодна ведама ад назіральнікаў шкод з боку ўмоў надвор'я для азімых не адзначалася.

Г. Маслакавец.

18—III—30.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Чэрвеншчына.** Штомесячнік Чэрвенскага раённага таварыства краязнаўства. № 1, май 1929, 176×215 мм. 38 бал., з укладнымі таблiцамі, вокладка друкавана ў друкарні, тэкст—на пішучай машынцы на адным баку тонкай паперы, тыраж невядомы; адказны рэдактар *Дземяшкевіч*, члены рэдакцыі: *Катлінскі, Хархурын, Булат.*

Краязнаўчая праца пачалася ў Чэрвеншчыне даволі даўно, усе об'ектыўныя ўмовы для разгортваньне яе там ёсьць і таму выданьне свайго часопісу ў Чэрвеншчыне магло пачацца значна раней. Як відаць, некаторая доля адставаньня кіраўнічага складу краязнаўчай організацыі ад магчымых тэмпаў Чэрвенскага краязнаўства прычынілася таму, што выдаваньне краязнаўчага часопісу пачалося толькі ў 1929 годзе.

Пасьля рэдакцыйнага артыкулу ў гэтым нумары зьмешчаны агляд працы Чэрвенскага Раённага Таварыства Краязнаўства за пяць год. У ім надзвычайна многа месца адведзена апісаньню і па сутнасьці ідэалізацыі таго кругабегу, які па віне былых кіраўнікоў таварыства быў зусім безвыніковым, а значыць і шкодным, бо гэтым самым дыскрэдытаваў ідэю краязнаўства. Заміж гэтага трэба было ўжыць самую жорсткую самакрытыку з адпаведнымі вывадамі.

Наступны артыкул „Дзікае возера“ падае легенды аб ім і даведку аб памерах і сучасным стане яго. Далей *Сарока* дае цікавыя весткі аб курганох і гарадзішчы па р. Вусе. Трэба было толькі падаць дакладныя месцы знахаджэньня курганоў і гарадзішча. З вывадамі варта быць заўсёды больш асьцярожным, бо некаторыя з іх у даным выпадку, напр., не абапёрты на прыведзены матар'ял. Ва ўсякім разе сваё вывучэньне археолёгічных помнікаў т. Сарока павінен працягваць і па іншых рэках раёну—тэма вельмі важная і цікавая. *К. Жыгалковіч* у сваім артыкуле падае весткі пра знойдзены скарб ля Горак і легенду, зьвязаную з ім. *У. Юркевіч* апісаў дзень птушак, наладжаны Горкаўскай школай. Нас дзівіць чаму рэдакцыя не дала такога артыкулу па ўсім раёне. Каштоўны плян апісаньня сельсавету зьмешчаны ў часопісу і апрацованы праўленьнем на падставе найноўшых матар'ялаў. Апошні артыкул часопісу, напісаны *Г. Катлінскім*, абмяркоўвае вельмі важнае пытаньне, а ўласна—„Атмосфэрныя ападкі ў гор. Чэрвені“ і багаты добраякасным фактычным матар'ялам. Наогул зьмест часопісу цікавы і мае шмат каштоўных матар'ялаў.

У афармленьні часопісу, асабліва вокладкі, шмат неахайнасьці. У наступных нумарох гэтага трэба пазбавіцца.

Урэшце нас дзівіць чаму ад мая месяца 1929 году няма наступных нумароў „штомесячніка“ Чэрвенскага Таварыства Краязнаўства.

М. К—ч.

**Краеведческий сборник.** Издание Краеведческого кружка при Невельской трудовой школе 2 ступени. 1928—1929 учебный год. Редакторы: *Файнштейн* и *Фомичев.* 357×220 мм. Пісаны на пішучай машынцы; 15 бал.; тыраж невядомы.

У Невельшчыне працуе цэлы гурток краязнаўства, які выпусьціў названы выпуск свайго непэрыодычнага часопісу. Зборнік робіць прыемнае ўражаньне сваёй распрацоўкай самых начасных і самых актуальных пытаньняў социялістычнага будаўніцтва ў Невельскім краі ды ўдалымі экскурсамі ў галіну гісторыі і этнолёгіі, цалкам апраўдваючы сваё цьверджаньне ў артыкуле ад рэдкалегіі, якое констатуе, што „вывучаючы рост прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, вучні, бясспрэчна, павінны будуць экскурсаваць у галіну мінулага краю: гістарычныя, экономічныя, бытавыя і кліматычныя ўмовы жыцьця краю дапамогуць вучням лепш разабрацца ў зьявах сучаснага жыцьця краю“.

Пасьля рэдакцыйнага артыкулу ў зборніку зьмешчаны кароткі артыкул вучня 5 групы *Хазанава* „Краеведение и школа“, у якім аўтар вызначае краязнаўчую працу для гуманітарных і прыродна-географічных дысцыплін школы: вывучэньне рэв. руху, экономічнае вывучэньне раёну, вывучэньне яго мінулага і сучаснага наогул, зьбіраньне слоўнікавага і лінгвістычнага матар'ялу, фэнолёгічныя і метэоролёгічныя нагляданьні, укладаньне зоолёгічных і ботанічных колекцый і вывучэньне продукцыйных сіл. На жаль з такога падзелу выпалі іншыя дысцыпліны.

Паміж тым усе дысцыпліны школы, ад фізвыху да хэміі ўключна, павінны весьці сваю працу на краязнаўчым матар'яле і дапамагаць вывучэньню свайго краю.

Наступны артыкул „Рыбное хозяйство в Невельском районе", што зьяўляецца дакладам т. т. *Салаўёва* і *Шавельскага* на другім раённым зьезьдзе саветаў, даволі грунтоўна абмяркоўвае пытаньне і высоўвае каля 10 конкрэтных прапаноў, што да палепшаньня мясцовай рыбнай гаспадаркі. Як відаць з тэксту, даклад гэты абмяркоўваўся і на раённай настаўніцкай конфэрэнцыі. Усе іншыя краязнаўцы павінны скарыстаць гэты дасканалы ўзор пропаганды краязнаўства і ўдзелу краязнаўцаў у краябудаўніцтве, увёўшы яго ў сваю штодзённую практыку.

Далейшыя чатыры артыкулы прысьвечаны пасеўнай кампаніі: „Сельско-хозяйственный вид Невельского района" — *Шавельскага*, „Сорняки"—*Берасьнёвай*, *Бярэзінай* і *Філаноўскага*, „Сортировка семян"—*Устрайха*, *Парфенава*, *Аўдзеенкі*, *Вераб'ёва* і *Сачнёва* ды „Дневник работ Невельской школы 2 ст. по проведению посевной кампании" — *Янкоўскага*. Усе яны таксама зьяўляюцца добрымі ўзорамі карысна-грамадзкай краязнаўчай працы вучняў, а апошні цалкам паказвае сваю практыку ўдзелу краязнаўцаў у правядзеньні пасеўнай кампаніі для скарыстаньня іншымі. Трэба адзначыць таксама, што Невельскія краязнаўцы добра карыстаюцца мэтодам колектыўнай працы некалькіх асоб над распрацоўкай паасобных пытаньняў.

У разьдзеле „Этнография" зьмешчана пяць артыкулаў: „Крестьянская свадьба"—*Ламакіна*, „Кулинки или белый понеделок"—*Маладзёжава*, „Хресьбины"—*Дзярноўскай*, „Народное творчество Невельского района" — *Мажанскага* і „На путях к новому быту"— *Арвана*. У першым з іх даецца даволі падрабязнае, з пералікам усіх асноўных момантаў, апісаньне сялянскага вясельля. Прыклады сялянскіх вясельных песень і абрады—беларускія; адна сьцьверджвае цоканьне („я скацу, скацу"). Трэба было ля кожнай песьні адзначыць вёску, з якой яна паходзіць. Маладзёжаў апісвае цікавае жаночае сьвята „Кулінкі", таксама прыводзячы некалькі песень да гэтага абраду. Дзярноўская дала цікавую спробу апісаньня хрэсьбін, якое ўласна зьяўляецца мясцовым расказам, як адбываюцца хрэсьбіны і запісаны на мясцовай мове. Як і іншыя, Дзярноўская зрабіла памылку не адзначыўшы месца свайго запісу. Ня ўсюды захован фонэтычны прынцып запісу, як і ў фольклёрных матар'ялах іншых аўтараў. Але, ва ўсякім разе, спроба Дзярноўскай зьяўляецца надзвычайна каштоўнай. Мажанскі даў спробу агляду прыпевак раёну, якіх у яго „имеется несколько тетрадей". Аўтар прыводзіць шмат тэкстаў прыпевак, але зноўжа без адзначэньня месц запісу. Трэба, каб у наступны раз (аўтар абяцае працягнуць свой артыкул) была выпраўлена гэтая памылка адносна будучых тэкстаў, а таксама гэтых, што лёгка зрабіць даўшы адпаведны паказчык. Урэшце Арван дае агляд мотываў новага быту ў фольклёры свайго раёну.

У разьдзле „История" дадзена тры артыкулы: „Путно-панцырные баяре — великие вельможи"—*Жигача*, „Курганы" — *Шавельскага* і „Фроловские городища" — *Панова*. Жыгач падае ў сваім артыкуле цікавыя матар'ялы пра сялян б. Чарняцоўскай і Гульцяеўскай валасьцей, якія завуць сябе путна-панцырнымі баярамі, вялікімі вяльможамі. Для вырашэньня пахаджэньня баяр трэба адмысловыя гістарычныя досьледы, якія аўтару ў Невелі могуць быць і недаступны, але ён зробіць вельмі каштоўную працу, калі зробіць усебаковае этнографічнае апісаньне гэтага пласту насельнасьці раёну. Шавельскі даў абагульненьне масавай вучнёўскай працы аб курганох, пералічыўшы і месца знахаджэньне іх. Асабліва цікавыя яго весткі пра валатоўкі. Каштоўная заметка і Панова аб Фролаўскіх археолёгічных помніках.

Такім чынам зьмест зборніка вельмі каштоўны і можа далей выкарыстоўвацца для навуковых досьледаў. Ёсьць ортографічныя памылкі, няяснае пісьмо і інш., але ўсё гэта не зьмяншае каштоўнасьці пачыну невельчан.

М. Касьпяровіч.

**Зборнік народных песень.** Вясельныя песьні (21 песьня). Перадала гр. в. Міраслаўкі Сялібскага сельсавету Сьвіслацкага раёну Бабруйскай акругі *Самсончык Ганна Пракопава*. Запісаў настаўнік Міраслаўскай школы *А. Пятроў*. 212×170 мм.; 22 бал.; пісаны рукой з аднаго боку балоны.

Ва ўсёй краязнаўча-этнографічнай працы зьбіраньне беларускага музычнага фольклёру зьяўляецца найбольш слабым месцам. Галоўнаю прычынаю гэтаму адсутнасьць належнага кіраўніцтва ды актыўнага цэнтру распрацоўкі гэтай галіны, а таксама прадыхтаваных этнографаў-краязнаўцаў. Для запісваньня мэлёдый трэба мець ня толькі пэўныя музычныя здольнасьці, але і быць пісьменным у музычнай справе, добра ведаць нотнае пісьмо і г. д., а такіх краязнаўцаў вельмі мала. Паміж тым у песьні, бадай што, галоўным зьяўляецца мэлёдыя, а ня тэкст. Таму асабліва шчыра трэба вітаць усякую працу ў данай галіне, тым болей, што большасьць гэткіх краязнаўцаў хаваюцца з сваёй працай дома і не жадаюць пушчаць яе ў сьвет.

Даны зборнік А. Пятрова зьяўляецца не адзіным, бо песьні ў ім занумараваны 18—38 нумарамі: № 18 — як толькі запіваюць дзяўчыну, № 19—бацьку, № 20—у канцы запоін, № 21—у час заручын, № 22—як зап'юць маладую, № 23—як пасадзяць за стол, № 24—выбары да вянца, № 25—перад ад'ездам да вянца, № 26—прыезд ад вянца, № 27—як едуць сваты, № 28—як прыедзе малады забіраць маладую, № 29—як маладая цалуе абразы перад ад'ездам да маладога,

№ 30—перад ад'ездам да маладога, № 31—як ад'яжджае маладая да маладога, № 32—як павезьлі маладую, № 33—песьня сястры маладога перад ад'ездам дамоў, № 34—як прыедуць да маладога, № 35—матцы маладога, № 36—як малады едзе да маладой, № 37—як ад'яжджае радня маладой і № 38—песьні радні маладой па ад'езьдзе. Ужо з гэтага пераліку мэлёдый зборніка А. Пятрова відаць, што ён даволі поўна ахапіў сялянскае вясельле сваімі запісамі. Тое, што яны паходзяць з аднае мясцовасьці, робіць запісы асабліва каштоўнымі.

Запісы А. Пятровым зроблены правільна.

Вітаючы працу А. Пятрова, мы некалькі зьдзіўлены чаму з ім ня зьвязана Сьвіслацкае Раённае Таварыства Краязнаўства і Катэдра Этнографіі БАН.

М. К.

*Н. К. Ауэрбах.* Археология. Программа-инструкция для краеведов. „В помощь сибирскому краеведу". Сибкрайиздат, Новосибирск 1929, in 8⁰, 24 стр., ц. 20 коп., 3000 экз.

Беларуская мэтодычна-краязнаўчая літаратура ў галіне археолёгіі надзвычайна бедная. Некалькі артыкулаў (Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і археолёгіі" Доўнар-Запольскага ў „Працах" першага краязнаўчага зьезду, „Ахова помнікаў прыроды і старасьветчыны" Мароза—там-жа, „Укладаньне археолёгічнай карты Беларусі" Даўгялы ў „Працах" другога зьезду ды ў зб. „Краязнаўства", вып. I) ды некалькі дробных заметак абмяркоўваюць толькі некаторыя частковыя пытаньні археолёгічна-краязнаўчай працы. Прымаючы пад увагу неабходнасьць спэцыялізаваньня краязнаўцаў, тым, хто абраў сабе для працы археолёгічную галіну, прыходзіцца карыстацца мэтодычна-археолёгічнаю літаратураю на іншых мовах, і ў першую чаргу на расійскай, як найбольш вядомай нашым краязнаўцам.

Руская мэтодолёгічная літаратура ў галіне археолёгіі даволі багатая (А Спицын. Разведки памятников материальной культуры, Лнгр. 1927; К. Гриневич. Опыт методологии археологической науки, 1926; К. Гриневич. Как заставить говорить древние камни. „Народный Университет на дому" Лнгр. 1925, кн. 1 и 5; С. Жетелев. Введение в археологическую науку, Пгр 1923; В. Городцов. Руководство для археологических раскопок и В. Городцов. Археология, т. I), але і там адмысловых выданьняў для краязнаўцаў ня было. Амаль усе яны былі разьлічаны на падрыхтаваных чытачоў. Гэта, зразумела, ня значыць, што нашы археолёгі-краязнаўцы могуць абмінуць іх—наадварот, усякі, хто спэцыялізуецца на археолёгічным дасьледваньні раёну, павінен дасканала іх вывучыць. Мы толькі хочам адзначыць, што першаю популярнаю інструкцыяю, разьлічанаю на шырокія колы, зьяўляецца ўласна гэта кніжачка Аўэрбаха. Да таго ёю ўдзелена шмат увагі мэтодыцы тэхнікі археолёгічнай працы, аснаванай на некаторых найноўшых дасягненьнях організацыі навукова-дасьледчай працы.

Кніжачка Аўэрбахам напісана з разьлікам на сібірскія ўмовы і складаецца з наступных разьдзелаў: а) багацьці Сібкраю археолёгічнымі помнікамі, б) ахова помнікаў, в) што можа зрабіць сельскі краязнаўца па падліку помнікаў, г) падрыхтоўка краязнаўца, д) праца па ахове, е) сувязь з краязнаўчымі організацыямі, э) як укладаць падлікавую картку, ё) агульныя спосабы апісаньня помнікаў, ж) спосабы апісаньня паасобных відаў помнікаў. У канцы далучаны ўзоры падлікавай карткі, запісаў і інш. Такім чынам яна абхоплівае ўсе элемэнтарныя працы, якія могуць быць выкана, мясцовым масавым краязнаўцам.

Можна сьмела раіць усім мясцовым краязнаўчым організацыям набыць гэтую кніжачку для сваіх рабочых бібліотэчак.

М. Касьпяровіч.

# Краёвая бібліографія.

Працяг *).

Перельмутер, Х. Итоги компании за снижение цен. (Гомельск. губ.), Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 67, с. 57—59.

Перельмутер, Х. Б. Проблема сырьевых заготовок губернии и форма их организации. (В порядке обсуждения). Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 924. № 81. с. 16—20.

Перельмутер, Х. Развитие товарооборота губернии и практита вовлечения в оборот частного торгового капитала. (Гом. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 10. с. 13—15.

Переплетчикова, В. С. и Марголин. Обследование Гомельской щетинной фабрики „Красный Октябрь". (Из Гомельской Санит. Станции Зав. д-р П. С. Марголин). Бел. Мэд. Думка. 928. № 3. с. 30—35.

Пестун, .Х. На борьбу с голодом. (Продовольственная кампания Гомельской губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 920. № 2. с. 2-3.

Пестун, Х. Надо наверстать (Гражданская война в Гомельской губ. в 1918—20 г. г. и задачи мирного строительства). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 32. с. 5—7.

Певзнер, А. Итоги и перспективы финансовой работы (от 8 до 9 губпартконференции) (Гом. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 31-32. с. 52—55.

Певзнер, М. Б. Краткая характеристика малярийной эпидемии в Гомеле (1923-1927). Из малярийного отделения Гомельск. Санстанцыі. Бел. Мэд. Думка. 928. № 6-7. с. 61—64.

Певзнер, А. Местный бюджет (Гомель). (Итоги и перспективы). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 5—9; № 49-50. с. 42—46.

Певзнер, А. Работа кредитных учреждений Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 45. с. 10—12.

Пименов, А. Больше внимания страховому делу. [Гомельск. губ.]. Полеск. Коммунар. 925. № 24 (106) с. 65—68.

П-н, А. Народное абразование в деревне (факты). [Обследование Брагинской вол. Речицкого уезда]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 1924. № 63-64. С. 34—36.

Поздняков, А. Батраки в Добрушской волости. (Опыт учета и учет опыта). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 81 с. 65—67.

Поздняков, А. Еще о шефстве [Гомельский уезд]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 63-64. с. 21—24.

Поздняков, А. Местечковые ячейки в свете проверки. [Речицкий у.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 3 с. 33-37.

Поздняков, А. Работа в деревне. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 54. с. 39—48.

Поздняков, А. Результаты смотра деревенским ячейкам. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 66. с. 9—11.

Полевой, Ант. О языке населения Новозыбковского уезда Гомельской губ. Минск. І. Б. К. 926. 47 стр.

Палікарповіч, К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа. (Па досьледах 1926 г.). Зап. Аддз. Гум. Навук ІБК. 928. кн. 5. с. 123—253, з малюнк.

[ . . . Положение кооперации в районах Смоленской и Гомельской губ., отошедщих к Белорусии. Нар. Хоз-во Бел. 924. № 2-3. с. 195—204.

Поляков, И. Итоги губс'езда рабочих сельских корреспондентов. [Гомель]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 68-69. с. 27—29.

Поляков, И. Перспективы губернской печати. (В порядке постановки вопроса) [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммунар. 925. № 23 (105) с. 45—48.

Порошин, Т. Озимая посевная кампания в Гомельскай губ. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 49-50. с. 51—56.

[ . . Постановления 1-го Гомельского Окружного С'езда Советов 29.III—3.IV. 1927. Гомель. с. 221.

[ . . . Постановления Совета Гомельского Союза Потреб. Об-в. 20-21.X. 1928 г. [Гомель]. 928. с. 8.

[ . . . Потребительская кооперация Гомельского района в 1925-26 хоз. году. (Ма-

*) Гл. „Наш Край" 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12 і №№ 1, 2, 1930 г.

териалы к VI собранию уполномоченных Гомельского райсоюза). Гомель. 927. с. 76.4.

П. Р. Приток рабочих в Гомельскую парторганизацию. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 57. с. 16—19.

П-р, Х. Развитие товарооборота в [Гомельской] губернии и состояние товаропроводящей сети. Полесск. Коммунар. 926. № 13-14. с. 16—22.

Прокопцов, М. Первая Гомельская губернская конференция беспартийных работниц и крестьянок. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 920. № 5. с. 7-8.

[ . . . Промышленные предприятия Гомельщины, отошедшие к Белоруссии. Нар. Хоз-во Бел. 924. № 2-3. с. 189—194.

Прусакова. К губ. совещанию крестьянок—общественниц. [Гомель]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 6. с. 21-22.

Прусакова, Е. На смотру наших сил в деревне. [День 8 марта в Гомельской губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 8. с. 45-46.

Рабинович, А. Итоги и перспективы жилищной кооперации Гомельск. губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925, № 1. с. 47—50.

[ . . . Работа гомельских профорганизаций. — К постановке вопроса на пленуме ЦСПСБ. (По материалам обследования). Проф. Рух. Бел. 928. № 8. с. 2—4.

[ . . . Работа (Гомельск.) Губисполкома от 8-й до 9-й Губпартконференции. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 33. с. 48—53.

Разумаў. Н. Да вынікаў агітпропнарады Залінейнай арганізацыі. (г. Гомель). Бальш. Бел. 928. № 5. с. 57—60.

Разумоў. Н. Правядзеньне беларусізацыі ў Залінейным раёне г. Гомелю. Бальш. Бел. 927. № 12. с. 45-46.

Ракович, Т. Развитие и состояние сель.-хоз. кооперации в Гомельском акруге. Сав. Буд-ва. 927. № 6. с. 154—160.

Раковский, Н. Животноводство Гомельшчыны по данным РКИ). Полесск. Коммун. 925. № 19. с. 9—11.

Растаргуев, П. А. Говоры восточных уездов Гомельской губ. в их современном состоянии. Менск. 927. с. 24. (ІБК.).

Растаргуев, П. А. Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров. Ленинград. выд. ІБК. 927. с. (4). 224.

Ратгаўзер, А., (Людвиг.). Воспоминания [Революционная работа в Гомеле в 1905 г.]. Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 11. с. 23-24; № 12. с. 27-28.

Р-в. Обзор работы кооперативного совещания при Гомельском Губкоме РКП(б). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 38. с. 13—15.

Резников, Н. Курсы по переподготовке волполит.-просвет работников. [Гомель]. Изв. Гом. Губ. Ком-та 924. № 73. с. 20—22.

[ . . . Резолюции совещания секретарей деревенских ячеек Гомельского округа 10—12 сент. 1927 г. Гомель, изд. Гомельск. ОККП(б)Б. 927. с. 94.

[ . . . Рэзолюции Пленума Гомельского Окружн. К-та Партии. 10—12. III. 1928 г. Гомель. 928. с. 16.

Рейзин, З. Библиотечная работа в нашей губернии [Гомельской]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 76. с. 52-53.

Рожанский, Кампания перевыборов сельсоветов. (По материалам с мест.). [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 5. с. 66—71.

Рожнов. Партийная работа в деревне. (По материалам обследования 10 волостей Гомельской губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. 3. с. 17—21.

Розин, А. На переломе. (Некоторые выводы и итоги V губ. [Гомельск.]. с'езда профсоюзов). Полесск. Коммунар. 925. № 21-22 (104) с. 99—101.

Розин. Речицкая организация. (По докладу инструкт. Губкома т. Розине). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 29. с. 26-27.

Руткоўскі, Е. С. Сожскі водны шлях. Сав. Буд-ва. 927. № 5. с. 85—102.

Рыклин, Г. Смотр сельскому учительству. [Конкурс в Гомельской губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. с. 21—24.

Савіч, Н. Папярэдняя справаздача аб геоботанічных дасьледваньнях ў Рэчыцкай акрузе ўлетку 1927 г. Мат. да выв. флёры і фаўны Бел. т. 2. с. 74—77.

Самойлов, Л. О чем говорит 2-й губернск. с'езд рабселькоров. [Гомель]. Полесск. Коммунар 926. № 4. с. 49—52.

Самулевіч, Г. Некаторыя вынікі скарыстоўваньня крэдыту 1928 г. па Гомельшчыне. Шлях Каапэрац. 928. № 14 (74). с. 29—32.

Сачков, М. В ногу с жизнью [Переподготовка прасвещенцев. [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммунар. 925. № 23 (105) с. 35—37.

[ . . . VII. Гомельская губернская конференция РКП. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 15. с. 10—34.

Семенов, С. Д. Очерки по крестьянскому животноводству Гомельского округа. Сав. Буд-ва. 928. № 7. с. 151—162.

Семенов, С. Очерки по крестьянскому животноводству Гомельского округа [Минск]. 928. с. 12.

Сержпутовский, А. К. Отчет о поездке в Гомельскую губ. 1926 г. Минск. І. Б. К. 926. 16 стр.

Серман, Г. Итоги совещания губженотдела [Гомель]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 76. с. 37—39.

Серман, Г. Как прошли и что дали конференции работниц и крестьянок [Гомельской губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 65. с. 16-17.

Серман, Г. Мои воспоминания. [Революционная работа времени 1901—5 г. в Гомеле]. Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 71. с. 59—63.

Сибирский, М. К 4-х летию Советской власти в Гомеле—17-18.XII.1918—1922 г.

Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922. № 33. с. 65-66.

Симхович, М. Очерк сельской кооперации нашей губернии. (По материалам губкомиссии по обследованию деревни). [Гомельская губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 63-64. с. 37—41.

Смігельскі, В. Асобныя моманты культурна-асьветнай працы сярод беларускага насельніцтва Гомельшчыны ў сучасны момант. Маладняк. 926. № 4. (13). с. 115—119.

Смігельскі, В. Кароткі нарыс разьвіцьця Беларускай культ-асьветнай працы ў Гомельшчыне з верасьня 1924 г. па 19.XII.25 г. Полымя. 926. № 2. с. 169—175.

Смігельскі, В. і Троська, Я. Беларуская культурна-асьветная справа на Гомельшчыне. Па матар'ялах Белбюро пры Гомельскім губ. АПА. Асьвета. 926. № 5. с. 144—148; № 6, с. 174—180.

Соркина, Р. 1-ое губернское совещание Совпартшкол (1—4 акт). (Гомель). Изв. Гом. губ. К. РКП. 921. № 13. с. 21—24.

Соркин, А. Вопросы жилкооперации. (По даным обследования РКИ) [Гомельской губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 9. с. 63—67.

Сарокин, А. Итоги перевыборов советов, [Гомельской губ.]. Изв. Гом: Губ. К. РКП. 923. № 37. с. 14-15.

Соркин, А. На путях к новому быту. (К обследованию общественного питания). [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 11. с. 49—51.

Соркин, А. Приток и убыль в [парт] организации за период с 15.II по 1.IV, за апрель и май [1923 г. Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 45, с. 30-31, 46, с. 32-33; № 47-48, с. 68—70.

Соркин, А. Состояние партработы в промышленных районах губернии. [Гомельск. губ.] Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 45. с. 13—17.

Соркин, А. Состояние Гомельской горрайонной организации по итогам качественного учета и ближайшие перспективы ее работы. Изв. Гом. губ К. РКП. 923. № 51. с. 6—11.

[ . . . Состояние и работа Гомельской окружной парторганизации (материалы обследования). Бальш. Бел. 928. № 8. с. 73—83.

[ . . . Состояние производственных ячеек (По материалам обследования). [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммун. 926. № 9. с. 60—64.

[ . . . Список исключенных из партии по Гомельск. губ. (за время с 1.V—1.VIII.1921 г.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 921, № 11. с. 19-20.

[ . . . Список населенных мест Гомельского округа.—Гомель. (Гомельск. Окружное Статист. Бюро. 927. с. 128.

Стандецкий, С. и Зерницкий, М. Рабкоровское движение в Гомеле. По материалам обследования комиссий Гом. ГКК). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 12.

[ . . . Статистические сведения [Гомельск. губ. народное образование]. Народн. Просв. в Гом. губ. 923. № 51—58.

Стечкина, А. Итоги губсовещания женотделов. [Гомельской губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 59. с. 33—35.

Стечкина, А. Итоги 3-й губконференции крестьянок и работниц и губсовещания женотделов. [Гомель]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 40. с. 9--11.

Стечкина, А. К 5 губсовещанию женотделов. [Гомель]. Извест. Гом. губ. К. РКП. 923. № 49-50. с. 28—30.

Стечкина, А. О притоке и убыли женщин в партии. (Гомельский губком). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 57. с. 20—22.

Стечкина, А. Работа среди работниц и крестьянок в губернии. [Гомельской]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 38. с. 15—17.

Стечкина, А. III-я общегородская конференция работниц. [Гомель]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 33. с. 61.

[ . . . Строительство совпартшкол по Гомельской губ. [за XI.1921—1.1922]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 18. с. 13—15.

Тараненко. Подготовка к весенней посевной кампании [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 4. с. 45—77.

Тараненко. Сельское хоз-во к 7-й годовщине октября. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 79. с. 62—67.

Тараненко. Сельско - хозяйственные выставки в Гомельской губ. в 1923-1924 году. Изв. Гом. губ. Ком-та. РКП. 924. № 80. с. 137—139.

[ . . . Тезисы к докладу о национальной политике СССР и белоруссизации школы. (Инструктивное письмо консультационного бюро при губдоме рабпрос). [Гомель]. В помощь просвещенцу. 926. в.VII. с. 11—13.

[ . . . Тезисы отчетного доклада Гомельского Городского Совета XI созыва за период с апреля 1927 г. по январь 1929 г. Басплатн. прил. к „Полесской Правде".

[ . . . Тезисы отчетного доклада Гомельского Гор. Райкома КП(б)Б. к XXI Раённой партконференции за период июнь—ноябрь 1928 г. Гомель. 928. с. 33.

Темкин, И. Медико-санитарное дело на селе в Гомельской губ. и его перспективы. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 6. с. 45—50.

Туянец, В. Беларусы ў Гомельшчыне. Маладняк. 925. № 7. с. 37—100.

Умняков, А. Работа торфяных, огнестойкого строительства и мелиоративных товариществ в Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 11. с. 59—62.

Фаянс, И. Незабываемое. Стрекопытовский мятеж в Гомеле. (Воспоминания). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 9-10. с. 35-36.

Федяев, И. Год работы по упрощению советского аппарата и дальнейшие перспективы в этой области. [Гомельская губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 51. с. 33—37.

Федяев. Итоги перевыборной кампании в деревне. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 35. с. 3-4.

Федяев. О работе горсовета и дальнейших ее формах. [Гомель]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 80. с. 119—192.

Фейгин, Б. Пионерское движение в губернии [Гомельской]. Полесск. Коммунар. 925. № 24 (106). с. 24—27.

Фишбейн, Д. Состояние партработы на Гомельской обувной фабрике „Труд". Бальш. Бел. 928. № 10. с. 85—89.

Фрейдлин, Н. Состояние партработы в деревне по Гомельскому уезду. (Итоги за зимний период). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 65. с. 51-53.

Фрейдман. Работа среди жен рабочих города Гомеля. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 6. с. 87.

Хавкин, Ермак. О работе еврейских губернских курсов по переподготовке учителей. (Гомель). Изв. Гом. губ. К-та РКП. 924. № 75. с. 57-58.

Хавкин, М. Шефство над Красной армией по горрайону. (Гомель). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 4. с. 104-105.

Ханкин, А. (Наумов) и Хавкин, С. (Кунов). Возрождение Полесского Комитета (Из личных воспоминаний) [1910—1914 г. г.]. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 68-69. с. 76—80.

---



Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М.Касьяровіч.**

Цана 50 кап.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраунічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, кардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, Л. Бабровіч, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, М. Валасевіч, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, Проф. Васількоў, В. Вольскі, М. Грамыка, М. Гарэцкі, З. Даўгяла, В. Дружчыц, С. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Кулакоў, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, М. Лур'е, А. Ляўданскі, Д-р Магілеўчык, Я. Мазуркевіч, А. Мікалаеў, С. Мялешка, М. Мялешка, Мацьвяёнак, М. Мікіцінскі, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, Раманчук, В. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, В. Скардзіс, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, А. Шашалевіч, І. Шпілеўскі, М. Шчакаціхін і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | Падпіска з кожнага месяца |

**Гадавым падпішчыкам выдаецца прэмія — „КРАЯЗНАЎСТВА“ — зборнік програм і інструкцый, выд. ЦБК.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У Бюро падпіскі Кніга-поштай (Менск, Пляц Волі, 5), у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, вугал Ленінскай—Унівэрсытэцкай 29/35 Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**

**„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.**

**Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1929 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў — за 13 руб.**

**1 комплект за 1929 г. 3 руб.**

**Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:**

**„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.**<br>
**„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.**<br>
**Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р., другі выпуск — 80 к.**<br>
**Краязнаўства. Зборнік. Цана 1 руб.**<br>
**Краязнаўчым організацыям скідка 25%.**